Анатоль Цітоў

# КРАІНА МАЙСТРОЎ

## Рамесныя цэхі Беларусі: 16 — канец 18 ст.

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2013

УДК 94(476)«15/17»
ББК 63.3(4Беи)
Ц74

У кнізе выкарыстаны ў якасці ілюстрацый матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, Гродзенскага абласнога краязнаўчага музея, Гродзенскага музея гісторыі рэлігіі, Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея, Аршанскага краязнаўчага музея, Нясвіжскага краязнаўчага музея, Пінскага краязнаўчага музея, Слуцкага краязнаўчага музея, а таксама спадчына мастакоў Ёста Амана, Аляксандра Тарасевіча, Яна Лейкена і інш.

Ц74 **Цітоў, А.**

Краіна майстроў. Рамесныя цэхі Беларусі: 16 — канец 18 ст. / А. Цітоў. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі. 2013. — 160 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0649-9.

У кнізе ўпершыню ў Беларусі зроблена спроба прасачыць гісторыю цэхавых устаноў, што існавалі ў розных гарадах нашай краіны ў 16—18 стст. Старадаўнія рамеснікі былі найбольш актыўнай часткай тагачаснага насельніцтва — папярэднікамі сучасных індывідуальных прадпрымальнікаў у розных галінах дзейнасці. Праца напісана на падставе аналізу малавядомых архіўных крыніц. Яна будзе карыснай і каштоўнай чытачам рознага ўзроўню — школьнай моладзі, навучэнцам прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, студэнтам, навукоўцам, краязнаўцам, экскурсаводам, гасцям нашай краіны, наогул усім, хто неабыякавы да беларускай гісторыі і культуры.

**УДК 94(476)«15/17»**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0649-9**

# УСТУП

Гісторыя рамесных аб'яднанняў на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь не мела дастаткова поўнага адлюстравання як у навуковай, так і папулярнай літаратуры. Аўтары, асабліва другой паловы 20 ст., што разглядалі жыццё старажытнага беларускага места, як правіла абмяжоўваліся канстатацыяй факта наяўнасці пэўнага комплексу рамесных спецыяльнасцей, радзей аб'яднанняў, у тым або іншым беларускім месте, не беручы ў разгляд усю праблему цалкам[1].

Уласна слова «цэх» паходзіць ад нямецкага Zeichen, Zeche — знак, знамя, сцяг. Нават у другой палове 16 ст. ў Беларусі яно ўспрымалася не як панятце, што вызначае рамесную суполку, а як «знак». Так, у «Полацкай рэвізіі 1552 г.» у тым раздзеле, дзе пазначаны даходы места, падкрэслена, што «мытники господарские на себе берутъ от шести каменей воску в Полоцку по одному грошу шырокому а от каждое штуки воску цехованого...». У шырокім ужытку тэрміны «цэх» і «брацтва» ў 15—18 стст. часта былі ўзаемазамяняльнымі. Як адзначаў яшчэ В. Ластоўскі, «пачатку крыўскіх брацтваў трэба шукаць у дахрысціянскай мінуўшчыне, калі словам «брацтва» абазначалася амаль не кожная суполка». Ён меркаваў, што найдаўнейшыя брацтвы былі ўтвораны купецкімі аб'яднаннямі. «Яны мелі шчыльную сувязь з царквой, дзе часта купцы перахоўвалі свае тавары. Звесткі сведчаць за тое, што смаленскія купцы ў 12 ст. перахоўвалі свае тавары ў Багародзіцкай царкве, а полацкія — у Сафійскай. Прынаймсці, там захоўваліся выверaныя вагі і меры. Спачатку нашы рамесныя брацтвы былі самабытнай формай прафесійных аб'яднанняў, якія развіваліся паралельна з Заходне-еўрапейскімі цэхамі»[2].

Праўда, трэба адзначыць, што першы тэрмін часцей ужываўся ў дачыненні да тых аб'яднанняў, якія ствараліся з вытворчымі мэтамі. А другі — у тых выпадках, калі справа ішла аб суполках, галоўнай рысай якіх было вырашэнне духоўных і рэлігійных задач. Як адзначалі даследчыкі мінулага, «... у 16 ст. назіраецца тры формы арганізацыі... рамеснікаў: рэлігійна-дабрачынныя, або брацкія, чыста эканамічныя і сумесь тых і другіх»[3]. Для нашай тэрыторыі найбольш шырока была распаўсюджана апошняя форма існавання рамеснай суполкі, а чыста рэлігійныя і асветніцкія функцыі прынялі на сябе арганізацыі, якія называліся «брацтвы». Эканамічныя мэты дзейнасці цэхавых установ былі накіраваны на тое, каб абмежаваць актыўнасць канкурэнтаў у сферы дзейнасці таго ці

[1] Выключэннем з'яўляецца кніга Клімені Ф. В. «Западнорусские цехи в 16—18 вв .» (Кіеў, 1914), але з-за даўнасці часу выдання яна зрабілася бібліяграфічнай рэдкасцю.

[2] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай «крыўскай» кнігі. Коўна, 1926. Бал. 327—329.

[3] Клименко Ф.В. С. 12.

іншага цэха. Духоўна-абрадавыя функцыі зводзіліся да выканання працэсуальных, пахавальных і «алтарных» працэдур. Цэхавыя браты мусілі ўдзельнічаць ва ўрачыстых агульнагарадскіх працэсіях з нагоды вялікіх рэлігійных святаў ці прыезду ў места караля, ваяводаў, біскупаў. Працэдура пахавання сваіх паплечнікаў — майстроў (гэта палажэнне распаўсюджвалася на ўсю сям'ю майстра — ягоных жонку і дзяцей), падмайстраў-таварышаў і хлопцаў-вучняў таксама ахоплівала ўсіх братоў цэха. Хаўтуры «ўбогіх» братоў цэха праходзілі за кошт усёй суполкі. Бывалі выпадкі, калі цэхавыя браты прымалі ўдзел у пахаванні знатных асоб. Для гэтай працэдуры ў кожным цэху было сукно — аксаміт (выкарыстоўвалася таксама падчас правядзення сходак для пакрыцця стала, на які выстаўлялася цэхавая скрынка і за якім урачыста размяшчаўся «прэзідыум» сходкі), неад'емным атрыбутам з'яўляліся свечкі, паходні і г.д. У тым жа складзе і з абавязковай прысутнасцю ўсіх цэхавых братоў (а часам і іх сем'яў) праходзілі працэсіі падчас вялікіх рэлігійных святаў. Алтарныя абавязкі заключаліся ў тым, што той ці іншы цэх мусіў пастаўляць пэўную колькасць воску ці гатовых свечак у вызначаныя прывілеем — статутам царкву ці касцёл, часцей у абодва месты. У некаторых выпадках цэхі атрымлівалі і канкрэтны алтар у храме. Часта братчыкі абавязваліся пабудаваць яго за свой кошт і потым спраўляць там штоквартальныя і інш. набажэнствы і імшы ў гонар рэлігійных святаў.

Адпаведна з прывілеем свой галоўны алтар гарадзенскія злотнікі мелі ў гродзенскім Фарным касцёле, магілёўскія алейнікі-братчыкі выконвалі алтарныя абавязкі ў магілёўскай Богаяўленскай царкве каля свайго асобнага алтара Іаана Хрысціцеля, мірскія кавалі — каля алтара Св. Антонія ў мірскім касцёле. У гэтым жа касцёле, праўда, пры алтары Св. Казіміра, спраўлялі свае набажэнствы і тутэйшыя браты «палотніцкага» цэха. Мірскія шаўцы мусілі адбыць па шэсць абавязковых штогадовых імшаў у тым жа касцёле пры алтары Св. Андрэя, столькі ж «служб Божых» у царкве пры алтары Св. Троіцы і «асабліва ў алтары Панны Марыі». Галоўны алтар для пінскіх рамеснікаў-рэзнікаў быў у царкве Св. Варвары, куды яны таксама аддавалі воск «на свечы», які заставаўся пасля брацкага святочнага і ўрачыстага галоўнага свята, што адзначалася на «Пакравы свята рускага». Кобрынскія рамеснікі кавальска-слясарскага цэха «... подлуг даўніх звычаёў свае набажэнства» мелі пры брацкім алтары Св. Ганны ў мясцовым фарным касцёле, а большасць віцебскіх цэхавых рамеснікаў спраўляла свае духоўныя трэбы «ў брацкай царкве Св. Мікалая ў рынку».

Ва ўсіх выпадках сябры як вытворчых, так і рэлігійна-абрадавых утварэнняў называлі сябе «братамі». Хоць рэзкай дыферэнцыяцыі паміж абодвума тэрмінамі не было, тым не менш, паняцце «цэх» як аб'яднанне рамеснікаў-вытворцаў успрымалася сучаснікамі ў якасці ўстановы, што мела больш



Ткацкі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*



Платнерскі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

высокі статус, чым «брацтва». Прыкладам гэтага можа быць канфлікт, які разбіраўся ў 1647 г. ў каралеўскім задворным асэсарскім судзе, паміж аб'яднанымі ганчарскім, кавальскім, кушнерскім і кравецкім цэхамі «места Камянецкага» і каралеўскім сакратаром, луцкім дэканам, ксяндзом Пятром Ушынскім. Апошні падаў скаргу ў суд на рамеснікаў-мяшчан за тое, што яны не выконвалі і ігнаравалі воскавыя і інш. павіннасці на карысць тутэйшага касцёла. На судзе з братчыкамі ксёндз П. Ушынскі сказаў: «Гэта ўвогуле, ніякія не цэхі, а пахавальныя брацтвы». Такая заява выклікала бурную рэакцыю абурэння і пратэсту з боку цэхмістраў.

Трэба адзначыць, што і прадстаўнікі ўлады ў дакументах, якія выходзілі з іх канцэлярыі, не заўсёды ясна і дакладна фіксавалі гэту дыферэнцыяцыю. У прывілеі 1691 г. караля Яна III Сабескага кобрынскім мяшчанам на заснаванне брацтва Св. Ганны згадваюцца не толькі кавалі і слесары, але і прадстаўнікі інш. прафесій: злотнікі, мечнікі, канвісары, катляры, рымары, цесляры, сталяры, шкляры, стэльмахі, бондары, цырульнікі, ткачы. У тэксце дакумента гаварылася: «...людзі featured рознага рамества цэхавыя і нецэхавыя прасілі ў месце нашом Кобрыне і Гарадку...» даць пэўныя прывілеі. І далей, там жа падкрэслена, што рамеснікі «пры брацкім алтары Св. Ганны ў фарным касцёле... подлуг даўніх звычаёў свае набажэнствы служаць». У канцы прывілея кароль надаў пажыццёвае слясарскае цэхмістроўства Карпу Латукевічу «за распаўсюджванне хвалы Богу». Гэты акт вярхоўнай улады быў канфірмаваны каралём Аўгустам III у 1752 г. Важнай дэталлю з'яўляецца тое, што пасля поўнага падцвярджэння тэксту 1691 г. ў апошнім дакуменце падкрэслівалася, што прывілей нададзены кавальска-слясарскаму цэху.

Рамесныя суполкі былі для братоў своеасаблівай «абаронай» як ад трымаючых уладу, так і ад магчымых канкурэнтаў з боку па-за цэхавых рамеснікаў — «партачоў». Сваімі статутамі яны абмяжоўвалі ў пэўным месце колькасць рамеснікаў, кантралявалі імпарт тавараў, асабліва тых, якія выраблялі братчыкі, што не дапускала падзення іх кошту і таксама забяспечвала пастаянны попыт на вырабы братчыкаў. Рамеснае аб'яднанне, зразумела, не магло безкантрольна павялічвацца. Дзеля гэтага колькасць вучняў у аднаго майстра і тэрмін вучэння строга абмяжоўваліся. Цэхавыя браты працавалі як на заказ, так і на рынак. У некаторых цэхах вялікі заказ паступаў праз цэхмістра, які сачыў за яго выкананнем і з ім разлічваліся заказчыкі. У кожным брацтве-цэху былі старшыя, якія ў большасці выпадкаў мелі абмежаваны тэрмін паўнамоцтваў. Акрамя старшых-цэхмістраў у адміністрацыю брацтваў уваходзілі шафары-ключнікі, асноўнай задачай якіх было сачыць за прыходам і расходам грамадскіх (цэхавых) грошай. У буйных местах, дзе колькасць братоў у цэху была вялікай, «штатным раскладам» яшчэ прадугледжвалася пажыццёвая пасада пісара. На яе абіралі пэўную асобу, але перш чым прыступіць да выканання сваіх абавязкаў, новаабраны пісар мусіў прынеці прысягу. Факт прынясення прысягі пісарам і астатнімі абранымі на пасады ў цэхавую адміністрацыю фіксаваўся ў актавых кнігах тутэйшага магістрата. Не было рэдкасцю, калі да адміністрацыі далучалі таксама і «шпегаў», у задачу якіх уваходзіла рэгулярнае наведванне рынкаў і інш. гандлёвых месцаў, нагляд за тым, каб там не вялі гандаль прадукцыяй цэха тыя асобы, што не запісаны ў яго, за якасцю прадукцыі, якую рэалізоўвалі цэхавыя браты. Як падкрэсліваецца ў дакументах, на гэтыя пасады абіралі людзей «аселых, добрае славы, веры годных». Братчыкі, што займаліся сваёй вытворчасцю, імкнуліся жыць недалёка адзін ад другога, у адным раёне (канцы) места, на адной вуліцы. Па прафесіях гэтых рамеснікаў раёны ці вуліцы іх сумеснага пражывання і атрымоўвалі свае назвы (Ваўкавыск — вул. Пекарская, хоць адпаведнага цэха ў месте пакуль не знойдзена; Гародня — вул. Ганчарская, Залатарская, Рыбацкая; Магілёў — вул. Алейная; Менск — вул. Рымарская; Орша — вул. Рэзніцкая; Слуцк — на Новым месте вул. Гарбарская і г.д.).

Аўтар выказвае шчырую падзяку за прадстаўленую магчымасць збору дакументальных матэрыялаў у архівах Польшчы Касе ім. Ёзефа Мяноўскага (Kasa im. Józefa Mianowskiego Fundacja Popierania Nauki. Warszawa) і куратару праэкта ганароваму доктару Стэфану К. Кучынскаму.

# ЛІТАРАТУРА

Першыя публікацыі, што звязаны з тэмай гэтай кнігі, пачалі з'яўляцца з сярэдзіны 19 ст. Такой працай было **«Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам»** (Мінск, 1848). У гэтым аднатомным выданні прыведзены дакументальныя матэрыялы, што тычыліся цэхавага ладу ў Мінску і Пінску.

**«Акты, издаваемые комиссиею, высочайше утверждённою для разбора древних актов в Вильне».** У 1865—1915 гг. было выдадзена 39 тамоў. Сваім зместам яны ахоплівалі розныя бакі жыцця стажытнага беларускага грамадства, у тым ліку і аспект існавання і функцыянавання цэхавых устаноў у нашых старадаўніх местах. Найбольшая колькасць матэрыялаў, што прысвечана праблеме, якая цікавіць нас, засяроджана ў 6-м томе гэтага выдання. Яны ўтрымліваюць інфармацыю пра берасцейскіх рамеснікаў-шаўцоў, рэзнікаў і інш. У прадмове да тома адзначаецца, што «Время первого возникновения цехов в Берестье не известно. Но принимая во внимание древность самого города, необходимо допустить, что и цехи появились в нем довольно рано, по крайней мере не позже того времени, с которого мы начинаем встречать разные законодательные меры касательно их существования и устройства в древней Речи Посполитой. Так мы уже знаем, что король польский Владислав Ягелло в 1420 году совершенно уничтожил их существование» [дакладней падпарадкаваў іх дзейнасць уладзе і кантролю мясцовых старостаў і ваяводаў. У выпадку не дастаткова дбайнага выканання гэтай пастановы вінаватага чакаў штраф у 70 грошай на карысць скарбу[4] — А. Ц.]. «Затем», — працягваюць складальнікі прадмовы, — «являются статуты Сигизмунда I-го 1538 и 1543 годов, в силу которых цехи вновь восстанавливаются, но с различными ограничениями. Наконец Сигизмунд Август II-ой статутом 1550 г. снимает с цехов все прежние ограничения и восстанавливает их в прежней силе и полноте». Гэтыя дакументы пераканаўча сведчаць аб большай старадаўнасці рамесных брацтваў у некаторых нашых местах. Праўда, недахоп дакументальных дадзеных пакуль не дазваляе зазірнуць у больш глыбокія храналагічныя пласты.

У 7-м томе апублікаваны прывілей гарадзенскім рыбакам; 8-ы том гэтага выдання ўтрымлівае прывілей віленскаму гарбарскаму цэху, а 9-ы поўнасцю прысвечаны цэхам «слаўнага места Віленскага».

Толькі ў 1-м томе пятнаццацітомнага зборніка дакументальных актаў, што выходзілі ў 1863—1892 гг. пад назвай **«Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою**

[4] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мінск, 1936. Т. І. С. 312.

**камісіяю»**, можна знайсці матэрыялы па цэхавых статутах местаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі (статут магілёўскіх кушняроў).

**«Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа».** Гэты чатырнаццацітомны «зборнік» выдаваўся ў Вільні ў 1867—1904 гг. Толькі 1-ы том гэтага выдання ўтрымлівае патрэбную нам інфармацыю: статуты полацкіх цэрылікаў і ганчарска-мулярскага цэха.

**«Историко-юридические материалы, извлечённые из актовых книг губерний Витебской и Могилёвской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске...»** былі выдадзены ў Віцебску за перыяд 1871—1906 гг. у 32 выпусках-тамах. Па разглядаемай праблеме складальнікі апублікавалі шэраг дакументаў, якія звязаны з узні-кненнем і існаваннем цэхавага рамяства ў местах Усходняй Беларусі: Полацка, Віцебска, але пераважная частка дакументальных крыніц тычыцца арганізацыі і функцыянавання рамесных брацтваў «места его королевское мілості Могілёва».


Пекарскі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

Першай грунтоўнай працай, якая была прысвечана даследаванню дадзенага пытання, з'яўляецца кніга Ф.В. Кліменкі **«Западнорусские цехи в 16—18 вв.»** (Кіеў, 1914). У ёй упершыню і найбольш поўна для свайго часу асветлены пытанні існавання цэхавых устаноў у «Западной Росии», г. зн. на тэрыторыі сучасных Беларусі, Украіны і Літвы. Праўда, аўтар аперыруе, галоўным чынам, дакументальнымі матэрыяламі, што тычацца цэхавых устаноў Вільні, Полацка, Магілёва, Бярэсця, Віцебска і зрэдку згадвае ў тэксце кіеўскія ці бельскія і інш. цэхі. Даследаванне ахоплівае не ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі і не ўлічвае колькасць цэхавых устаноў, якія існавалі тут на працягу 16—18 стст.



Гарбарскі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

Вузка лакальная, мясцовая тэматыка ўзнята Ю. Ядкоўскім у працы «Гродзенскія цэхі ў даўніх стагоддзях» (J. Jodkowski. **«Cechi Grodzieńskie w wiekach dawnich».** (Grodno, 1926). Работа прысвечана цэхавым установам Гродна. Яе аўтар працаваў у тутэйшым музеі, чым тлумачыцца той факт, што асноўная крыніцазнаўчая база гэтай невялічкай брашуры звязана, галоўным чынам, з гродзенскімі музейнымі фондамі. Можна нават сказаць, што яна ў пэўнай ступені нагадвае пашыраны рэестр прадметаў гродзенскага цэхавага побыту, якія захоўваліся на той час у музеі. Праўда, у абагульняючай частцы Ю. Ядкоўскі адзначае дзейнасць у 1777 г. ў месте 12 цэхаў — кравецкага, рыбацкага, гарбарскага, кавальскага, рэзніцкага, шавецкага, мулярскага, цяслярскага, ганчарскага, бандарскага, ткацкага і інш. Забягаючы наперад, адзначым, што ў брашуры прыводзяцца дадзеныя толькі пра сем гродзенскіх цэхаў. З тых матэрыялаў, якія ёсць у нашым распараджэнні, выцякае, што рамеснікі мулярскага, цяслярскага, ганчарнага і бандарнага рамёстваў былі першапачаткова аб'яднаны ў агульнае прафесійнае брацтва.

Пэўны інтарэс да працэсаў развіцця ў даўнія часы рамеснай вытворчасці на тэрыторыі Беларусі і Літвы адлюстраваў у сваіх працах С. Александровіч. У яго артыкулах (Alexandrowicz St. Ordynacja miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1647 r. // Rocznik Bialostocki. T. III. Bialystock, 1963. S. 439—447. Яго ж. Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemyslowy w miasteczkach Bialrusi i Litwy XVI do polowy XVII w. // Zeszyty Naukowie uniwersitetu im. Adama Mickewicza w Poznaniu. Historia. Nr. 6. Poznań, 1964. S. 23—54) грунтоўна даследавана рамесная вытворчасць, галоўным чынам, у невялікіх местах і мястэчках. Важнай заслугай С. Александровіча з'яўляецца ўвядзенне ў навуковы зварот новых фактaлагічных дадзеных, часта недаступных з-за месца іх захавання.

Першай працай на савецкай прасторы, дзе абагульнена рэтраспектыўная інфармацыя, што тычылася цэхавых устаноў на тэрыторыі сучаснай Беларусі,

была кніга А.П. Ігнаценкі «**Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв.**» (Мінск, 1963). У кнізе разглядаюцца розныя аспекты функцыянавання рамесных аб'яднанняў, але галоўны ўхіл зроблены на дзейнасць не столькі саміх цэхаў, колькі прадстаўнікоў розных рамесных спецыяльнасцей. Як адзначыў сам аўтар, дадзеная праца «з'яўляецца спробай высветліць лічбу рамесных прафесій і колькасць рамеснікаў у найбольш буйных гарадах Беларусі». Трэба адзначыць, што храналагічная прывязка не можа лічыцца бясспрэчнай — аўтар уключыў у разгляд як цэхавыя ўстановы перыяду іх адноснага заняпаду і крыху пазнейшага росквіту, так і чарговага заняпаду, што быў выкліканы па большай меры знешнімі прычынамі: інтэнсіфікацыяй «увагі» з боку замежных суседзяў. З другога боку, ён жа аперыраваў дадзенымі па рамесных установах у «дарасійскі час» і параўноўваў іх у агульным шэрагу з цэхамі, якія існавалі на нашай тэрыторыі ў пачатку «перыяду Расійскай імперыі». Такая пастаноўка пытання падаецца не зусім карэктнай, бо цэхі ў старажытнасці — зусім не той грамадскі інстытут, што пры «бацюхны цары».

Прыкладна такі ж падыход адлюстраваны ў працы Ф.І. Адашчыка (Адащик Ф.И. Экономическое развитие белорусского города в 17 — первой половине 19 в. (на материалах Витебска) // Автореферат. Минск, 1969).

Абодва вышэйзгаданыя аўтары не адзначылі ніякай розніцы паміж рамеснымі цэхамі, якія існавалі на беларускіх землях у ранейшыя часы (16—18 стст.) і ў перыяд Расійскай імперыі, што, хутчэй, тлумачыцца часам стварэння гэтых прац, чым аб'ектыўнай пазіцыяй даследчыкаў.

Больш абгрунтаваны храналагічна і гістарычна даследаванні А.П. Грыцкевіча (Грицкевич А.П. Социально-экономическое развитие частно-владельческого города Белоруссии в 16—18 вв. (по материалам Слуцка). Автореферат. Минск, 1963). Аўтар абмежаваўся пералікам рамесных устаноў у Слуцку і не даў ясна акрэсленай дыферэнцыяцыі тэрмінаў рамесны «цэх» і «аб'яднанне», якія ўжывае ў сваёй працы. У даследаванні навуковец прыводзіць каштоўную дынаміку змены колькасці рамесных брацтваў: «в конце 16 первой половине 17 века... в Слуцке: цехов и обьединений, не имевших прав цехов — 11... во второй половине 17 века — 16 цехов и 4 обьединения... в первой половине 18 века — 13 цехов... во второй половине 18 века — 11 цехов... в 1797 г. — 18 обьединений и цехов».

У кнізе таго ж аўтара «**Часновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.**» (Мінск, 1975) разглядаюцца, акрамя іншых пытанняў, і праблемы існавання і дзейнасці цэхавых устаноў у прыватнаўласніцкіх местах. Трэба адзначыць, што даследчык, закранаючы гэтую тэму, ухіляецца ў бок статыстычнай канстатацыі колькаснай наяўнасці рамеснікаў той або другой

прафесіі ў канкрэтным месце, не разглядаючы, на наш погляд, у дастатковай меры сам факт існавання і гісторыю дзейнасці цэха як грамадска-вытворчага інстытута. Не ўлічваючы некаторыя пасажы аўтара, прадыктаваныя тагачаснай ідэалагічнай сітуацыяй, трэба адзначыць, што ён увёў у навуковы зварот шмат новых гістарычных дакументаў, звязаных з развіццём рамеснай вытворчасці ў беларускіх прыватнаўласніцкіх местах. Так, у працы згаданы цэхавыя ўстановы Шклова, Любчы, Ушачаў, Койданава, Друі.

Праз чатыры гады ўбачыла свет новая кніга А.П. Грыцкевіча — **«Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв .)»** (Минск, 1979). У главе «Борьба внутри городской общины» аўтар прыводзіць факты сутычак паміж цэхавым старшынёй і шэраговымі цэхавымі братамі. Трэба адзначыць, што далёка не ва ўсіх выпадках, прыведзеных у якасці прыкладаў сацыяльнага антаганізму паміж рознымі групамі рамеснікаў аднаго цэха, можна так адназначна трактаваць гэтыя здарэнні. Часта іх можна разглядаць як праявы бытавых канфлікаў, імкненне прымусіць некаторых братчыкаў выконваць артыкулы цэхавага статута або банальнае жаданне заставіць цэхавых начальнікаў не красці з агульнай скрынкі. На наш погляд, артыкул у статуце 1662 г. слуцкіх шаўцоў «белай работы», які забараняў прыходзіць на сходкі пры зброі, не з'яўляецца дадатковым сведчаннем «пастаянных сацыльных пярэчанняў» ці чымсці выключным. Адпаведныя артыкулы прысутнічалі ў значнай частцы цэхавых статутаў Беларусі задоўга да і апасля названай даты. Праўда, і аўтар адзначыў, што «аналагічнае правіла было ўведзена і ў статуты другіх цэхаў». Але ў дадзенай главе ўзгадваюцца толькі цэхі Слуцка і Капыля.

Цэхавай арганізацыі ў беларускіх, галоўным чынам, каралеўскіх местах прысвяціў раздзел у сваёй кнізе **«Социально-политическое развитие города Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.»** (Мінск, 1975) З.Ю. Капыскі. Ён адзначае, што «...цэхі, аб'ядноўвалі мяшчан у сацыяльна акрэслены, саслоўна арганізаваны калектыў». У распараджэнні даследчыка было 30 цэхавых статутаў. Аўтарам сабрана вялікая колькасць інфармацыі аб прынцыпах дзейнасці рамесных брацтваў у гэты перыяд. Нельга, праўда, пагадзіцца з катэгарычным сцвярджэннем З.Ю. Капыскага аб тым, што рамеснікі-яўрэі, якім уступ у цэх быў забаронены вярхоўнай уладай, з'ўляліся выключэннем з правіла аб абавязковым далучэнні да цэхаў. Гэта сцвярджэнне абвяргаецца наяўнасцю «пакта» 1619 г. паміж берасцейскімі краўцамі-хрысціянамі і «жыдамі-краўцамі», што далучыліся да гэтага цэха. Адпаведна з умовамі «пакту» была прынята пастанова аб тым, што рамеснікі-яўрэі абіраюць паміж сабой двух старшых і штогадова ў «свята жыдоўскае Пурым да скрынкі жыдоўскай цэхавай» плаціць 8 грошаў польскіх і ўносяць таксама на агульныя патрэбы кравецкага цэху на свята Пу-

рым 7 злотых польскіх. Супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі розных канфесій фіксуецца і ў Менску паміж тутэйшым слясарска-кавальскім цэхам і «жыдамі, якія працуюць молатам», калі апошнія, адпаведна з дагаворам, далучыліся да цэху. «Забарона на прафесію», хутчэй за ўсё, дыктавалася ў пэўных выпадках звычайным імкненнем знізіць колькасць магчымых канкурэнтаў Так, напрыклад, у злотнічыя вучні, адпаведна з цэхавымі Статутамі, забаранялася прымаць не толькі «жыдоўскіх дзяцей», але і татарскіх, а таксама дзяцей «лазебнікаў і цэкляроў» [цэкляр — «сышчык» у тагачасных праваахоўных органах — А. Ц.]. Увогуле, хлопчык, які паступаў у навуку, мусіў быць «добрага і пачцівага нараджэння» і, безумоўна, вольным, што абмяжоўвала, у пэўнай ступені, і прадстаўнікоў сялянскага саслоў'я. Поўнасцю можна пагадзіцца са сцвярджэннем З.Ю. Капыскага, што генезіс цэхавых арганізацый не быў фармальна юрыдычным і пазагістарычным працэсам у беларускіх местах.



Збройнікі.
Варштат арбалетчыка.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

Кароткі нарыс развіцця розных цэхаў, дакладней, фіксацыя існавання прадстаўнікоў асобных рамесных спецыяльнасцей прадстаўлена ў манаграфіі І.А. Марзалюка **«Магілёў у XII—XVIII ст.»** (Мінск, 1998). Трэба адзначыць пэўную «лаканічнасць» аўтара пры разглядзе дадзенага пытання. Праўда, ён і не ставіў сабе мэту шырокага асвятлення панарамы магілёўскіх рамесных брацтваў у 16—18 стст.

У тым жа годзе выйшла кніга польскага даследчыка Маўрыцыя Горна (Horn M. **Zydowskie bractwa rzemiesnicze na zemiach polskich, litewskich, bialoruskich i ukrainskich w latach 1613—1850.** Warszawa, 1998), што была прысвечана існаванню «яўрэйскіх» рамесных цэхаў на землях старажытнай Рэчы Паспалітай. Не беручы на сябе адказнасць за ўсю тэрыторыю былой Рэчы Паспалітай, адзначым, што некаторыя высновы аўтара, якія тычацца непасрэдна «яўрэйскіх» цэхаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, падаюцца нам некалькі



Сталярскі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

пасепшымі і спрэчнымі. Так, даследчык згадвае аб існаванні ў Гародні з 1652 г. «кравецкага цэху жыдоўскага». На самой справе, у дадзеным выпадку, як сведчаць дакументальныя крыніцы, на якія спасылаецца аўтар, у 1706 г. ў Гродна адбылася чарговая спрэчка на эканамічнай глебе паміж гродзен-скімі мяшчанамі-хрысціянамі, што ўваходзілі ў тутэйшы кравецкі цэх і «краўцамі, кушнярамі і крамнікамі жыдамі». Першыя абвінавачвалі апошніх у тым, што тыя не выконваюць сваіх абавязкаў у дачыненні да цэха. На гэта рамеснікі яўрэі і гандляры запярэчылі і прад'явілі каралеўскія прывілеі. У прыватнасці, дакумент ад 26 сакавіка 1629 г. дазваляў «жыдам рамеснікам вольно іх рамество рабіць а до цэха не належаць». Былі прадстаўлены ў гродзенскую майдэборыю (магістрат) і іншыя дакументы, у тым ліку ліст ад 16 лютага 1649 г., які падцвярджаў «усі прывілеі жыдоўскія ў месте Гародзенскім». Там жа «усплыў» і дакумент ад 19 красавіка 1653 г. — дамоўленасць паміж рамеснікамі хрысціянамі і іудзеямі пра тое, што апошнія мусяць штогадова даваць на свята Божага Цела «са сваёй скрынкі кравецкай жыдоўскай» у агульную кравецкую скрынку 6 злотых і «два фунты пораху». Канчатковы «угодлівы ліст» быў падпісаны і засведчаны на пасяджэнні гродзенскага магістрата ў 1706 г. Адпаведна з ім «жыды» — краўцы, кушняры і чапнікі не былі абавязаны падпарадкоўвацца цэхавым парадкам, за выключэннем выпадку, калі майстар-іудзей «заказ хрысціянскі папсаваў». Вышэйназваныя павіннасці на карысць брацкай скрынкі засталіся за яўрэямі, але ім дазвалялася трымаць «чэлядзь» хрысціянскага веравызнання, якая абавязкова мусіла быць прыпісанай да цэхавага брацтва. У завяршэнні «угоды» было падкрэслена, што яна канчатковая і калі адзін з бакоў пажадае аднавіць гэту спрэчку, то павінен будзе заплаціць «віну» памерам у 200 коп грошай [12 000 грошай — А. Ц.]. Такім чынам, як нам уяўляецца, мы маем не сведчанні аб утварэнні «жыдоўскага» цэха, а дакументы аб размежаванні паўнамоцтваў

у справе «бізнесу» паміж рамеснікамі хрысціянамі і іудзеямі. Аналагічныя і часта больш шчыльныя супрацоўніцтва паміж рамеснікамі-спецыялістамі-прадстаўнікамі розных канфесій назіраецца і ў старажытным Бярэсці, Менску, Шклове і, магчыма, у некаторых іншых беларускіх местах.

Увогуле, нам здаецца, што роля іудзейскага насельніцтва ВКЛ у структуры рамеснай вытворчасці краіны ў перыяд 16—18 стст. з'яўляецца некалькі гіпертрафіраванай. Мы не маем агульнай карціны і статыстыкі дадзенага пытання па ўсей краіне[5], але дакументальныя крыніцы, напрыклад, па Слуцку, сведчаць, што па свайму нацыянальна-рэлігійнаму складу рамеснікі тут у сваёй большасці былі, як правіла, хрысціяне. Дакумент сведчыць, што «... у 1667 г. у Слуцку [было — А.Ц.] звыш 700 дамоў, з якіх 124 жыдоўскіх. Рамеснікаў у такой вялікай грамадзе [яўрэйскай — А.Ц.] няма, акрамя двух цэрылікаў [цырульнікаў — А.Ц.] і некалькіх краўцоў»[6]. Такім чынам, калі карыстацца агульнапрынятай сярэдняй лічбай — 7,5 чалавек жыхароў на 1 дом, атрымліваецца, што з колькасці насельніцтва цэлага места амаль у 6200 чалавек іудзеяў было каля 1000 чалавек, але рамяством сярод іх займаліся адзінкі, а звесткі ж пра існаванне «цэрыліцкага» цэха ў Слуцку адсутнічаюць.

Пры стварэнні цэхаў на тэрыторыі Беларусі рэлігійная прыналежнасць братоў стала важнай толькі пасля далучэння краіны да Расійскай імперыі. Нам падаецца, што дзяленне па рэлігійнаму прынцыпу было, у пэўнай меры, інспіравана на нашых землях новымі ўладамі. Першы вядомы цэх, што быў утвораны па канфесійных адзнаках — «цэх кушняроўскі кагалу гародзенскага». Упершыню ён згадваецца каля 1797 г.[7] Нагадаем чытачу, што апошні падзел Рэчы Паспалітай адбыўся ў 1795 г. Але мы выйшлі за храналагічныя межы дадзенай кнігі...

Працай, дзе разгледжаны цэхавыя ўстановы аднаго асобна ўзятага горада, з'яўляецца кніга аўтара **«Менск — места майстроў»** (Мінск, 2002).

Геральдыцы і сімволіцы рамесных аб'яднанняў, што існавалі на тэрыторыі нашай краіны ў 16—18 стст., прысвечаны артыкул аўтара.[8]

Такім чынам, наспела неабходнасць у працы, дзе была б зроблена спроба пэўнага абагульнення цэхавых структур, якія існавалі на землях сучаснай Беларусі ў 16—18 стст. Мы разумеем, што прапанаваная чытачу праца не ўтрымлівае ў сабе вычарпальнай інфармацыі па дадзенаму пытанню, і таму аўтар будзе шчыра ўдзячны дабразычлівым чытачам за канструктыўныя заўвагі.

---

[5] і не ставілі такой мэты.

[6] Archiwum Główne Akt Dawnich. AR dział XXIII. Teka 137. Л. 42.

[7] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1711. Воп. 1. Спр. 75. Л. 75.

[8] Цітоў А. Цэхавая геральдыка Беларусі // Мастацтва Беларусі. 1987. № 6. С. 65—67.



Кузніцкі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

# СТРУКТУРА І ФУНКЦЫЯНАВАННЕ РАМЕСНЫХ ЦЭХАЎ

Першыя звесткі пра цэхавыя ўстановы, якія існавалі на тэрыторыі нашай краіны, надзейна захаваны ў даўно мінулых стагоддзях. Нам застаецца толькі па ўскосных дадзеных меркаваць аб старадаўнасці гэтага інстытута. Так, пастанова ад 1420 г., якая была выдадзена каралём Уладзіславам Ягайлай, мела на мэце абмежаваць рамеснікаў і купцоў у цэнаўтварэнні. Існаванне рамесных і купецкіх цэхаў і брацтваў можна смела дапусціць у найбольш старажытных беларускіх гарадах: Бярэсці, Віцебску, Полацку і, магчыма, іншых. Праўда, значна больш падрабязныя дакументальныя сведчанні аб наяўнасці рамесных цэхаў у гарадах нашай краіны датуюцца крыху пазнейшым часам — з сярэдзіны 16 ст.

Стварэнне цэхавых устаноў было, як правіла, прэрагатывай «ініцыятыўнай групы» мяшчан, якія звярталіся да гарадскіх улад з прашэннем. Цэхавы статут пасля абмеркавання і адабрэння на пасяджэнні магістрата атрымліваў каралеўскую канфірмацыю (зацвярджэнне). Гэта працэдура магла мець пэўныя варыяцыі. Напрыклад, кн. Багуслаў Радзівіл мог сабе дазволіць самастойна надаць цэхавыя статуты ў сваім уласным месте — Слуцку. Менш заможныя ўладальнікі, безумоўна, атрымлівалі каралеўскае «блаславенне». Як сведчаць дакументальныя крыніцы, уладальнік Урбан Антоні Грэбніцкі атрымаў дазвол на заснаванне майдэборыі места «Міхалоў» ва ўласным маёнтку Мосар Полацкага ваяводства. Акрамя стварэння майдэборыі кароль дазволіў уладальніку «брацтва або карпарпацыі і цэхі ўселякія купецкія і рамесныя ўстанаўліваць і артыкулы ім надаваць».[9] Пад час надання майдэборскіх (магдэбургскіх) правоў мяст. Ушачы, у прывілеі «году 1689 месяца лістапада 7 дня», былі аб'умоўленыільготы тутэйшым рамеснікам, якія мусілі спрыяць развіццю рамеснай вытворчасці — «...як хрысціянам, так і жыдам, купцам і ўселякім рамеснікам ад пачатку аселасці дзесяць гадоў вольнасці ад павіннасці як да двару нашага [уладальніцкага — А. Ц.], так і да скарбу каралеўскага...»[10].

Гарадскія ўлады непакоіліся аб тым, каб эканамічная дзейнасць знаходзілася пад пэўным кантролем. Аб гэтым сведчыць «ухвала всего маги-

[9] НГАБ. Ф. 1734. Воп. 1. Спр. 56. А. 1447 адв.

[10] НГАБ. Ф. 1734. Воп. 1. Спр. 35. А. 943 –944.

страгу, абы Заполочане и Заречане (і Кабачане — А. Ц.) не куповали жадной речи в домахъ, одно в рынку». Парушальніка чакаў штраф у 10 коп грошай (600 грошай). Гэта пастанова тлумачылася тагачаснымі магістрацкімі чыноўнікамі «абы се тутъ в месте Полоцькомъ жадная дорогость не деела».[11] Дакумент таксама абмяжоўваў дзейнасць і няцэхавых рамеснікаў, якія не маглі, зразумела, безперашкодна гандляваць на рынку.

Дакументам, які абумоўліваў стварэнне рамеснага цэха, быў статут (у некаторых мясцовасцях Беларусі ён называўся вількер, асабліва ў 16 — пачатку 17 ст.). Часта ініцыятарамі ўтварэння цэха ў тым або іншым месте былі тутэйшыя мяшчане-рамеснікі. Яны звярталіся ў месткі магістрат з прашэннем «заактыкаваць артыкулы парадку цэхавога» (статут). Пасля ўзгаднення іх на ратушы перад уладамі места, тыя выдавалі зацікаўленым мяшчанам выпіс дадзенага дакумента, замацаваны мескай пячаткай і подпісамі адпаведных асоб. Гэты выпіс прадстаўляўся на зацвярджэнне каралю. Паміж атрыманнем «выпісу» і каралеўскім зацвярджэннем магло прайсці ад аднаго месяца да палутара дзесяцігоддзяў, але такая акалічнасць не замінала існаванню прафесійнай суполкі. Такім чынам, мы лічым, што часам заснавання рамеснага брацтва трэба лічыць дату атрымання мяшчанамі выпісу з магістрацкіх кніг аб зацвярджэнні іх статута. У 16 ст. вількер быў, як правіла, даволі шматслоўным і ўтрымліваў у сабе вялікую колькасць артыкулаў, якія рэгламентавалі функцыянаванне таго ці іншага брацтва. Напрыклад, цэх берасцейскіх гарбароў і шаўцоў атрымаў у пачатку 16 ст. статут, дзе было аж 44 артыкулы, а ў статуце аб'яднанага рымарска-слясарскага — 54! З кожным стагоддзем колькасць артыкулаў у статутах змяншалася. Калі ў «сярэднестатыстычным» брацкім статуце 17 ст. налічвалася каля 30—33 артыкулаў, то ўжо ў першай трэці 18 ст. іх колькасць рэдка дасягала двух дзесяткаў. Напрыклад, пад час канфірмацыі віцебскіх цэхаў каралём Аўгустам II былі кадыфікаваны толькі 14 артыкулаў. Гэта з'ява тлумачыцца тым, што з цягам часу рамесныя брацтвы сталі звычайным і неад'емным інстытутам грамадскага жыцця, таму значная частка палажэнняў, якія раней фіксаваліся пісьмова, набылі моц традыцыі.

Структура статута выглядала наступным чынам: у прэамбуле давалася матывацыя і тлумачэнне неабходнасці стварэння таго або іншага цэха, затым ішлі непасрэдна артыкулы, якія аб'умоўлівалі дзейнасць цэха і рэгламентавалі яго функцыянаванне. Часта першым было палажэнне аб прынцыпах утварэння ўласнай адміністрацыі, агульным сходзе-сход-

[11] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Т. 1. С. 354.

цы і брацкім (цэхавым) алтары ў царкве ці касцёле, а таксама аб службах у іх. Наступная група артыкулаў рэгламентавала ўзаемаадносіны паміж сябрамі брацтва, парадак прыёму вучняў і тэрмін іх навучання, падмайстраў, новых майстроў, тэрміны навучання той або іншай спецыяльнасці і г.д. Асобны артыкул тычыўся цэхавай пячаткі — сведчання існавання гэтай установы як юрыдычнай асобы, харугвы і герба-сімвала таго ці іншага цэха на ёй. На жаль, апошнія не заўсёды агаворваліся, таму ёсць значная колькасць беларускіх рамесных брацтваў, аб геральдыцы якіх сёння мала што вядома. Як і гербавая пячатка, што была сведчаннем існавання юрыдычнай асобы, так і цэхавая харугва была характэрным атрыбутам кожнага рамеснага брацтва. Як сведчаць дакументальныя крыніцы, яны былі неад'емнай дэталлю кожнага працэсуальнага дзейства. Здараюцца выпадкі, што цэхавая пячатка з'яўляецца адзіным пацвярджэннем існавання рамеснай установы. Так, у сфрагістычнх зборах вядомага даследчыка М. Гумоўскага захоўваецца апісанне адбітка пячаткі шавецкага цэха мястэчка Высокае — «у полі пячаткі выява бота і двух пантофляў».[12] Нашы пошукі гэтага помніка беларускай цэхавай сфрагістыкі, як і якіх-небудзь іншых дакументальных згадак пра гэты цэх, на жаль, не мелі плёну. Яшчэ адным падобным «ускосным» сведчаннем існавання цэха ў мястэчку Давыд-Гарадок з'яўляецца срэбны пацір, што быў спраўлены тутэйшымі цэхмістрамі і ўсім рэзніцкім цэхам і падараваны мясцовай Георгіеўскай царкве ў 1740 г.[13]

Справа ўскладняецца тым, што на працягу 16—18 стст. колькасць цэхавых установ у тым або іншым месте не заставалася нязменнай. У сувязі з рознымі падзеямі палітычнай гісторыі і эканамічнымі зрухамі адзін або другі цэх знікаў, потым адраджаўся зноў, два—тры, а часта і болей цэхаў зліваліся ў адзін агульны, потым з іх вылучаліся новыя. Увогуле, у крыніцах 16—18 стст. узгадваецца каля 200 спецыяльнасцей, што аб'ядноўваліся ў розных камбінацыях альбо фігуравалі ў якасці асобных рамесных цэхаў, колькасць якіх на землях сучаснай Беларусі, па нашых, мяркуем, няпоўных падліках, упэўнена набліжаецца да палутара сотняў.

Паводле выяў і ўкладзенага ў іх зместу ўся цэхавая геральдыка падзяляецца на тры групы: вытворчую, рэлігійную і абстрактную. Найбольш распаўсюджанай, бясспрэчна, з'яўляецца вытворчая, якая, у сваю чаргу, адлюстроўвае як сродкі вытворчасці, так і саму прадукцыю. Трапляюцца гербы, якія аб'ядноўваюць абодва гэтыя віды. Вытворчая сімволіка з'яўлялася ў тых выпадках, калі герб на цэхавую пячатку і харугву не быў

[12] Kraków. Muzeum Narodowe BC. Rkp. 1502.

[13] Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стст. Мінск, 1984.

абумоўлены прывілеем, а значыць з'яўляўся прадуктам мастацкай і геральдычнай думкі тых, хто заказваў або тых, хто выконваў пячатку. Адзіным вядомым на сённяшні дзень выключэннем з'яўляецца герб, што быў атрыманы магілёўскім кравецкім цэхам 1 лютага 1634 г. У дакуменце гаварылася, што цэх павінен мець «харугву, на якой за герб залаты крыж і нажніцы ў белым полі». Падобная сімволіка, дарэчы, была адлюстравана таксама і на харугве Менскага кравецкага цэха.



Пячатка Мінскага аб'яднання зегармістэрскага, збройніцкага, слясарснага і кавальскага цэхаў.
*1770 г.*

У 1636 г. быў створаны і менскі ганчарска-мулярскі цэх. На захаваўшыхся адбітках пячаткі ў чатырохполевым гербе — выявы кельмы і малатка (прылады працы муляраў) і збана з глякам (прадукцыя працы ганчароў). Вытворчая сімволіка адбілася і на пячатцы берасцейскіх кушняроў — іх знакам была «скурка собаля».[14] Магілёўскія пекары мелі за «герб» выяву калача і булкі[15], прыкладна такая ж сімволіка адлюстроўвалася і на пячатцы берасцейскага пекарскага цэха.

Вельмі цікавым у плане ізаграфічнага вырашэння з'яўляецца герб менскага аб'яднання зегармістэрскага, збройніцкага, слясарнага і кавальскага цэхаў. На цэхавай пячатцы, якая была зроблена ў 1770 г., выявы гадзінніка (зегара), перакрыжаваных шаблі і пісталета, а ўнізе — конскай падковы і ключа. Такім чынам, прадукцыя кожнага цэха знайшла адлюстраванне на гербе.

Вытворчую сімволіку мае і герб, што адлюстраваны на пячатцы менскіх шаўцоў, што была «вырыта» [выгравіравана — А. Ц.] у 1675 г. На гербе прадстаўлены інструменты, якія з'яўляюцца найбольш характэрнымі для гэтага старадаўняга рамяства, а над прыладамі працы размешчана выява зоркі і паўмесяца.

Спалучэнне рэлігійнай і вытворчай атрыбутыкі мае герб менскага сталярска-стэльмахоўскага цэха. На жаль, дакументальных звестак пра гэты цэх няма. Адзіным сведчаннем яго існавання ў 18 ст. з яўляецца пячатка з выявай «вока Боскага Наканавання» пад каронай, абкружанага поўным наборам інструментаў, якімі карысталіся браты-рамеснікі.

Гербы з чыста рэлігійнай сімволікай меў шэраг магілёўскіх цэхаў. Усе

[14] Акты, издаваемые комиссиею, высочайше утверждённою для разбора древних актов в Вильне. Т. 6. С. 280

[15] Историко-юридические материалы, извлечённые из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 8. С. 446

яны былі нададзены ім адпаведна з каралеўскімі прывілеямі. Магілёўскім гарбарам у 1634 г. дазвалялася за герб выяву «Панны Найсветшай... на харугві цэхавай мець».

У 1661 г. магілёўскаму купецкаму брацтву былі пацверджаны правы. У дакуменце падкрэслівалася, што «пячатка з вырытым стаячым анёлам з шалямі і крыжам мусіць быці». Больш ранні герб на купецкую пячатку ўяўляў сабой выяву Св. Хрыстафора — заступніка ўсіх падарожнікаў.

Пячаткі з выявамі Св. апосталаў Пятра і Паўла былі ва ўжытку ў менскім і полацкім кушнерска-гарбарскіх цэхах.

Апошняя група — гербы з абстрактнай сімволікай, не звязанай непасрэдна ні з вытворчасцю, ні з рэлігійнымі сімваламі, хоць асацыятыўную сувязь у некаторых выпадках прасачыць ўсё ж такі можна. Такім прыкладам з'яўляецца герб магілёўскага аб'яднанага цэха, у які ўваходзілі мечнікі, слесары, кавалі і катляры. Усе гэтыя прафесіі звязаны з апрацоўкай металаў і толькі апошняя стаіць асобна ад працэсу вытворчасці зброі. У пацвярджальным прывілеі ад 3 чэрвеня 1634 г. гаварылася: «тым звышменованым цэхам за герб Пагоню вызначаны таго гербу Пагоня на харугві і пячатцы цэхавай ужываць на вечныя часы». Як бачым, адзін з відаў прадукцыі цэха звязаны з абаронай і герб усяго цэха адлюстроўвае абарончую сімволіку.

Магілёўскі аб'яднаны рымарскі, сядлярскі і шубніцкі цэх атрымаў дазвол «герб Грыф на харугве і пячатцы цэхавай ужываці». Апошнім з вядомых на сёння гербаў з гэтай групы з'яўляецца герб магілёўскіх злотнікаў, які быў зацверджаны 15 чэрвеня 1634 г. У адпаведнасці з прывілеем ім быў нададзены герб «Леў за кратамі».

Важнае месца ў цэхавай геральдыцы займае адлюстраванне ў эмблематыцы вытворчых і міфалагічных сюжэтаў. Не былі таксама пакінуты ў баку і рэлігійныя матывы. Яны складаюць каля трэцяй часткі агульнай колькасці сюжэтаў.

Цэхавая геральдыка з'яўляецца каштоўнай крыніцай для вывучэння гісторыі як вытворчасці ўвогуле, так і асобных прылад працы і ўзораў прадукцыі. Тып інструментаў можа быць, у пэўнай меры, паказальнікам культурных і вытворчых сувязяў з іншымі краінамі.

Неабходным атрыбутам цэхавага жыцця была і цэхавая харугва. Пад час урачыстых працэсій наперадзе выступаў цэхавы харужы, за якім пад святочны грукат бубнаў рухаліся брацкія падскарбіі, што неслі брацкую скрынку і ўжо пасля іх ішлі майстры, падмайстры і, нарэшце, хлопцы — вучні і цэхавыя найміты — «чэлядзь». Пад час працэсіі, хроснага ходу або прыезду ў места караля ці якога набліжанага да ўлады «вяльможы» — ваяводаў, старостаў ці замежных пасольстваў,

у абавязак цэхаў уваходзіла забеспячэнне ўрачыстасці сустрэчы. Перад асобай, якая ўязджала ў места, схіляліся братчыкі, рабілася «салютацыя» цэхавымі харугвамі, што суправаджалася гучным боем бубнаў і гукамі параднай музыкі. Як адзначалі відавочцы, у 1699 г. у слаўным месте Магілёўскім «...усе магілёўскія цэхі з цэхавымі харугвамі, мушкетамі, гарматамі і гарматнай стрэлянінай...» выйшлі на ўрачыстую сустрэчу з нагоды прыезду праваслаўнага біскупа, архімандрыта Слуцкага, экзарха Канстанцінопальскага Патрыярха Серапіёна Палхоўскага. Аналагічнымі словамі ігумен Арэст апісвае шэсце пад час пахавання таго ж Палхоўскага і прыбыццё ў места біскупа Георгія Канiскага.[16]

Пасля сустрэчы адбываўся «развод» строем сустракаўшых, цэхавыя атрыбуты — харугвы, бубны і інш. разносілі па месцах іх пастаяннага захавання — у цэхавыя дамы ці дамы адпаведных цэхмістраў.

Пад цэхавай харугвай, што была ўпрыгожана выявай герба і часта выявай патранальнага святога на другім баку, усе братчыкі, як ужо адзначалася, выступалі пад час як рэлігійных, так і свецкіх урачыстасцей. Яе ўносілі ў залу пасяджэнняў, дзе адбывалася сходка, пад ёй увесь цэх выходзіў сустракаць караля, ваяводаў, біскупаў. Калі месту пагражала ваенная небяспека, цэхавую харугву выстаўлялі ў тым месцы гарадскога вала ці мура, якое абаранялі са зброяй у руках усе



Цэхавы бубен.
*Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.*

[16] АСД. Т. 2. С. XXXIII, XXXIV, LXVIII.





Сярэбраны знак старшыні гродзенскага аб'яднанага мулярска-ганчарска-цяслярска-бандарскага цэха (17 ст.). *Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей.*

Цэхавы куфар 18 ст. *Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.*

братчыкі. З харугвай суправаджалі ў апошні шлях труну з памерлым братам.

Вышэйшым органам брацкага самакірання была сходка — сход сяброў цэха. Рашэнне аб яе правядзенні прымаў старшы цэхмістр, а апавяшчаў усіх братоў хто-небудзь з малодшых. Ён па даручэнні старшых мусіў абыйсці цэхавых братоў і папярэдзіць аб зборы. Знакам паўнамоцтваў малодшага была «цэхавая таблічка» (або «жэтон» ці «знак старшыні»), якую яму часова даручаў цэхмістр. Галоўнай сходкай, як правіла, была Мікалаеўская (перад Новым годам) альбо на «рускі Новы год». На ёй абіралі старшых цэхмістраў — двух альбо чатырох, «рускай» і «польскай» веры — для абароны інтарэсаў прадстаўнікоў свайго веравызнання. Абавязкам цэхмістраў было скліканне сходак, разбор спрэчак і супярэчнасцей паміж сябрамі цэха, назіранне за выкананнем цэхавага статута,

прадстаўленне інтарэсаў брацтва перад уладамі места і інш.

Ад усіх братоў патрабавалася, каб цэлы год «абраным старшым належнае паслушанства і шанаванне» было. Акрамя старшых цэха, або як іх яшчэ называлі — цэхмістраў, на генеральнай сходцы абіралі шафароў-скарбнікаў. Пасля таго, як абраныя прыносілі прысягу, якая актыкавалася ў магістрацкіх кнігах, яны прыступалі да выканання сваіх абавязкаў. Скарбнікі назіралі за правільным выкарыстаннем, прыходам і расходам брацкіх агульных грошай, якія захоўваліся ў скрынцы. Старшыя цэха мусілі сачыць за тым (і гэты аспект дзейнасці кантраляваўся таксама магістратамі местаў), каб усе даходы «не на збыткі і пьянства» ішлі, але «на аздобу алтара і абарону правоў цэхавых», а таксама за якасцю выпускаемай прадукцыі: «уселякі хто бы работу недбайна ўчыніў, за чым бы скарга да цэху прыйшла», такі абвінавачаны пасля брацкага разбору мусіў узнагародзіць шкоду пацярпеламу, а да скрынкі брацкай паўкаменя воску заплаціць.

Пасля абрання новых цэхмістраў і ўсяго кіраўніцтва цэха адбывалася справаздача «мінуларочных» і новыя, калі ўсе рахункі зыходзіліся, адпаведна са статутам, дзякавалі «старым» за іх працу. Акрамя штогадовай былі яшчэ і штоквартальныя і штомесячныя (і, увогуле, часцейшыя па меры неабходнасці) сходкі. Цэхавыя статуты патрабавалі захавання дысцыпліны пад час іх правядзення. Так, у статуце магілёўскіх пекараў падкрэслена, «абы жаденъ з братіи нашой на схажку подпилый не приходилъ и жадных голосовъ не чынилъ, а поменионы од братіи своей быть не хотелъ и в молчанью заховать се не мелъ, теды таковы каждый до колоды всажоный быть масть, а по выпущенью с колоды масть всей братии поклониться».[17]


Будынак гродзенскага рыбацкага цэха 18 ст.
*Знішчаны ў канцы 1960-х гг. Здымак 1965 г.*

[17] ІЮМ. Вып. 16. С. 119.



Як правіла, сходкі адбываліся ў «дзень нядзельны па палудні» з рэгулярнасцю адна ў два, тры ці чатыры тыдні. Гістарычныя крыніцы захавалі да нашага часу працэдуру правядзення брацкай сходкі. На яе пачатку старшы ўрачыста даставаў са скрыні цэхавы прывілей і інш. дакументы, што ляжалі ў аснове функцыянавання гэтай установы і перадаваў іх у рукі цэхаваму пісару. Апошні пачынаў зачытываць іх у голас. Усе братчыкі мусілі, устаўшы і са знятымі галаўнымі ўборамі, слухаць яго «з учцівасцю і літасцю». Пасля прачытання прывілея дакументы вярталі на месца захоўвання (у скрыню — А. Ц.), а слухачам дазвалялася сесці, «а сеўшы на месца, кожны мусіў даці ад сябе па грошу літоўскаму да агульнай скрыні».

Як ужо адзначалася, абвяшчэнне аб правядзеннні сходкі рабілася малодшымі майстрамі або цэхмістраўскімі пахолкамі. Сходы праводзіліся з мэтай азнаямлення ўсіх братоў са статутам і інш. цэхавымі прывілеямі «дзеля таго каб кожны містр або таварыш нічога праціўнага тым артыкулам» не рабілі, а зрабіўшы, не спасылаліся не сваю «невядомасць», ці для абмеркавання бягучых спраў. Сходкі, як і пасяджэнні цэхмістраў, адбываліся ў хаце аднаго з цэхмістраў альбо ў брацкім доме — «гасподзе». Па заведзенаму парадку сходка лічылася распачатай, калі на стол у цэхавай гасподзе ставілася цэхавая скрынка і старшы майстар урачыста адчыняў яе, даставаў адтуль брацкі прывілей і перадаваў яго ў рукі пісара. Калі хто-небудзь свядома ці несвядома парушаў парадак, то мусіў заплаціць «віны фунт воску». Пасля ўрачыстай часткі пачыналася абмеркаванне бягучых пытанняў. На сходках «радзіліся о добрых рэчах брацкіх і около парадкаў цэхавых і абмысліваліся» розныя выпадкі, якія «на потым» у іх брацтве маглі адбыцца, цэхавыя старшыні і ўсе

цэхавыя браты выносілі рашэнне аб пакаранні тых, хто «праштрафіўся» ў вачах братчыкаў. Цэхавая скрынка была месцам, дзе захоўваліся цэхавыя прывілеі, статуты, дакументы, што тычыліся розных аспектаў дзейнасці цэха, брацкія грошы ад складак, «він» і штрафаў з недысцыплінаваных калег і інш. парушальнікаў цэхавага статута, упісныя і выпісныя рэестры і інш. дакументацыя.



Цэхавая скрыня 18 ст.
*Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей.*

Асноўным дакументам, які ўлічваў усіх сяброў цэха, быў рэестр. Па патрабаванні статута капыльскіх ткачоў у яго ўносіліся майстры на пажыццёвы тэрмін, таварышы-падмайстры — на тэрмін свайго знаходжання ў месте і вучні на ўвесь перыяд навучання. Штогадова гэты рэестр прадстаўляўся на прагляд мясцоваму войту і замкавым уладам пад страхам пакарання ў дзесяць коп грошай.[18] Скрынка папаўнялася праз штомесячныя або штотыднёвыя (ці іншай рэгулярнасці) складкі, выплаты «уступнага» і «выпіснога», абавязковага ўзносу маладых братоў, што паспяхова вытрымалі іспыты на званне майстра, штрафаў і інш. «вінаў» за парушэнне артыкулаў статута або правіл гандлю ў тым ці іншым месце. Скрынка адыгрывала і пэўную сакральную ролю. Яна захоўвалася ў доме цэхмістра або цэхавай гасподзе, яе забаранялася выносіць па-за межы места і часта нават за межы майдэборскай юрыдыкі. Скрынка зачынялася на два або тры замкі, а кожны ключ захоўваўся ў цэхмістраў або шафароў асобна.

У статутах некаторых цэхаў падкрэслівалася, што пад «вінай у чатыры фунты воску», забараняецца рабіць «змовы перад элекцыяй» (выбарамі) супраць мяркуемых кіраўнікоў. Кандыдаты на галасаванне вылучаліся толькі на агульным сходзе. Калі хто на сходцы «замешанне чыніў», такіх «неміласэрдна» каралі 2 фунтамі воску. Улады места не маглі ўмешвацца ў гэты працэс, праўда, калі ўзнікалі на такой сходцы «незнанкі і нязгоды», тады на дапамогу ў якасці вярхоўнага суддзі прыходзіў магістрат, які «дэпутаваў» паноў-радцаў, што меліся «супакоіць» сходку. Цяжкім грахом лічылася непавага да сваіх калег. Майстра, які «паўстаў на брата словамі неучцівымі», мусіў заплаціць штраф 3 фунты воску, а калі адмаўляўся гэта зрабіць, то яму забаранялася выконваць заказы з чэ-

[18] Гродзенскі дзяржаўны гісторыка археалагічны музей. № 15130.

ляддзю (слугамі) і памочнікамі на тэрмін, што вырашаў цэх. Калі нехта на сходцы перабіваў выступаючага або ўлазіў у спрэчку без дазволу старшых, такі мусіў плаціць «віну» у фунт воску «столькі, колькі — крот тое ўчыніць». Не маглі братчыкі прыходзіць на цэхавыя сходкі са зброяй, а калі такое здаралася, то мусілі здаць яе на захаванне старшаму цэхмістру. Тых, хто аслухаўся, чакала даволі суровая кара. Так, менскі цырыліцкі таварыш Базыль Алісіевіча, які на цэхавай сходцы «пры адкрыцці скрынкі цэхавай зневажаў і зелжыл саміх цырылікаў...і слуг меских...», рабіў на іх «пахвалку» (пагражаў — А. Ц.) і, да таго ж, не з’явіўся ў магістрацкі суд для разбора яго паводзін, быў падвергнуты баніцыі [выгнанню — А. Ц.]. Гэта рашэнне было зацвержана каралеўскім судом 11 сакавіка 1648 г.[19] Цікава адзначыць, што віноўнікам скандалу быў сын тагачаснага цырыліцкага цэхмістра — Яна Алісіевіча. Арганізацыя цэхавых устаноў, не гледзячы на разнастайнасць спецыяльнасцей, якія яны аб’ядноўвалі, была амаль аднолькавай: у цэх прымалі «людзей добрых, аселых, парадак і згоду мілуючых, месту прысеглых». На вяршыні цэхавай іерархічнай піраміды знаходзіліся цэхмістры, якія абіраліся з майстроўскага асяроддзя — найбольш кваліфікаванай і прывіліяванай часткі рамеснікаў. Наступная па сваіх «паўнамоцтвах і вазе» у цэху частка — гэта таварышы або падмайстры, а ніжэйшая належала вучням, ці, як іх яшчэ называлі, хлопцам. Часта апошнія дзве групы ў цэхавай іерархіі называлі яшчэ і «чэлядзь», хоць у некаторых выпадках чэляддзю з’яўляліся наймiты, што выконвалі працу, якая патрабавала не столькі кваліфікацыйнага ўзроўню, колькі пэўных фізічных намаганняў.

**ВУЧНІ** — іх называлі «пахолкамі, пахолікамі, хлопцамі». Трапіць ў вучэнне да спецыяліста можна было толькі пасля выканання пэўнай працэдуры: аб кожным, хто жадаў атрымаць прафесійную адукацыю, аб'яўлялася на сходцы ўсім братам цэха з абавязковым «упісаннем» яго ў цэхавы рэестр. Часта перад уступам хлопца для яго патрабаваліся рэкамендацыіі ад «людзей добрых, тутэйшых, аселых і веры годных». Забаранялася далучаць да рамяства асобаў «нетрэфнага» (сумніцельнага) паходжання. Калі рэкамендаваны датэрмінова прыпыняў навучанне, то тыя, хто даваў яму рэкамендацыі, разам з бацькамі хлопца пагашалі матэрыяльныя страты майстра, які прымаў вучня на сваё ўтрыманне. У працэсе навучання і пасільнай працы вучань, як правіла, не атрымліваў (асабліва на першым этапе адукацыі) грошай, а толькі стол і дах над галавой і, безумоўна, навыкі практычнай работы. Праўда, жыццё заўсёды больш складанае,

[19] НГАБ. Калекцыя мікрафільмаў 18. Спр. 334. Л. 311 адв. – 312 адв.



Цеслі за працай.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

чым статутавыя патрабаванні. Так, у 1727 г. ў полацкім магістраце разглядалася справа «аб недаслужэнні гадоў» хлопцам-вучнем у майстра-краўца. Адказчыкам выступаў Даніэль Алейнікoвіч — вучань і, галоўным чынам, ягоны бацька Якуб. Суд пастанавіў, што яны былі абавязаны выплаціць на карысць майстра Сямёна Алексіевіча 10 злотых «ратамі» [часткамі — А.Ц.] і толькі пасля пагашэння ўсёй сумы, па магістрацкім рашэнні, вучань станавіўся «вольным ад [адбыцця — А.Ц.] хлапецкіх лет».[20]

Тэрмін навучання для розных спецыяльнасцей не быў аднолькавым і працягваўся ад 3 да 5 гадоў. На працягласць маглі ўплываць і ўзрост, і здольнасці вучня. У выпадку смерці настаўніка яго вучні размяркоўваліся паміж іншымі цэхавымі майстрамі, дзе яны мусілі скончыць сваю вучобу. У шэрагу цэхавых статутаў трапляецца ўмова, што «еслі хлопец дарослы і дасціпны...», тады тэрмін абучэння яму можна скараціць, прыкладна, на трэць. Здараліся сітуацыі, што ў места прыходзілі хлопцы з няскончаным курсам. Ад такіх патрабавалі паперы ад папярэдніх настаўнікаў і, калі яны вучыліся ў цэхавых «містроў», тады тэрмін навучання залічваўся поўнасцю. У выпадку атрымання ведаў па-за цэхам, вучань мусіў адбыць увесь тэрмін навучання. Хоць вучні ў значнай ступені залежылі ад сваіх містроў, тым не менш, брацтва не пакідала іх па-за полем сваёй ўвагі. У выпадку скаргі вучня на свайго настаўніка за дрэннае абыходжанне (калі гэта падцвярджалі сведкі), майстра пасля 3 папярэджанняў цэхмістра (і калі яны не падзейнічалі на яго) чакала пакаранне і перавод вучня да іншага настаўніка. Не мог майстра трымаць вучня даўжэй за ўстаноўлены статутам тэрмін.

У 1637 г. берасцейскі мешчанін, кушняроўскі майстар Іван Кажан затрымаў свайго вучня звыш устаноўленага тэрміну, і хлопец у знак

[20] НГАБ. Ф. 1823. Воп. 1. Спр. 13. Л. 76 адв.

пратэсту «сваволына» пакінуў яго. Гэтыя падзеі стварылі канфліктную сітуацыю, у якой разбіраўся тутэйшы магістрат. Яго пастанова была наступнай: паколькі хлопец адбыў у вучэнні тры гады і ўжо пачаўся чацвёрты год, майстру Кажану было прадпісана вызваліць хлопца на «бліжэйшай сходцы» і выплаціць яму 8 злотых. А хлопцу было загадана папрасіць за свой сваволны ўчынак прабачэння. Далей у судовым дэкрэце было падкрэслена, што ўсе майстры абавязаны своечасова «выпісываць» хлопцаў (з вучэння) «пад віной у поўкаменя воску і тыдзеня сядзення ў ратушнай вязніцы».

Як правіла, у вучэнне прымаліся дзеці вольных бацькоў, але сустракаюцца і выпадкі, калі авалоданне спецыяльнасцю ўносіла змены ў сацыяльны статус асобы. Такім прыкладам можа служыць лёс Яна Здановіча, які быў падданым нясвіжскага Бенедыктынскага манастыра Св. Яўхіміі і да паступлення на вучобу ў менскі слясарскі цэх жыў у в. Лотвін Навагародскага ваяводства. Пасля заканчэння поўнага курса і жаніцьбы ў Менску, ён звярнуўся з прашэннем аб «звальненні яго з падданства» да настаяцельніцы манастыра Ганны Іаанны Вайніловічаўны. Прашэнне Я. Здановіча было падтрымана «людзьмі добрымі». 1 ліпеня 1678 г. ён стаў вольным ад кляштарнага «падданства» і набыў менскае грамадзянства. •

Заканчэнне курса навук знаменавалася тым, што майстар выпісваў вучня з рэестру і, пасля аплаты апошнім пэўнай сумы «выпісанага», рабіў яго «вольным». Гэта працэдура азначала, што хлопец паспяхова прайшоў курс навучання і набываў больш высокі ранг «містроўскага таварыша» — падмайстра.

**ТАВАРЫШЫ** — падмайстры, што паспяхова скончылі першасны курс навучання. Статус таварышаў, якія называліся яшчэ і малодшымі братамі, быў больш высокім, чым у вучняў. Майстар не мог пакараць таварыша, у адрозненне ад прадстаўнікоў папярэдняй катэгорыі, у сваім доме. Напрыклад, калі майстар меў прэтэнзіі да свайго таварыша, ён мусіў далажыць аб іх цэхмістрам у «цэхавай гасподзе» і прасіць старшых братоў, каб тыя пакаралі сваволнага таварыша. Такога віноўнага «маглі караць толькі у цэху, перад старшымі, якія ўзважвалі спачатку, ці кару заслужыў» і выносілі адпаведны вырак. Вельмі цікавым нам здаецца палажэнне статута дзісненскіх краўцоў аб пакаранні таварыша і нават поўнавартаснага цэхавага брата-майстра, «которые по віне своей былі бы годныя вязення». Калі віна такога была вызначана не толькі цэхавымі старшымі, але і ў прысутнасці двух рочных радцаў места, тады з вінаватага патрабавалася спагнаць «віну — пол безмена воску» і яго падвяргалі арышту. Пакараны мусіў «терпеть вязенне не долей, а толькі две гадзіны», пас-

ля чаго ён мусіў папрасіць прабачэння і вызваляўся ад пакарання, «каб злосць не множылася».[21]

За сваю працу таварыш атрымліваў ад майстра заробак (па 1 злотаму ў тыдзень). Працоўны дзень, як правіла, пачынаўся ў 5 гадзін раніцы і працягваўся з перапынкам на двухгадзінны абед да 8 вечара. На тое, што рабіў падмайстар пасля заканчэння працоўнага дня, «са сваім святлом» і са свайго матарыялу, яго гаспадар прэтэндаваць не мог. Як сведчыць пісьмовая дамова 1789 г., якая была заключана паміж падмайстрам і майстрам менскага слясарна-збройніцкага цэха, работа на гаспадара працягвалася ад 5 гадзін раніцы да 8 вечара, а пасля найміт-падмайстар мог працаваць «са сваім асвятленнем і жалезам» на сябе. Дамова была падпісана на гадавы тэрмін, за працу на працягу гэтага перыяду падмайстар мусіў атрымаць 12 руб. і 2 шаблі кожная коштам у 18 злотых.[22] Пераход падмайстра ад аднаго да другога гаспадара-майстра, у параўнанні з прадстаўнікамі папярэдняй катэгорыі, быў спрошчаны. Калі пад час прыёму ў вучні яго паручыцелямі выступалі не тыя асобы, што пры паступленні ў таварышы, то ён выступаў перад брацтвам як юрыдычная асоба, здольная дзейнічаць без фізічных паручыцеляў, а іх ролю ў пэўных выпадках выконвала брацтва, чыя пячатка замацоўвала дакументы аб атрыманай адукацыі і ступень валодання спецыяльнасцю.

Востры канфлікт у межах места ўзнік у 1791 г., калі рымарскія цэхмістры абвінавацілі менскага бурмістра Фелі-цыяна Каліноўскага ў тым, што ён свавольна адкрыў рымарска-сядзельную лаўку, «не адбыўшы тэрміну пад «майстры», не атрымаўшы званне цэхавага «майстры» і не выконваючы аніякіх павіннасцяў на карысць цэху».[23]

Ад таварышаў патрабавалася «рамесло сваё ціха і прыстойна рабіць», шанаваць «містра і яго містроўну», у святыя дні хадзіць адпаведна у царкву і касцёл, а ў дні адпачынку — у «гасподу цэхавую». Таварышы, зразумела, карысталіся меншымі правамі, чым майстры. Яны мусілі «...у абхаджэнні містроў пільнасць... одправоваць» і «...ні у чым не занедбаць». Тая ж увага патрабавалася і да «містроўскай жонкі, дзетак» і сваіх калег. Калі ў падмайстра ўзнікала неадкладная неабходнасць з'ехаць з места, ён не мог гэтага зрабіць без дазволу свайго майстра. Усе яго распараджэнні і заданні таксама павінны былі абавязкова выконвацца. Каб атрымаць званне цэхавага майстра, таварыш быў абавязаны зрабіць вандроўку працягласцю ў 1 год і 6 тыдняў (у некаторых статутах агаворвасцца двухгадовая) у іншыя месты або краіны. Майстроўскаму сыну рабілася скідка: у якасці тавары-

[21] НГАБ. Ф. 1757. Воп. 1. Спр. 10. А. 20 адв.

[22] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 325.

[23] Беларускі архіў. Т. 3. С. 456.

ша ён мог «служыць полрока» ў інш. майстра, а потым ісці ў вандроўку на той жа тэрмін, што і «шэраговы» падмайстар. Пасля адбыцця «таварыскай службы» як вандроўныя, так і мясцовыя кандыдаты пасля вяртання мусілі «служыць яшчэ рок».

Як правіла, вандроўкі за вопытам рабіліся пераважна ў Вільню, Львоў, Яраслаўль (Украіна), Перамышль, Кракаў, Люблін, Варшаву, безумоўна, не забараняліся і больш дальнія — раманскія або германскія краіны. Галоўным патрабаваннем было, каб там «добра справаваўся і атэстацыю прынёс». Тым, хто па якіх-небудзь прычынах не мог выканаць гэтае патрабаванне, рабілася выключэнне, але пры ўмове ўплаты на карысць цэхавай скрынкі даволі значнай сумы грошай. Калі на званне майстра прэтэндаваў містроўскі сын або той, хто ажаніўся з дачкой ці ўдавой майстра, ад такога патрабавалася толькі палова «датку». Пасля прыняцця падданства, прынясення прысягі на вернасць месту і брацтву і ўваходжання ў юрысдыкцыю горада, падмайстар дапускаўся да іспытаў. Яны адбываліся ў прысутнасці «містроў» цэха, як правіла, двух, якія назначаліся «для прызору», каб «дыпламант» рабіў свае «штукі» самастойна Для выраблення «рэчаў грубых» (цяжкіх — А. Ц.), падачы і палення вугалю, «пабіяння молатам» і інш. падобнай працы цэх вылучаў двух падсобных таварышаў. Але ў працэсе іспытаў, адпаведна са статутамі, ніводны з памочнікаў не мог нават бачыць тыя штукі-майстэрчыкі, што вырабляў прэтэндэнт.



Кузніцкі варштат.

*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

Падчас выканання вельмі складанай працы прэтэндэнт мусіў азнаёміць майстроў з прамежкавымі вынікамі сваёй работы і, калі яны знаходзілі, што прэтэндэнт «рухаецца» ў правільным накірунку, а якасць работы іх задавальняла ці мела нязначныя пагрэшнасці, якія можна



Цвікмейстэрскі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

было хутка выправіць, «дыпламант» працягваў далей сваю працу. У адваротным выпадку іспыты прыпыняліся і няўдалы прэтэндэнт зноў накіроўваўся ў вандроўку. Тэрмін выканання «майстэрчыка, містрштукі, шэдэўра ці штукі» у залежнасці ад спецыяльнасці працягваўся ад аднаго да двух кварталаў. Яшчэ адным патрабаваннем для тых, хто прайшоў абучэнне, вандроўку і працэдуру іспытаў, быў абавязковы ўзнос у цэхавую скрыню «датак» у памеры 100 злотых, праўда, на частках і з растэрміноўкай на 3 гады. Містроўскі сын або той, хто адружаўся з дачкой ці удавой майстра, уносілі толькі палову «датку». У тым выпадку, калі прэтэндэнт не здолеў зрабіць адпаведных «штук», яму, каб стаць паўнавартасным братам цэха, трэба было ўнесці ў цэхавую скрынку 10 коп (1 капа — 60 адзінак) грошай літоўскіх і зрабіць на ўсіх каляцыю. Статуты, як правіла, падкрэслівалі і патрабавалі, каб у цэх прыймалі тых, «хто бы ў рамястве сваім быў добра вывучаны і дасведчаны». Толькі такі чалавек мог прэтэндаваць на званне майстра. Пасля паспяховай здачы іспытаў, пачастунку містрам — братам цэха і адпрацоўкі яшчэ года ў якасці маладога (малодшага) майстра, ён нарэшце набываў статус паўнавартаснага брата цэха — майстра.

**МАЙСТРЫ** — з'яўляліся паўнавартаснымі і паўнапраўнымі сябрамі цэха, менавіта з іх абіралася кіраўніцтва брацтва — цэха. Часта дамы ўсіх майстроў былі вызвалены каралеўскімі прывілеямі ад ўсялякіх пастояў жаўнераў ці падчас з'ездаў дэпутатаў, суддзяў і г. д. Майстры незалежна ад таго, ці жылі яны на зямлі магістрацкай ці манастырскай, ці пры двары якога-небудзь пана, падпарадкоўваліся законам рамеснага брацтва і горада. Нягледзячы на тое, што майстар — гэта вышэйшая ступень прызнання ў рамястве, яны

мелі не толькі правы, але і абавязкі. Цяжкімі грахамі лічылася непавага да сваіх калег. Майстар, які «паўстаў на брата словамі неучцівымі», мусіў заплаціць штраф на ратушу 3 фунты воску, а калі ён адмаўляўся гэта зрабіць, то яму забаранялася выконваць заказы з чэляддзю (слугамі) і памочнікамі на тэрмін, які вырашыць цэх. Калі майстар адважыўся на сходцы перабіць выступаючага або ўлезці ў спрэчку без дазволу старшых, то ён павінен быў плаціць віну ў фунт воску «столькі, колькі крот тое ўчыніць».

Яны не маглі мець болей, чым дзве галоўныя работы адначасова, і толькі пасля іх завяршэння цэхавыя правілы дазвалялі брацць трэццюю. Майстрам забаранялася пераманьваць чэляднікаў у сваіх калег. Адпаведна з цэхавым статутам, кожны з майстроў мог мець адну майстэрню-варштат і толькі адну краму для рэалізацыі. Не маглі таксама майстры і перахоўваць падмасцер'я-таварыша, якому б таемна даручалі майстроўскую работу. За гэта чакаў вялізны штраф у 2 камені воску (старажытная мера вагі, 1 камень – ад 25 да 32 фунтаў). Калі хто з майстроў «пад'упаў з прыпушчэння Божага», то такому чалавеку з цэхавай скрынкі выдавалі дапамогу, якую ён мусіў вярнуць пасля папраўкі свайго здароўя. У тым выпадку, калі хвароба скончылася смерцю, то грошы спадкаемцамі не вярталіся.

Удовы братоў цэха карысталіся яго падтрымкай і мелі дазвол займацца рамяством год і 6 тыдняў пасля смерці мужа ў тым выпадку, калі іх шлюб быў бяздзетным. Калі ж у іх былі дзеці, то такая ўдава магла «бавіцца» кравецкім «кюнштам» да ўласнай смерці ці да шлюбу з рамеснікам інш. спецыяльнасці. У выпадку, калі яна раней вызначанага тэрміну ўступала ў паўторны шлюб, то ад таго часу яна выходзіла з-пад цэхавага заступніцтва (юрысдыкцыі). Цэх апекаваўся не толькі аб удовах, «але і аб саміх майстрах, калі брат цэхавы, з дапушчэння Божого, хваробай быў зложон» (такому брату цэх вылучаў «найлепшага» таварыша, які дапамагаў яму ў працы).



Кавальска-слясарскі варштат.
Дрэварыт Ёста Амана.
*Другая палова 16 ст.*

# ІНВЕНТАР ЦЭХАЎ, ШТО ДЗЕЙНІЧАЛІ Ў БЕЛАРУСІ

(да канца 18 ст.)



## БЯРЭСЦЕ (БРЭСТ)

**АБ'ЯДНАНЫ КАВАЛЬСКА-СЛЯСАРСКА-МЕЧНІЦКА-РЫМАРСКІ ЦЭХ** — канчатковае фарміраванне адбылося ў 1638 г., што было зафіксавана ў берасцейскіх мескіх актавых кнігах.

**АБ'ЯДНАНЫ РЫМАРСКА-СЛЯСАРСКА І ІНШ. ЦЭХ.** У 1622 г. да мясцовых улад звярнуліся тутэйшыя майстры, абываццелі берасцейскія Станіслаў Главацкі, (рымарскі цэхмістр рэлігіі рымскай), Гаўрыла Міхалковіч (кавальскі цэхмістр рэлігіі грэчаскай), «а пры іх былі» слесар Лурэнс Торнскі, пушкар Андрэй Чэстахоўскі, мечнік Іван (?) — Калілінейка, катляр Станіслаў Франіковіч, якія паклалі копію вількера (статута) варшаўскага цэха і два статуты сваіх цэхаў (першы ад 18 верасня 1609 г., другі ад 5 верасня 1614 г.). Новы статут быў нададзены 10 кастрычніка 1631 г. і налічваў 54 артыкулы. У адзінае рамеснае брацтва аб'ядноўвалася вялікая частка берасцейскіх рамеснікаў як блізкіх

спецыяльнасцей не стала жыццяздольным і з брацтва вылучыўся шэраг спецыялістаў у АБ'ЯДНАНЫ КАВАЛЬСКА-СЛЯСАРСКА-МЕЧНІЦКА-РЫМАРСКІ ЦЭХ. Прадстаўнікі іншых спецыяльнасцей, лагічна было б меркаваць па ўскосных дадзеных, аб'ядналіся пад «крылом» сталяроў.

**ГАНЧАРСКА-МУЛЯРСКА-ШКЛЯРСКА-СТРЫХАРСКІ ЦЭХ** — статут быў заактыкаваны на пасяджэнні берасцейскага магістрата 28 мая 1622 г., а 20 чэрвеня ён быў канфірмаваны каралём. У вількеры налічвалася 45 артыкулаў. Адпаведна з ім, у цэху мусілі праводзіцца кожныя 2 тыдні сходкі, на якіх браты абмяркоўвалі бягучыя праблемы. Цэх узначальвалі 4 цэхмістры (па аднаму ад кожнай спецыяльнасці), пры гэтым абавязковым патрабаваннем з'яўлялася, каб пароўну былі прадстаўлены ў цэхавай адміністрацыі вернікі «рымскага і грэчаскага» вызнання. Усе, хто жадаў «ганчарную (справу — А. Ц.) альбо кафлі печ і іншую работу з гліны, вапны, цэглы, шкла рабіць» у якасці майстра, «хрысціянін, альбо жыд», мусіў «первей» прынесці прысягу перад Берасцейскім магістратам, затым унесці ў цэхавую скрыню 2 капы грошай літоўскіх, 8 фунтаў воску і «справіць брацкую каляцыю». Абавязковым патрабаваннем для кожнага майстра было «показать штукі свайго рамесства». Калі хлопец паступаў у вы-



Ганчарны варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

і сумежных спецыяльнасцей, так і не надта роднасных. Сюды ўвайшлі каталікі рымары, мечнікі, пушкары, канвісары-меднікі, паснікі, мяхоўнікі, сталяры, сніцэры (рэзчыкі па дрэву), стэльмахі, коладзеі-калёснікі, бондары і прадстаўнікі некаторых інш. прафесій як «рымскай так і грэчаскай» рэлігіі. Сын Жыгімонта III Вазы — кароль Уладзіслаў IV 11 чэрвеня 1633 г. пацвердзіў гэты статут «ва ўсіх кандыцыях». Трэба адзначыць, што такое злучэнне прадстаўнікоў розных

чэнне, ён плаціў у брацкую скрынку 12 грошай, а пасля яе заканчэння — 1 злоты і частаваў братчыкаў бочкай піва. Вельмі пільна сачылі цэхавыя рамеснікі за сваімі канкурэнтамі, што займаліся вырабам або «перакупам» прадукцыі, якую яны выраблялі. У статуце падкрэслена, што «забараняецца перакупам кафляў, міс гліняных, гарнцаў, шкленіц работы польскай, турэцкай ці іншай гандляваць на рынку пад страхам страты тавару», палова якога ішла ў выпадку парушэння патрабавання на карысць замку, а другая — брацтва. Тыя ж ганчары, што прыязджалі на «тарг з гарнцамі чорнымі альбо паліванымі», мусілі па «стараму абычаю» даваць на карысць замкавых улад па 1 гарнцу. Прыезджыя не маглі «гандляваць далей палудня, а пасля палудня мусілі ўсё прадаць тутэйшым ганчарам».

**ГАРБАРСКА-ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — гісторыя гэтага вытворчага аб'яднання ў сувязі з ідэалагічнымі калізіямі канца 16 – першай паловы 18 ст. даволі складаная. Ускосныя звесткі сведчаць, што брацтвы рамеснікаў гэтых прафесій існавалі ў месце даволі працяглы тэрмін, але дакументальныя звесткі аб ім стала фіксуюцца толькі ў першай палове 17 ст. Спачатку права на ўтварэнне цэха атрымалі праваслаўныя мяшчане. Статут цэха быў зацверджаны ў 1622 г. Акрамя спецыялістаў згаданых прафесій да брацтва былі далучаны «ўсе хто ремесло робіт ремеслом гарбарскім». Той, хто жадаў далучыцца да брацтва, мусіў заплаціць у цэхавую скрынку 8 коп грошай літоўскіх, праўда, для «сыноў містроўскіх» плата была зніжана да 2 коп. Братчыкі мелі штомесячныя сходкі ва ўласнай гасподзе, адміністрацыя — старшыя цэха для абмеркавання бягучых пытанняў збіраліся на свае нарады (сходкі) кожныя 2 тыдні. У канфірмацыі статута (14 студзеня 1632 г.) было падкрэслена, што з мэтай пазбягання «дарагавізны», забараняецца купцам і «перакупам» тутэйшым і прыезджым як хрысціянам, так і жыдам набываць «быдло пад віной» у 1000 злотых. 16 мая 1640 г. каралём быў нададзены статут (налічваў 44 артыкулы) мяшчанам каталіцкага і уніяцкага веравызнання. Цэх узначальвалі 2 цэхмістры гэтых «канфесіяў». Ключы ад цэхавай скрынкі захоўваліся ў 2 ключнікаў адпаведных веравызнанняў, а сама скрынка 1 год захоўвалася ў цэхмістра каталіка, другі — у ўніята. Цэхавыя прыбыткі дзяліліся — палова шаўцам і палова гарбарам. Духоўныя трэбы братчыкі каталікі задавальнялі пры Берасцейскім Фарным касцёле, а ўніяты ў катэдральнай царкве Св. Міколы. Да цэха былі далучаны саф'янікі і кардыбанікі. Падчас абвастрэння рэлігійных супярэчнасцей першай паловы 17 ст. на братчыкаў паступіла (8 мая 1641 г.) скарга ў мясцовы магістрат ад

уніяцкіх святароў (на ўсю брацію «бунтаўнікоў старых і маладых») за тое, што яны ў парушэнне каралеўскага дэкрэту не выконвалі свае «павіннасці» на карысць Берасцейскага Фарнага касцёла і «царквы мураванай катэдральнай», не ўдзельнічалі ў святкаванні Вялікдня, не давалі воск на свечкі і г.д. Далей адбылося нарастанне агульных прэтэнзій: цэхмістры-каталікі таксама падалі скаргу ў магістрат на праваслаўнага цэхмістра і берасцейскага бурмістра Яраша Марцінавіча Сароку і «ўсю брацію за крыўду Бога і цэха іх шаўскога рымскага і зневазе святой каталіцай веры, караля», бо яны не выконвалі павіннасці на карысць катэдральнай саборнай уніяцкай царквы Св. Міколы і не аддавалі ёй «даходаў брацкіх». У сваю чаргу вышэй згаданы Я.М. Сарока падаў 22 снежня 1640 г. «пратэстацыю» на сваіх калег шаўцоў-каталікоў, заявіўшы, што тыя пад час актыкацыі прывілея (1640 г.) Уладзіслава IV без згоды праваслаўных братоў цэха ўнеслі іх імёны ў прашэнне аб зацвярджэнні статута. Гэта прывяло да распаўсюджання дзеяння артыкулаў статута і на праваслаўных шаўцоў Бярэсця, якія «з даўніх часоў прывілей караля мают». Кропка ў гэтай спрэчцы была пастаўлена ў «пятніцу па Панне Марыі Грамнічай» 1641 г., калі каралеўскі задворны асэсарскі суд на абвінавачанне старшых і малодшых цэха шаўскога і гарбарскага пастанавіў, што яны «к яўнай зневазе святой веры каталіцкай і насуперак прывілею караля Жыгімонта III, не хочуць службу Божыю адравоваць: да касцела фарнага не ходзяць і воску царкве саборнай уніяцкай не аддаюць». Далей праваслаўныя браты абвінавачваліся ў тым, што тых мастроў, якія «в уніі знаходзяцца да старшэнства ў цэху не дапускаюць, таксама да даходаў і вольнасцей цэхавых». Каралеўскім судовым дэкрэтам быў скасаваны прывілей шаўцам «рэлігіі грэчаскай» і было падкрэслена, што «прывілей году 1640 месяца траўня 16 дня» застаецца адзіным для ўсіх берасцейскіх гарбароў і шаўцоў. Далей было прад-



Гарбар. *Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

пісана абіраць старшых цэха ў прапорцыі: палова каталікоў і палова ўніятаў і праваслаўных. Праваслаўным забаранялася праводзіць якія-небудзь сходкі без прысутнасці каталікоў і яны абавязваліся дапусціць да «даходаў ад крамы мескай шавецкай і гарбарскай, каталікоў і ўніятаў». Апошняе прадпісанне дэкрэту патрабавала ад усіх братоў цэха замацоўваць мір паміж сабой пад «віной ў тысячу коп грошай літоўскіх, з якіх палова на фарны касцёл і другая — на цэхавыя патрэбы».

**ЗЛОТНІЦКА-МАЛЯРСКІ ЦЭХ** — у рэвізіі места, якая адбылася ў 1566 г., згадваюцца 4 злотнікі, што працавалі ў Бярэсці. Рамесны цэх тут быў створаны, калі не лічыць Вільню, першым сярод аналагічных у Беларусі — 17 красавіка 1599 г. Статут быў зацверджаны ўладамі места, а літаральна праз 2 тыдні — 3 мая — каралём Жыгімонтам III Вазай. Цікавай асаблівасцю берасцейскага цэха было тое, што акрамя злотнікаў у яго стварэнні прынялі ўдзел і мастакі, што абумовіла існаванне аб'яднанага злотніцка-малярскага цэха. З'яўлялася адзіным падобным брацтвам сярод існаваўшых на тэрыторыі Беларусі аб'яднанняў рамеснікаў гэтай спецы-ялізацыі. Прыняты дакумент строга абараняў манапольныя правы тутэйшых цэхавых майстроў. Як сведчыць адпаведны артыкул статута, усялякі, хто б адважыўся трымаць няцэхавага злотніка або мастака «на кватэры» падлягаў штрафу ў памеры 108 коп грошай, палова якога ішла на карысць тутэйшага ўрада, а другая — цэха. Статут утрымліваў патрабаванне аб двухгадовай вандроўцы «у далёкія і чужыя» месты для ўдасканалення свайго рамяства. Нагадаем, што ў другіх цэхах дастатковай лічылася гадавая. Статут брацтва быў зноў канфірмаваны сынам Жыгімонта III Вазы — каралём Уладзіславам IV «у годзе 1633 лютага 2 дня». Дадаткова ён падкрэсліў, што ніхто іншы, акрамя злотнікаў цэхавых прысяглых, не можа «смалеваць» срэбра ў месте. Гэты ж дакумент падцвярджаў, што замкавы ўрад не павінен прыцягваць злотнікаў да свайго суду і яны падлягаюць толькі юрысдыкцыі берасцейскага мескага ўрада.



Злотніцкі варштат

*Французскі медзярыт з алегарычным сюжэтам. 18 ст.*

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — быў заснаваны адпаведна з прывілеям Жыгімонта III Вазы 12 ліпеня 1595 г. Наступны прывілей быў выдадзены краўцам «рэлігіі грэчаскай» 6 ліпеня 1609 г. Паводле дэкрэту асэсарскага суда ад 22 кастрычніка 1611 г. быў утвораны аб'яднаны кравецкі цэх рэлігіі рымскай і грэчаскай. Праз некалькі гадоў прывілей быў «узмоцнены» і да яго дадаліся «кандыцыі», якія рэгулявалі адносіны ў месте паміж братчыкамі і жыдамі. Адпаведна з гэтымі ўмовамі кожны «новапрыбылы», хто жадаў «рабіць рамество», мусіў заплаціць у цэхавую скарбонку 3 капы грошай літоўскіх і ў Вялікі пост уносіць па 2 грошы. Правілы распаўсюджваліся як на «жыдоў краўцоў», так і на мяхоўнікаў і чапачнікаў. Далейшая кансалідацыя рамеснікаў названых спецыяльнасцей і веравызнання адбылася 16 ліпеня 1619 г., калі яны заключылі «пакт» і была прынята пастанова аб тым, што рамеснікі-яўрэі абіраюць паміж сабой 2 старшых, штогадова ў «свята жыдоўскае Пурым да скрынкі жыдоўскай цэхавай» плацяць 8 грошай польскіх, а на агульныя патрэбы кравецкага цэха на свята Пурым — 7 злотых польскіх. Гэтыя прывілеі і «пакты» былі канфірмаваны ў 1639 г. і, адпаведна з канфірмацыяй 28 лістапада 1643 г., берасцейскім краўцам дазвалялася ўжываць статут краўцоў места сталічнага Віленскага. Пазней, 14 снежня 1664 г. ўсе гэтыя прывілеі і пакты зноў былі канфірмаваны. У 1638 г. ўзнік канфлікт паміж берасцейскім лаўнікам, цэхавым братам Янам Дыспутам і цэхмістрамі. Ён абвінаваціў апошніх у празмерных паборах, бо тыя назначылі яму «ўступнага» у памеры, роўным 50 злотым. Магістрат, разгледзеўшы справу, пастанавіў, што пад час далучэння новых братоў з іх не можа брацца ўступнога больш за 10 злотых, а пры ўмове выканання прэтэндэнтам «штукі» такі чалавек увогуле вызваляўся ад платы. Праўда, тыя грошы, што былі ўзяты з паступіўшых раней, заставаліся ў цэхавай скарбонцы.


Прас.
*19 ст.*

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — быў створаны адпаведна з прывілеем караля Стэфана Баторыя 1 красавіка 1579 г., потым быў канфірмаваны Жыгімонтам III Вазай 10 студзеня 1591 г. і яго сынам Уладзіславам IV 9 лютага 1641 г., калі, як сказана ў дакуменце, «людзі набажэнства Рымскага і Грэчаскага» — берас-

цейскія мяшчане кушняры Андрэй Маховіч і Андрэй Даніловіч «супілікавалі» (скардзіліся — А.Ц.) аб канфірмацыіі ім цэхавага статута. Літаральна праз некалькі месяцаў у берасцейскі магістрат падалі скаргу святары берасцейскай капітулы на цэхмістра каталіцкага Яна Чвера і ўніяцкага Андрэя Сліўку за тое, што частка братчыкаў, якія адмовіліся ад паслушэнства касцёлу і ўніяцкай царкве Св. Міколы, перайшлі пад «паслушэнства схізматыка» луцкага епіскапа і святкавалі Вялікдзень у праваслаўнай царкве Св. Сімеона. 3 верасня 1613 г. берасцейскі магістрат даў дазвол братчыкам на «збудаванне шопы для продажу кушнерскіх тавараў... у рынку». Рамеснікі атрымалі дазвол на рынкавы пляц (грунт) з умовай штогадовай платы чыншу памерам у 3 капы грошай (пасля свята Св. Марціна). Акрамя таго братчыкі не маглі нікому яго прадаць, адпісаць за даўгі, хоць мелі права ўзвесці на ім будынак, прадаць яго альбо зруйнаваць. Гэты ж дагавор быў падцверджаны ў магістраце 6 жніўня 1641 г.

**ПАНЧОШНА-МАГЕРНІЦКАЕ БРАЦТВА** — утворана паводле прывілея ад 8 кастрычніка 1670 г. караля Міхаіла Карыбута Вішнявецкага «...для помнажэння і пашырэння хвалы Божай і аздобе касцёлаў і царквы...» па прашэнню берасцейскага базыльянскага манастыра пры царкве Св. Апосталаў Пятра і Паўла. Братчыкі карысталіся ўсімі правамі і прывілеямі, якія распаўсюджваліся на «брацтвы рэлігіі грэчаскай» на тэрыторыі ВКЛ. Усе сябры брацтва былі аб'яўлены вольнымі ад абавязкаў на карысць тутэйшых цэхаў. Братам было дадзена права «вольнага сычэння мёдаў і з тых мёдаў яны мусілі ўвесь воск аддаваць на карысць Пётра — Паўлаўскай царквы».

У канцы прывілея кароль падкрэсліваў, што ні магістрат, ні іншыя мясцовыя цэхі не могуць уціскаць братчыкаў пад страхам віны ў 1000 коп грошай.



Кушнерны варштат.

*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

**ПЕКАРСКА-ПІВАВАРСКІ ЦЭХ** — статут цэха быў зацверджаны 7 верасня 1622 г. ваяводай і войтам берасцейскім Астафіям Тышкевічам па прашэнні цэхмістра Вакулы Верамеёвіча і 15 яго калег. Разам з рамеснікамі названых спецыяльнасцей да яго былі далучаны тыя, хто «шынкуе макам, пшаном, грэчкай, соллю» і г.д., крупнікі, крахмальшчыкі, усе «перакупнікі і перакупкі». Каб стаць паўнавартасным братам цэха, трэба было ўнесці ў цэхавую скрыню 4 капы грошай, потым паведаміць аб сваім жаданні бурмістрам і прыняць мескую прысягу. Увогуле статут патрабаваў, каб не толькі самі браты цэха былі «пачцівыя не падэйзраныя ўчцівага лёсу», але і іх жонкі мусілі быць таксама «учцівага лёсу». Рамеснікі павінны былі знаходзіцца ў шлюбе, які асвечаны духоўнымі ўладамі. Статут патрабаваў ад братоў, каб яны гандлявалі толькі ў рынку, а калі хлеб прывозілі на продаж ў Бярэсце «хлопы з навакольных вёсак», яны мусілі заплаціць цэхмістру паўтара грошы, інакш іх прадукцыя падлягала канфіскацыі: палова на карысць «шпіталя Саскага, а другая Рускага». Гандляры і перакупы маглі займацца сваім рамяством, калі яны мелі ліцэнзію «пад цэхай (кляйном, пячаткай) ратушнай». Статут быў канфірмаваны 16 студзеня 1632 г.

Бровар.
*Чэшскі дрэварыт. 17 ст.*



Не ўсе братчыкі строга прытрымліваліся статута, у 1624 г. адбылося судовае пасяджэнне берасцейскага магістрату па справе, якую распачаў цэх супраць аднога са сваіх братчыкаў Кадрата Дудчыча. Магістрат прыгаварыў яго да тыднёвага зняволення за тое, што ён гадляваў хлебнымі прадуктамі без уплаты адпаведнага мыта. Цэх стала функцыянаваў на працягу некалькіх стагоддзяў, аб чым сведчыць пячатка берасцейскіх пекараў.[24] Калі ўлічваць той факт, што паводле царскага законадаўства

[24] Вопіс пячаткі берасцейскіх пекараў першай паловы 19 ст. ( паводле М. Гумоўскага) — Ø 27 мм. Легенда: **+URĄD STAR : ZGROM : PIEKARZY / BRZESC.** Вытворчая эмблема — прэцэль [крэндзель] і 2 булкі. Месца захавання — AADW (Kraków. Muzeum Narodowe BC Rkp 1502)

з сярэдзіны 19 ст. на пячатках рамесных устаноў стала размяшчацца выява двухгаловага арла, можна меркаваць, што менавіта крэндзель і 2 булкі былі старажытнымі сімваламі тутэйшых рамеснікаў.

**РЫМАРСКІ ЦЭХ** — статут цэха быў зацверджаны ў берасцейскай ратушы ў 1573 г. У рамесны цэх былі ўключаны калеснікі, седляры, а таксама прадстаўнікі некаторых іншых прафесій. Адпаведна з вількерам у цэх не маглі прымацца «не жыд, не татарын, не ощепенец, не вываленец». Статут быў канфірмаваны 19 жніўня 1581 г. Асобна цэх існаваў да 25 верасня 1614 г., калі была створана новая рамесная суполка. У ёй аб'ядноўваліся праваслаўныя мяшчане — рымары, слесары, лучнікі, сагайдачнікі, седляры, «тые, хто з дрэвам працуе» і спецыялісты іншых прафесій. У 1624 г. брат рымарскага цэха Лукаш Чалковіч падаў гарадскім уладам скаргу «о деградацыі» (яго) у рамястве. Войтаўска-лаўнічы суд пастанавіў аднавіць Чалковіча ў цэху і выплаціць на яго карысць 30 коп грошай (каб задаволіць судовыя і маральныя страты — А. Ц.)

Далей у дэкрэце было падкрэслена, што ўсім братам цэха «пад віной ў 100 коп грошай на карысць войтаўска лаўнічага суда» забараняецца нагадваць яму аб гэтым факце. Апошняе падцвярджэнне статута гэтага брацтва адбылося 19 жніўня 1631 г. 13 кастрычніка кароль



Сядлярскі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

Жыгімонт III Ваза надаў асобны прывілей «цэху рымарскаму, рэлігіі каталіцкай». Адпаведна з дакументам усе тутэйшыя рамеснікі гэтых спецыяльнасцей зліліся ў аб'яднаны рымарска-слясарска і інш. цэх.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — быў зацверджаны, верагодна, у час Уладзіслава IV — 15 сакавіка 1645 г. (а, магчыма, і раней — А. Ц.). На жаль, усе дакументальныя звесткі аб ім загінулі падчас ваенных дзеянняў. У 1646 г. ўзнікла судовая спрэчка паміж цэхавымі рамеснікамі і тутэйшымі

Рэзнікі за працай.
*Нямецкі дрэварыт.*
*15 ст.*



кушнярамі. Ад імя рэзніцкага цэха перад каралеўскім судом выступаў цэхмістр Філімон Плеўка. Сутнаць справы заключалася ў тым, што кушняры Хама Ніканавіч Бурліцэвіч і Хама Цэцулевіч гандлявалі на толькі скурамі, але і «...мясо вепрове вясной на платах до Гданьска одправовалі...». Такія дзеянні пярэчылі 17 артыкулу рэзніцкага статута і рэзнікі патрабавалі, каб кушняры, у тым ліку і названыя ў іску, плацілі падаткі на карысць іх цэха. Спачатку дакументы па спрэчцы трапілі ў суд берасцейскага магістрату, дзе адбыўся першасны разгляд скаргі, быў прыняты дэкрэт, адпаведна з якім кожны, хто пастаянна займаўся мясным гандлем, мусіў далучыцца да цэха. А хто гэта рабіў эпізадычна, плаціў 10 злотых падатку на карысць цэха. Каралеўскі суд «умоцніў» гэтае рашэнне 26 красавіка 1646 г. Канфірмацыйны прывілей і цэхавы статут рамеснікі паўторна атрымалі ад караля Міхаіла 7 красавіка 1670 г. Статут, прадстаўлены бурмістраўска-радзецкаму ўраду Паўлам Панасевічам — лаўнікам берасцейскім, на той час старшым рэзніцка-га цэха, быў заактыкаваны ў майдэборскіх кнігах места 13 чэрвеня таго ж году. У артыкулах было падкрэслена, што ў цэх прымаюцца людзі ўчцівага паходжаня і «ўпісваюцца» ў рэестр незалежна ад сваёй нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці («nie brakuiąc narodem i religią»). Тут жа адзначалася, што кушняры, якія возяць да Гданьска (на продаж) мяса, мусяць заплаціць на ўрад места 5 коп грошай і столькі ж на карысць цэха. Тыя, хто біў «на даму быдла рагатае, або вепра і іншае быдла» і гандлявалі мясам у месце, абавязваліся заплаціць падатак на карысць цэха пад страхам страты свайго тавару.

**СТАЛЯРСКІ ЦЭХ** — узнік у 1638 г. ў выніку таго, што з АБ'ЯДНАНАГА РЫМАРСКА-СЛЯСАРСКА І ІНШ. ЦЭХА вылучыліся прадстаўнікі металаапрацоўчых прафесій, а сталяры, сніцэры (рэзчыкі па дрэву), стэльмахі, коладзеі — калёснікі, бондары засталіся ў агульнай суполцы.

**ЦЫРУЛЬНІЦКІ ЦЭХ** — статут цэха хірургаў быў заактыкаваны ў берасцейскай ратушы 10 сакавіка 1615 г., а праз 9 дзён быў канфірмаваны каралём Жыгімонтам III Вазай. Гэты дакумент падцвердзіў Уладзіслаў IV 5 мая 1635 г. і ка-



Выдаленне паліпаў.
*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*



На прыёме ў «цэрыліка».
*Фрагмент ангельскага медзярыту. 18 ст.*

роль Ян Казімір 4 красавіка 1653 г. Працэс навучання працягваўся 3 гады, потым вучань станавіўся «цэрыліцкім» таварышам. Каб быць дапушчаным да іспытаў на званне майстра «цэрыліцкага цэха», жадаючы мусіў «даць да скрынкі тры чырвоных злотых», а потым прыняць мескае «подданства» і зноў унесці ў цэхавую скрынку яшчэ 6 чырвоных злотых. Іспыты праводзіліся летам, 1 раз на год — у панядзелак «по октаве Божага Цела» (праз 8 дзён пасля свята Божага цела — А. Ц.). У 50-я гг. 17 ст. берасцейскія цырылікі актыўна выступалі па сваіх асабістых справах у каралеўскім судзе.

**ШАПАВАЛЬСКІ ЦЭХ** — заснаваны 1 верасня 1622 г., зацверджаны ваяводай і берасцейскім войтам Астафіям Тышкевічам. Акрамя шапавалаў у яго ўваходзілі мылавары, алейнікі і зынікі — канапатчыкі. У 1641 г. берасцейскія шаўцы пачалі дамагацца далучэння рамеснікаў гэтых спецыяльнасцей і ўвогуле ўсяго цэха да шаўцоў. 9 сакавіка 1641 г. адбылося пасяджэнне берасцейскага магістрата, на якім шапавалы прадставілі адпаведныя дакументы і заявілі, што іх цэх быў створаны раней за шавецкі. Магістрат, разгледзеўшы спрэчку, вынес пастанову аб неправамоцнасці прэтэнзій шавецкага цэха, удакладніўшы, што адпаведна з прывілеем караля Уладзіслава IV, да шаўцоў былі далучаны не шапавалы, а чапнікі.



# ВАЎКАВЫСК

Адпаведна з прывілеем караля Аляксандра на майдэборскія правы месту, што быў нададзены Ваўкавыску на пачатку 16 ст., «...въ томь месте которые будутъ ременстники кравцы, кушнеры, котелники, шевцы, рымары, дуботолки которые в месте мешкаютъ...... тымъ всимъ...... под правомъ Немецкимъ быти». Ня гледзячы на каралеўскае пажаданне, умоў для паўнавартаснага фарміравання рамесных цэхаў у гэтым месце, верагодна, не было. З поўнай упэўненасцю можна гаварыць толькі аб існаванні тут адной рамеснай суполкі.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — прывілей на цэх быў канфірмаваны каралём Уладзіславам IV 26 сакавіка 1639 г. па прашэнню старшых брацтва шавецкага Міхала Абрамовіча і Яна Пагіксны [?], якія звярнуліся да вярхоўнай улады, «абы цэху правы вольнага гандлю і пры даўніх звычаях як ў месте Ваўкавыскім, так і Мсцібаўскім захавалі». Прашэнне было задаволена ўладай, а свае набажэнствы рамеснікі мусілі спраўляць у Ваўкавыскім фарным касцёле.



Шавецкі капыл.



# ВІЦЕБСК

**АБ'ЯДНАНЫ МЫДЛЯРСКА-КУРНІКОЎСКА-ФАРБАВАЛЬНА-КАНВІСАРСКІ ЦЭХ** — першае наданне статута датуецца 20 сакавіка 1676 г. Адпаведна з дакументам быў створаны цэх мыдляроў і крамнікаў. Усе майстры, што далучыліся да гэтага цэха, мусілі даць «на залажэнне» скрынкі на агульныя патрэбы па 20 злотых. Цэх меў сваю харугву, бубен і ўсялякую армату, з якімі братчыкі разам з другімі цэхамі ўдзельнічалі ва ўрачыстай працэсіі на свята Божага Цела. Наступнае зацвярджэнне цэха, у якім аб'ядналася ўжо не дзве, а больш спецыяльнасцей, адбылося 12 снежня 1738 г., калі быў паўторна нададзены статут. Дакумент налічваў 14 артыкулаў, якія прадпісвалі «на новае лета рускае» абіраць чатырох старшых пасродку людзей добрых, аселых. З іх двое станавіліся захавальнікамі ключоў ад цэхавай скрынкі. Рамеснікі выконвалі «цэхавую павіннасць» у брацкай царкве Св. Мікалая «ў рынку». Па прыкладзе іншых цэхаў братчыкі мелі сваю харугву і «паводле магчымасці» вайсковы рыштунак. Разам з астатнімі цэхамі яны ўдзельнічалі ва ўрачыстай працэсіі пад час свята Божага Цела.

**АБ'ЯДНАНЫ ПЕКАРСКА-АЛЕЙНІЦКА-РЫБАЦКА-ЛІНІАРСКА (ВЯРОВАЧНА)-ВОСКАБОЙНІЧА-СВЕЧНІКОЎСКА-ПЕРАКУПНІЦКА-КРУПНІЦКА-МАЛЯЎНІЦКА-ТКАЦКА-КРАХМАЛЬНІЦКА-ШАПАВАЛЬНЫ ЦЭХ** — статут зацверджаны 12 снежня 1738 г. У ім налічвалася 14 артыкулаў, якія прадпісвалі «на новы год рускі» абіраць чатырох старшых. Двум з іх перадавалі на захаванне ключы ад цэхавай скрынкі. Братчыкі выконвалі «цэхавую павіннасць» у царкве Св. Мікалая «ў рынку».

Увядзенская (Мікольская ?) царква на «чарцяжы Віцебска». *1664 г.*



Рамеснікі цэха мелі сваю харугву і мусілі «паводле магчымасці» мець вайсковы рыштунак, разам з іншымі цэхамі яны прымалі ўдзел ва ўрачыстай працэсіі пад час свята Божага Цела.

**АБ'ЯДНАНЫ РЭЗЧЫЦКА-СТАЛЯРСКА-СТЭЛЬМАХОЎСКА-ЦЯСЛЯРСКА-БАНДАРСКА-ШКЛЯРСКА-СІТНІКОЎСКІ ЦЭХ** — прывілей на стварэнне цэха быў атрыманы 12 снежня 1738 г. ад караля Аўгуста III. Адпаведна з дакументам рамеснікі абіралі чатырох старшых «на новае лета рускае» (паводле праваслаўнага календара — А.Ц.). Браты спраўлялі агульнае набажэнства і мелі «цэхавую павіннасць» у царкве Св. Мікалая «ў рынку лежачай». Старшым, якія ўваходзілі ў цэх, і ўсяму цэху ўвогуле дазвалялася «мець харугву (як агульную, так і асобную, для кожнай спецыяльнасці)... на аздобу места... узбраеннс ведлуг магчымасці». Падчас свята Божага Цела па загадзе магістрата цэх удзельнічаў ва ўрачыстай працэсіі. Дакумент быў унесены ў ратушныя актавыя кнігі 17 чэрвеня 1760 г.

**АБ'ЯДНАНЫ САЛАДОЎНІЧА-ПІВАВАРСКА-ВІНАКУРНЫ ЦЭХ** — створаны па прашэнню мескіх мяшчан, статут атрымаў 12 снежня 1738 г. Дакумент налічваў 14 артыкулаў, што прадпісвалі «на новае лета рускае» абіраць чатырох старшых, двое з якіх атрымоўвалі пасаду захавальнікаў ключоў ад цэхавай скрынкі. Братчыкі выконвалі «цэхавую павіннасць» у царкве Св. Мікалая «ў рынку». Як і іншыя цэхі, меў сваю харугву, рамеснікам дазвалялася, нават, прадпісвалася «паводле магчымасці» мець вайсковы рыштунак. Разам з астатнімі цэхамі братчыкі прымалі ўдзел ва ўрачыстай працэсіі пад час свята Божага Цела.

**КУПЕЦКІ ЦЭХ** — стыхійная кансалідацыя віцебскіх мяшчан супраць канкурэнтаў адбывалася ўжо ў сярэдзіне 16 ст., калі «...жаловали (скардзіліся) бурмистры, райцы и всё посполство...» каралю праз свайго ваяводу кн. Збаражскага аб тым, што «купцы приежаючие до того места Витебского» гандлюць паміж сабой. У выніку гэтага віцебчанам «великая шкода деет». Сваім лістом ад 20 верасня 1559 г. кароль пастанавіў, што забараняецца прыезжым купцам «...з иншими торговати только з местичи витебские». Наданне прывілея

на стварэнне «Купецкай ізбы» (брацтва) адбылося 12 снежня 1738 г. У статуце налічвалася 14 артыкулаў. Дакумент пачынаўся са скаргі мясцовых мяшчан і купцоў, якія «ў купецтве і гандлях не мают парадку», бо «прыезжыя людзі, аселыя ў розных юрыдыках у месте і на прадместях і за местам» узялі на сябе ўсялякі гандаль «вольны, водны і партовы». У сувязі з гэтымі абставінамі віцебскія купцы і мяшчане «прыйшлі да вялікага ўбозства і згубы». Адпаведна са статутам, ніхто не меў права торгу ў Віцебску, пакуль не «ўпішет ся да Купецкай ізбы» і не прыме прысягу. Парушальнік губляў свой тавар: палова ішла на прыбытак каралеўскай уладзе, другая — Купецкай ізбе. Брацтва было арганізавана наступным чынам: генеральная сходка адбывалася на дзень Св. Мікалая, на якой абіралі шэсць старшых купцоў, якія ўзначальвалі цэх на працягу 3 гадоў (і на ўсялякі выпадак аднаго «рэзервнага», калі нехта з абраных па аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычынах не будзе здольны ажыццяўляць свае паўнамоцтвы). Купецкія сходкі праводзіліся штоквартальна і пачыналіся ў 8 гадзін раніцы. Таго, хто ігнараваў такое мерапрыемства чакаў штраф у 24 грошы. Старшыні мусілі абавязкова збіраць свае нарады, якія праводзіліся «на справах купецкіх» двойчы на тыдзень — на аўторках і чацвяргах у 9 гадзін. Той, хто не з'яўляўся на такую нараду, мусіў заплаціць штраф у 6 грошай, а калі б нехта асмеліўся на гэты час без слушнай прычыны з'ехаць з места, то заплаціў бы 2 капы грошай. Артыкул 12 статута агаворваў, што «для спраў пры скрыне купецкай (трэба мець — А. Ц.) агульную пячатку купецкую з выявай герба — Св. Мікалая, для пячатавання тавараў, калі госць з госцем гандляваў... і ў іншых купецкіх справах...».

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — статут цэха пакуль што не знойдзены. Ускосныя звесткі дазваляюць меркаваць, што ў 1700 г. ён ужо існаваў. Так, у судовай справе паміж віцебскімі рэзнікамі і тутэйшымі манахамі бернардзінцамі фігуруе (ад гэтага году) пісьмовае абавязацельства братчыкаў аб пастаўцы сала для лампады Св. Антонія ў Бернардзінскім саборы, якое яны не выконвалі. Рамеснікі даказалі ў судзе, што гэты дакумент не з'яўляецца сапраўдным, а сфальсіфікаваны манахамі, але нідзе ў справе яны не заявілі, што цэх у гэты час не існаваў. Мясцовы магістрат у 1776 г. падтрымаў братчыкаў і вынес дэкрэт на іх карысць. У іншым дакуменце ад 16 сакавіка 1771 г. рэзніцкія цэхмістры Дзімітры Бык і Амельян Лерка выступаюць супраць канкурэнтаў-віцеблян, якія «куповалі быдло, з яго мяса салілі і прадавалі, а з таго саленія і продажу падаткі не плацілі». Нават шляхетныя Пётра і Казімір Дыманы «ў кадках пасаліўшы мяса хацелі сплаўляць яго ў Рыгу».



# ГРОДНА (ГАРОДНЯ)

**АБ'ЯДНАНЫ МЕТАЛА-АПРАЦОЎЧЫ ЦЭХ** — у ім аб'ядноўваліся рамеснікі, якія спецыялізаваліся ў металаапрацоўчай і смежных галінах. Карані яго ўзнікнення ўзыходзяць да другой паловы 16 ст. У спрэчцы паміж рамеснікамі (слесарамі, кавалямі, катлярамі, збройнікамі і нажэўнікамі — з аднаго боку і слесарамі, рымарамі, сядзельнікамі і рэзчыкамі — з другога) згадваюцца прывілеі і пагадненні паміж асобнымі спецыяльнасцямі. Найбольш ранняя дамова, якой было аб'яўлена пагадненне паміж тутэйшымі метала-апрацоўшчыкамі і седлярамі, датуецца 15 лютага 1570 г. Падцвярджэнне гэтай згоды адбылося ў 1579 г.

Больш дакладныя звесткі маюцца аб прывілеі на цэх, што быў нададзены каралём Жыгімонтам III Вазай у 1593 г. Тут жа згадваецца копія цэхавага статута, якая датуецца сакавіком 1608 г. 20 жніўня 1612 г. кароль выдаў універсал магістрату, дзе падкрэслівалася неабходнасць дапамогі апошнім цэху ў яго барацьбе з партачамі, якія былі абавязаны



Вырабы рамеснікаў металаапрацоўчых прафесій.
*17—18 стст.*

далучыцца да цэха. Апошні дакумент, звязаны з цэхам, які фігуруе ў гэтай справе, датуецца «годам 1633 месяцам сакавіком 31 дня». Магістрат 17 чэрвеня 1639 г. вынес рашэнне аб тым, што раздраблення цэха на асобныя спецыяльнасці не будзе, праўда, майстрам кожнага рамяства дазваляецца мець асобную скрыню і ўласны статут, але ўсе цэхавыя браты павінны выступаць пад агульнай харугвай. Па ініцыятыве («за стараннем») чатырох цэхмістраў: Марціна Макоўскага — гарадзенскага лаўніка, «тагачаснага мечнічага цэхмістра», Станіслава Кавальскага — слясарскага, Яна Мархеля Піятровіча — катлярскага, і Даніэля Юргелевіча — кавальскага на пасяджэнні мескага магістрату 12 сакавіка 1674 г. былі зацверджаны «Пункты (правілы — А. Ц.)... аб тым як маюць паводзіць сябе таварышы».

Дакумент утрымліваў 18 пунктаў, якімі мусілі кіравацца цэхавыя таварышы ў сваіх паводзінах і дзейнасці. Названыя «пункты...» прадугледжвалі, каб таварышы мелі асобную скрыню, што захоўвалася ў аднаго з іх, і якую прыносілі ў «таварыскую гасподу» толькі пад час пэўных урачыстасцей. Паводле гэтай жа пастановы заробак таварыша складаў 2 грошы ад кожнага заробленага сумесна з майстрам злотага. У тым выпадку, калі таварыш працаваў асобна ад майстра, яго «ганарар» не мусіў перавышаць аднаго шостака.



Вырабы рамеснікаў металаапрацоўчых прафесій.
*17—18 стст.*

**АБ'ЯДНАНЫ МУЛЯРСКА-ГАНЧАРСКА-ЦЯСЛЯРСКА-БАНДАРСКІ ЦЭХ** — заснаваны адпаведна з прывілеем «году 1579 месяца красавіка 2 дня» караля Стэфана Баторыя. Гэты дакумент быў пазней падцверджаны Жыгімонтам III Вазай «году 1620 месяца лютага 22 дня» і яго сынам Уладзіславам IV 30 траўня 1633 г. Перад канчатковым падцвяр-



Пячатка гродзенскага ганчарска-мулярскага цэха.
*1845 г.*

джоннем быў яшчэ прывілей ад 30 студзеня 1653 г. Апошняй канфірмацыяй стаў прывілей караля Аўгуста II, які быў выдадзены рамеснікам гэтага аб'яднання 1 студзеня 1699 г. Ён замацаваў усе дакументы сваіх папярэднікаў і падкрэсліў, што тыя рамеснікі, якія жывуць па дамах духоўных асоб альбо спрабуюць скарыстацца з «прывілеяў дамоў шляхецкіх... не павінны жадных работ рабіць без вядомасці аб тым цэхмістра і старшых братоў цэха».



Гарбарскі варштат. Пергаменшчык за працай.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

**ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — спецыялісты гэтай прафесіі здаўна працавалі ў месце. На жаль, дакументальныя крыніцы не дайшлі да нас у пажаданым аб'ёме. Найбольш ранняй згадкай, верагодна, з'яўляецца вядомая гравюра М. Цюндта (у рэдакцыі 1575 г.). На першым плане выява гарбароў, якія апрацоўваюць скуры на Нёмане. Пісьмовая згадка пра цэх адносіцца да 25 студзеня 1675 г., калі мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі Цыпрыян Жахоўскі падараваў гарадзенскім кармелітам «пляц царкоўны брацтва гарбарскага до фундацыі айцоў кармелітаў прылеглы...». Юрыдычнае афармленне, хутчэй за ўсё — канфірмацыя, адбылося «у годзе 1699 месяцы студзені 2 дня». Кароль Аўгуст II Моцны надаў гарбарам прывілей, адпаведна з якім братчыкі мелі свой алтар Св. Троіцы ў мясцовым фарным саборы.

**ЗЛОТНІЦКІ ЦЭХ** — традыцыі злотніцтва існавалі ў Гародні з глыбокай старажытнасці. На першую палову 16 ст. ў месце вядомы тры злотнікі, а ў другой палове — два. У момант заснавання ў Гародні цэха, хоць нам вядома толькі некалькі імёнаў рамеснікаў, відаць, тут ужо сфарміравалася пэўная група адпаведных спецыялістаў, што дазволіла ім прэтэндаваць на ўтварэнне злотніцкага брацтва. «У годзе 1637 верасня 12 дня» была зроблена «актыкацыя» статута мескімі ўладамі і літаральна праз некалькі месяцаў «году 1637

снежня 10 дня» адбылося зацвярджэнне статута каралём Уладзіславам IV. Адпаведна з прывілеем свой галоўны алтар злотнікі мелі ў Гродзенскім Фарным касцёле. Агульныя даходы братчыкаў, якія накапліваліся ў цэхавай скрынцы ішлі, акрамя аздобы брацкага алтара, на падтрымку «убогіх і пад'упаўпашых братоў» і на дапамогу сіротам — дзеткам злотнічым, на «учцівае пахаванне ўбогіх братоў. Як падкрэслена ў статуце, першасны адукацыйны працэс працягваўся не менш за 4 гады, пасля чаго вучаньхлопец набываў статус таварыша. Цэхавыя старшыні з усімі братамі цэха пры падтрымцы мескіх улад пільна ахоўвалі свае эканамічныя правы. Адпаведна са статутам (артыкул 18), партачы (па-за цэхавыя) і лёзлыя (вадроўныя) рамеснікі мусілі быць «разам з адміністрацыяй грабёны» і іх прадукцыя ішла на карысць цэхавай скрынкі, а ўсе астатнія рамеснікі не мелі права займацца вырабам залатых і срэбных рэчаў, пакуль не « ўпішуць ся ў цэх». Канфірмаваны каралём Янам Казімірам «слово в слово» 20 сакавіка 1650 г.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — заснаваны паводле прывілея караля Стэфана Баторыя «ў годзе 1579 месяцы лютым 2 дня», канфірмаваны каралём Жыгімонтам III Вазай «ў годзе 1620 месяцы лютым 22 дня» і яго сынам Уладзіславам IV «у годзе 1633 месяцы травені 30 дня».



Манстранцыя.
*Твор гродзенскіх злотнікаў. Пачатак 18 ст.*

Вясной 1639 г. адбыўся «раскол» у цэху. Некалькі братоў заявілі аб сваім нежаданні выконваць артыкулы статута і, увогуле, аб сваім выхадзе з брацтва. Спрэчка выйшла па-за межы цэха і разглядалася ў гарадзенскім магістраце.

У лістападзе таго ж году на судовым пасяджэнні было прынята рашэнне, якое абавязвала нязгодную частку рамеснікаў падпардкавацца статуту пад пагрозай забароны браць заказы на вёсцы і адлучэння ад кравецкага рамяства, а ў аднаго з «раскольнікаў» была канфіскавана кравецкая крама ў рынку.

Амаль праз 40 гадоў пасля канфірмацыі кравецкага цэха каралём Жыгімонтам III адбылося яго зліццё з кушнерскім цэхам, што было замацавана дамовай паміж імі «году 1667 месяца траўня 10 дня». Але хутка сярод братчыкаў пачаліся супярэчнасці, якія выліліся ў скаргу кравецкага цэхмістра Яна Казлоўскага на братчыкаў.

У сваёй скарзе-заяве ў гарадзенскі магістрат ад 10 траўня 1667 г. ён нагадваў кушнярам, што яны парушаюць дамоўленасць, згодна якой спецыялісты абодвух спецыяльнасцей «заўсёды на сходках маюць быць разам, таксама на імшах і ў працэсіях». Рамеснікі ж не выконвалі гэтай умовы — «ў цэху не былі і на імшы брацкія не прыходзілі». Адпаведна з магістрацкім дэкрэтам 1673 г., быў фактычна зафіксаваны чарговы падзел брацтва на 2 асобныя, падзелена цэхавая скарбонка. Паводле магістрацкай пастановы: «ад цэхмістраў кравецкіх аддаць на цэх кушняроўскі 15 злотых», а таксама «абы кушняры (як і краўцы — А. Ц.) мелі свой цэх і алтар асабісты ў фарным касцёле».

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — брацтва ўзнікла, верагодна, ужо ў 16 ст. Калі дакладна адбылося зліццё тутэйшых краўцоў і кушняроў у адзіную ўстанову невядома. Але можна з пэўнай доляй упэўненасці сцвярджаць, што ў першай палове 17 ст. яны існавалі ўжо разам. Гэта суіснаванне не задавальняла абодва бакі, асабліва кушняроў, якія адчувалі сябе другаснымі ў гэтым аб'яднанні, што прывяло, у рэшце рэшт, да судовага разбіральніцтва. Адпаведна з магістрацкім дэкрэтам ад 1673 г. было пастаноўлена: «ад цэхмістраў кравецкіх аддаць на цэх кушняроўскі 15 злотых», а таксама «абы кушняры мелі свой цэх і алтар асабісты ў фарным касцёле».

Як бачна з гэтага дакумента, у месте раней існавалі абодва рамесныя цэхі, але знешнія прычыны (захоп Гародні маскоўскімі войскамі ў 1655—1657 гг.) больш негатыўна паўплывалі на эканамічны стан кушняроў, што і вымусіла шукаць пэўнага саюза з краўцамі. Калі ж становішча рамеснікаў-кушняроў змянілася ў лепшы бок, яны вярнуліся да самастойнай дзейнасці.

**МУЗЫКАНЦКІ ЦЭХ** — утвораны «у 1720 годзе жніўня 17 дня» пры алтары Яна Хрысціцеля ў Гарадзенскім фарным касцёле. Да гэтай «кангрэгацыі музыкаў», адпаведна з каралеўскім прывілеем, належылі мастакі, зегармістры-часаўшчыкі, сніцэры-рэзчыкі па дрэву і інш. прадстаўнікі «палітычных і вольных мастацтваў».

Паколькі музычныя практыкаванні не былі прэрагатывай толькі хрысціян, а ў месте была даволі значная іудзейская дыяспара, статут кангрэгацыі прадугледжваў, каб музыкі-яўрэі плацілі штотыднёвы падатак у агульнацэхавую скрыню.



Музыкі.

*Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*

Рэльефная выява рыбы з будынка гродзенскага рыбацкага цэха.



**РЫБАЦКІ ЦЭХ** — статут цэха быў нададзены «у годзе 1698 месяцы студзені 30 дня». Ня гледзячы на даволі позняе юрыдычнае зацвярджэнне брацтва, сам рыбалоўны промысел існаваў у месте здаўна. Да гэтага прафесійнага аб'яднання былі далучаны ўсе рыбакі гарадзенскай эканоміі і тыя, «што пры азёрах жывуць». Усім астатнім забаранялася пад страхам канфіскацыі тавару і «заплачэння віны» ў 10 грыўняў гандляваць рыбай як свежай, так і прыгатаванай. Для ўступу ў цэх неабходна было ўнесці ў цэхавую скрынку 60 злотых. Братчыкі плацілі штогадова замкавым уладам падатак памерам 1 злоты з чаўна. Усе, хто не быў далучаны да гэтага брацтва: «купцы і перекупшчыкі з рознымі рыбамі жывымі, венжанымі, салёнымі, селядцамі і ўселякай назвы», не маглі гандляваць без апавяшчэння і дазвалення старшых цэха пад страхам віны ў 30 (злотых — А. Ц.) на карысць брацтва. Гэтым жа прывілеем, акрамя штогадовых старшых, былі назначаны «дажывотнымі» старшымі «фундатары» (заснавальнікі) цэха — Міхал Апановіч і Войцэх Цвікля. Кароль Аўгуст III канфірмаваў ва ўсіх пунктах прывілей свайго бацькі і ад сябе дадаў, што гарадзенскія рыбакі аба-вязваюцца «кожную сераду і пятніцу даваць па вядру рыб на замак».

Абутак гродзенца. *17 ст.*



**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — заснаваны мясцовымі жыхарамі. «Артыкулы цэха» былі зацверджаны магістратам і пазней канфірмаваны каралём Стэфанам Баторыем «у годзе 1579 месяцы лютым 5 дня». Потым статут быў канфірмаваны «ў годзе 1622 месяцы

жніўні 20 дня» каралем Жыгімонтам III Вазай. Сын апошняга, Уладзіслаў IV «у годзе 1633 месяцы траўні 31 дня» падцвердзіў прывілеі сваіх папярэднікаў і дадаў, што ўсім купцам і мяшчанам забараняецца купляць «боты» і прывозіць іх на продаж у Гародню. Таксама кароль забараніў немясцовым купцам прывозіць «усялякую шаўскую работу» на штотыднёвыя таргі ў места пад страхам страты ўсяго тавару, а ўсе тутэйшыя купцы абавязваліся далучыцца да шавецкага цэха. У 1637 г. каралеўскі суд вынес рашэнне на скарзе шавецкага таварыша Войцэха Каберскага на гарадзенскага лаўніка «старшага цэха шавецкага» Міхала Ліўчынскага, які «толькі для забаў сваіх… баз прычыны» загадаў «па старадаўняму звычаю» публічна пакараць нагайкай В. Каберскага за спазненне на сходку і «неучцівасць», хоць той і заплаціў, адпаведна з цэхавым статутам, штраф да цэхавай скрынкі. Паводле прыгавору каралеўскага суду цэхавыя старшыні мусілі выплаціць «віны» пацярпеламу 40 злотых і столькі ж на ратушу.

## ДАВЫД-ГАРАДОК

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — дакладны час узнікнення гэтай установы невядомы. Пакуль адзіным аб’ектыўным сведчаннем яго існавання з’яўляецца сярэбраны пацір, які захоўваўся ў мясцовай Георгіеўскай царкве. Адпаведна з даравальным надпісам на ім, прадмет быў зроблены ў 1740 г. «коштам цэхавых денег» і стараннем цэхмістра рэзніцкага Яна (Іаана) [Автушкі].



Пацір, які быў зроблены для мясцовай царквы за кошт рэзніцкага цэха. *18 ст.*

# ДЗІСНА

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — статут зацверджаны 2 студзеня 1633 г. Потым некалькі разоў праводзіліся канфірмацыі і актыкацыі гэтага дакумента. Апошняя канфірмацыя адбылася 5 чэрвеня 1776 г. Як сказана ў тэксце дакумента: «прасілі цэхмістры тагарочныя брацтва цэха кравецкага Павел Шыменоўскі і Леон Васілеўскі».

Аб утварэнні кравецкай суполкі ў месце хадайнічалі пятнаццаць тутэйшых мяшчан, якіх узначальваў радца Мікалай Ходзька. Яны прасілі магістрат, «абы прыкладом места Полоцкага, брацтва і цэх кравацкі (так ў тэксце! — А. Ц.) меці ім пазволілі». Як сведчыць дакумент, спачатку на агульнай сходцы майстроў-краўцоў 27 лютага 1632 г. была прынята пастанова аб утварэнні цэха і праект статута. Цэх узначальвалі два старосты. Калі хто-небудзь жадаў далучыцца да цэха, мусіў унесці ў цэхавую скрыню 6 коп грошай. Агульнацэхавыя нарады-сходкі адбываліся толькі ў «пеўны ўваскрэсны дзень». Кожны, хто прыходзіў на сход, мусіў унесці да скрынкі 1 грош, а калі сходка адбывалася «ў святыя дні», тады браты ўносілі па 3 грошы. У тых выпадках, калі нехта па нядбайнасці сваёй праігнараваў гэта мерапрыемства, мусіў «даць віны палову безмена воску». Палажэнне распаўсюджвалася на паўнавартасных братоў цэха — майстроў, «краўчык» (падмайстар — А. Ц.) за такі ўчынак «даваў віны адзін фунт воску». Магчыма, эканамічная дзейнасць гэтай цэхавай установы была не заўсёды ўдалай. На такую думку наводзіць той факт, што «у годзе 1775 месяца красавіка 10 дня» адбыўся продаж паловы цэхавага пляца зямлі ў залік доўга малжонкам Аляксандру і Марыяне Рогавым на вул. Духаўскай, «ідучы да Дзвіны па праваму боку».

# ДРУЯ

Дакладных звестак аб існаванні цэхавых устаноў у месце пакуль не знойдзена. Крыніцы згадваюць аб даволі значнай групе прадстаўнікоў розных прафесій: ад гарбароў, кушняроў, чапнікаў, сніцараў, кавалёў, ткачоў, да «богамазаў», скамарохаў і музыкаў. Праўда, статуты, якія б аб'ядноўвалі рамеснікаў у адпаведныя цэхі, нам на сённяшні дзень не вядомы. Ня гледзячы на даволі шырокае кола спецыялістаў, якія жылі ў Друі — Сапежыне, агульная колькасць майстроў па кожнай з галін была настолькі невялікай, што гэта не магло паслужыць падставай для стварэння асобных цэхаў. З другога боку, не трэба зусім выключаць надзею на тое, што якому-небудзь даследчыку пашанцуе знайсці невядомы на сёння друйскі цэхавы вількер.

# ЗЭЛЬВА

Звестак аб існаванні цэхаў у месте не знойдзена. Як сведчаць дакументальныя крыніцы, у Зэльвянскім войтаўстве ў в. Панемунь жылі каралеўскія рыбакі. Першы прывілей яны атрымалі «ў годзе 1581 месяцы красавіку 19 дня». Аднаведна з дакументам, каралеўскія падданыя павінны былі 4 тыдні на год лавіць рыбу для «каралеўскага стала» і плаціць чыншу 1 капу і 6 грошай. Пад час «ваеннай экспедыцыі яны мусілі са сваімі чаўнамі і сецямі» ўдзельнічаць у паходзе. Гэты прывілей быў падцверджаны ў 1614 г. Пазней, у рэвізорскім лісце ад 26 чэрвеня 1620 г. да Крыштафа Весялоўскага было падкрэслена: «абы не павышаў павіннасцей». Прывілеем караля Уладзіслава IV «году 1633 месяца траўня 25 дня» ўсе гэтыя палажэнні былі канфірмаваны.

# КАМЯНЕЦ

Цэхавыя статуты гэтага места пакуль не выяўлены, але ўскосныя звесткі дазваляюць меркаваць аб наяўнасці тут актыўнага грамадскага і вытворчага жыцця. Вядома, што на 1646—1647 гг. ў Камянцы існавалі ганчарскі, кавальскі, кушнерскі і кравецкі цэх, згадваюцца таксама і слесары. Усе гэтыя прафесійныя ўстановы фігуруюць у судовым працэсе, які адбыўся ў каралеўскім задворным асэсарскім судзе па ініцыятыве луцкага дэкана, каралеўскага сакратара, ксяндза Пятра Ушынскага. Ён падаў скаргу ў суд на мяшчан за тое, што «складкі, назначаныя (камянецкаму) касцёлу Божаму невесть ў што абрацают..., цэхмістроўскую ўладу ўзурпуюць..., складанкі на стварэнне алтароў (брацкіх — А.Ц.), наданне свечаў, праведзнне працэсіяў...» ігнаруюць. Мяшчане тлумачылі гэта тым, што «(мескія — А.Ц.) брацтвы на ўбозству свайму» не могуць у поўнай меры выканаць усе патрабаванні ксяндза, нават «не могут справіць сабе харугву і бубен, а ўсе складанкі абрацаюць на пахаванне ўбогіх». Судовы дэкрэт «году 1647 месяца траўня 5 дня» патрабаваў канчаткова высветліць на месцы ці ёсць там парадак цэхавы і пры павелічэнні звычайных цэхавых даходаў «касцёлаві даваць». Найбольш актыўнымі апанентамі ксяндза П. Ушынскага былі камянецкія саленікі. Ад імя ўсіх рамеснікаў выступаў іх цэхмістр Цімош Сенковіч. Яго ж апанент у судзе заявіў, што «саленікі... касцёлу аніякай прыслугі не чынілі...» і, увогуле, Ц. Сенковіч цэхмістрам саленікаў не быў і зараз не з'яўляецца, а цэха саленіцкага ў Камянцы няма, акрамя брацтва, якое займалася пахаваннем памерлых, «больш убогіх людзей, которых под ратуш з вёскі прывозяць (і якія — А. Ц.) ляжаць і паміраюць». У адказ на гэту ксянд-

зовую заяву Ц. Сенковіч адказаў, што «...падаткі ад гандлю на свечы, сукно, падзвонне трацяць і свячу брацкую на Вялікдзень да Уваскрэсенскай царквы ставяць, а таксама пару свеч да касцёла фарнага камянецкага». Дэкан П. Ушынскі наяўнасць і існаванне гэтага цэха не прызнаваў і «толькі брацтва тверділ», адначасова нагадваючы, што ўсе брацтвы былі скасаваны (ён спасылаўся на Каронны Статут, а як вядома, на нашай тэрыторыі дзейнічаў Статут ВКЛ — А. Ц.). Разам з тым ксёндз адзначаў: «урад тутэйшы іх за цэх прызнаёт» і патрабаваў, каб цэх саленіцкі выконваў усялякія павіннасці на карысць касцёла, але «старшы брацтва не тытулаваўся цэхмістрам саленіцкім». Каралеўскі дэкрэт ад 25 мая 1647 г. падкрэсліваў, што саленікі «да касцёла фарнага (мусяць — А.Ц.) пару свеч аддаваць і на імшу перад тым певную пенсію оддаваць». Кропка ва ўсёй гэтай справе была пастаўлена ў той жа дзень, калі «да суду былі пакліканы» як галоўныя адказныя асобы камянецкія мяшчане — Фёдар Стэфановіч (райца — ?), Васко і Грыц Трацэвічы (райцы) і Адам Гарбацэвіч (лаўнік). На дзень Вялікай Пятніцы новастворанае каталіцкае брацтва Св. Ганны пад кіраўніцтвам ксяндза П. Ушынскага праводзіла працэсію, якая завярнула ў царкву Раства, а праваслаўныя мяшчане «царкву замкнулі і ключы пабралі... (каб — А. Ц.) негодныя Ляхове в нашей царкве...» не праводзілі набажэнства. Каралеўскі дэкрэт прысудзіў забараніць усім чатыром на вечныя часы займаць пасады ў мясцовым магістраце, заплаціць штраф «на касцёл фарскі камянецкі», пасадзіць у «турму мескую берасцейскую» на год і 6 тыдняў Ф. Стэфановіча і Трацэвічаў, а А. Гарбацэвіча чакала зняволенне «на шэсць тыдняў» у ратушы камянецкай.

# КАПЫЛЬ

**ГАНЧАРСКІ ЦЭХ** — згадваецца ў дакументальных крыніцах пад 1680 г.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — мяшчане атрымалі статут-«інструкцыю», якая ўстанаўлівала «брацтва цэху», 15 красавіка 1668 г. Цікава адзначыць той факт, што пад дзеянне гэтай «інструкцыі» траплялі ў роўнай ступені як хрысціяне, так і іудзеі. Цэх згадваецца ў дакументах 1680 г.

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — дакладная дата заснавання цэха невядома. Каля 1664 г. рамеснікі гэтай спецыяльнасці атрымалі «правілы». Паводле іх кушнярам было «невольна» гандляваць у крамах футрам, за такі ўчынак чакала віна ў 10 коп грошай. Праўда, у тэксце ёсць агаворка, якая дазваляе меркаваць аб больш раннім існаванні гэтага цэха. Так у дакуменце сказана, што



Кушнерны інструмент.
*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

рамеснікі могуць гандляваць футрам на тым месцы, дзе «раней (іхнія — А.Ц.) крамы бывалі». Свой дом кушняры збудавалі на ўласным пляцы на вул. Доўгай, «паміж дамамі Рагазы і Івана Крыца», дзе і праводзілі сходкі.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — статут быў атрыманы ў 1674 г. Першымі старшымі сярод хрысціянскай часткі брацтва былі Ждан Махука і Багдан Моўчан, а іудзейскай — Якуб Лейбовіч. Паводле статута братчыкі мелі дазвол на сычэнне 6 вёдраў мёду на дзень нараджэння Панны Марыі па праваслаўнаму календару. Крыніцай папаўнення цэхавай скрынкі былі складкі братоў пад час правядзення сходак, а з кожнага забітага імі быдла яны мусілі плаціць «да скрынкі брацкай» з вала па 6 грошай, вепра — 4, цяля — 2, барана і казы па 1 грошу.

**ТКАЦКІ ЦЭХ** — дата заснавання цэхавай установы дакладна не ўстаноўлена. Цэхавы статут, копія якога была зроблена ў 19 ст., утрымлівае аж 34 артыкулы. Гэта дазваляе меркаваць, што ён быў складзены каля сярэдзіны 17 ст. Адпаведна з дакументам, калі хто-небудзь з нетутэйшых рамеснікаў жадаў далучыцца да гэтага цэха, то мусіў спачатку ўнесці ў цэхавую скарбонку 12 коп грошай. Адпаведна з 8-м артыкулам статута, калі цэхавы брат «словамі неучцівымі» абразіў цэхмістра, за такі ўчынак ён мусіў заплаціць «да скрынкі брацкай камень воску», 3 дні «адсядзець» у зняволенні і папрасіць прабачэння за зробленае ва ўсіх братоў. Калі ж справа ішла аб шэраговым браце цэха, то тады памер штрафа змяншаўся да 4 фунтаў воску на карысць цэхавай скрынкі, зняволенню ніхто не падвяргаўся, але працэдура прынясення прабачэння заставалася ў моцы. Падчас далучэння да цэха вучань мусіў унесці ў цэхавую скарбонку 8 грошай «упіснога», а пасля сканчэння першаснага курса навучання і атрымання статуса таварыша «упіснае» было ўжо 12 грошай. Кожнаму майстру дазвалялася працаваць адначасова на 3 варштатах (станках): на адным пад наглядам майстра працаваў вучань і, адпаведна, на астатніх двух — таварыш і сам майстар. Цэх фігуруе ў дакументах 1680 г.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — найбольш ранняя з вядомых звестак датуюцца 1644 г. Цэх узгадваецца таксама ў дакументальных крыніцах 1680 г.



Калаўрот.

**АБ'ЯДНАНЫ ТКАЦКІ І ГАНЧАРСКА-МУЛЯРСКІ ЦЭХ** — гэта не зусім звычнае аб'яднанне не роднасных спецыяльнасцей узнікла ў месте адпаведна з прывілеем кн. Яна Радзівіла «ў годзе 1703 месяца ліпеня 15 дня». Паводле статута, абраны на пасаду цэхмістра прыносіў прысягу ў царкве або касцёле аб тым, што ён будзе «справядліва, без палёгкі і фавору судзіць і ўрадоваць», а калі парушыць абяцанне, то за кожны такі ўчынак мусіць заплаціць штраф «камень» воску на карысць цэхавай скрынкі. Сярод іншых паступленняў у брацкую скарбонку былі штомесячныя ўзносы майстроў і таварышаў памерам у «фунт воску». Дапамагалі цэхмістру ажыццяўляць кіраванне цэхам, адпаведна са статутам, чатыры старшыя цэхавыя браты. Майстрам забаранялася пераманіваць ад сваіх калег хлопцаў-вучняў. Хто дазваляў сабе такія дзеянні — плаціў штраф памерам у «камень воску» і мусіў «адседзіць ў вязенні два дні». У тым выпадку, калі іншагародния раменнікі прывозілі пад-час «таргоў і ярмаркаў» свае тавары, то за дазвол на продаж яны павінны былі заплаціць «ад паловы штукі палатна палову восьмай гроша літоўскага» і такую ж суму «ад возу гаршчкоў». Для парушальнікаў памер штрафа на карысць замку Клецкага ўзрастаў да капы грошай. Вінаваты мусіў плаціць гэту суму столькі разоў, «колькі крот» яго «залапаюць» за гэтым заняткам. Каб стаць паўнавартасным братам-майстрам цэха, прыезжы чалавек павінен быў набыць у месте пастаяннае жыллё, унесці ў цэхавую скрынку 40 коп грошай літоўскіх і зрабіць каляцыю для ўсіх цэхавых братоў. Гэты прывілей не быў адзіным, літаральна праз 3 гады той жа кн. Ян Мікалай Радзівіл у адказ на супліку (скаргу) клецкіх мяшчан ткацкага і ганчарскага рамёстваў даў ім паўторныя, скарочаныя прывілеі ад 24 лютага і 6 лістапада 1706 г. У іх было падкрэслена, «абы спраўляліся дадзенымі ім артыкуламі», а таксама надаў раменнікам дазвол на мядовыя кануны (цэхавыя святы) двойчы на год і назначыў месца для правядзення агульных набажэнстваў у Клецкім фарным касцёле.



Гляк. *17 ст.*



# КОБРЫН

Згодна са сведчаннямі дакументальных крыніц, у месце існавала даволі шматлікая і разнастайная група рамеснікаў: кавалі, слесары, златнікі, мечнікі, канвісары, катляры, рымары, цесляры, сталяры, шкляры, стэльмахі, бондары, цырульнікі, ткачы. Усе гэтыя рамеснікі лічыліся прадстаўнікамі адпаведных цэхаў. Такая колькасць рамесных устаноў для параўнаўча невялікага места нам здаецца некалькі перабольшанай. Сярод па-за цэхавых рамеснікаў называюцца пекары, піивавары, віннікі, саладоўнікі, рэзнікі, рыбакі, алейнікі і купцы, якія гандлююць металічнымі вырабамі.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — быў заснаваны прывілеем каралевы Ганны «ў годзе 1580 месяца снежня 16 дня». Каралеўскі прывілей забараняў «будзь каму рабіць рамество, да ўступу ў кравецкае брацтва... жыды таксама мусяць далучыцца да таго брацтва». Адпаведна са статутам, цэх узначальвалі два абраныя старшыя. Сходкі адбываліся



Кравецкі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

раз у 2 тыдні, а кожны брат, які прыходзіў на іх, мусіў унесці ў цэхавую скрынку 6 грошай. Той, хто ігнараваў агульныя мерапрыемствы, плаціў штраф — фунт воску. Статут вельмі жорстка ставіўся да парушальнікаў агульнапрынятых норм паводзін: «калі хто з братоў зрабіў складаны ўчынак, такога выгнаць з рамества і ніколі ( да яго — А.Ц.) не дапускаць. Статут быў канфірмаваны «ў годзе 1752 месяцы кастрычніку 26 дня».

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — створаны адпаведна з прывілеем каралевы Ганны «году 1588 месяца снежня 16 дня». Статут быў канфірмаваны «ў годзе 1752 месяцы кастрычніку 26 дня».

**СЛЯСАРСКА-КАВАЛЬСКІ ЦЭХ** — час узнікнення гэтага цэха прасочваецца не зусім дакладна. У прывілеі, што быў нададзены каралём Янам III Сабескім «у годзе 1691 месяцы сакавіку 29 дня» на заснаванне брацтва Св. Ганны, згадваюцца не толькі кавалі і слесары, але і цэхі злотнікаў, мечнікаў, канвісараў, катляроў, рымараў, цесляроў, сталяроў, шкляроў, стэльмахаў, бондараў, цырульнікаў, ткачоў. Прасілі «...людзі рознага рамества цэхавыя і нецэхавыя прасілі ў месте нашом Кобрыне і Гарадку...» даць пэўныя прывілеі. Як сказана ў дакуменце, «пры брацкім алтары Св. Ганны ў фарным касцёле... подлуг даўніх звычаёў сваі набажэнства (рамеснікі — А.Ц.) служаць, а павіннасцей на аздобу алтара не выконваюць...». Адпаведна з каралеўскім прывілеем, павіннасці на карысць алтара мусілі выконваць усе тутэйшыя рамеснікі (штогадова ставіць свечкі перад алтаром Св. Ганны, а таксама ўдзельнічаць са зброяй у працэсіях, прысвечаных «рымскаму» святу Божага Цела, «рускаму» святу Св. Юр'я і на Вялікдзень) незалежна ад таго, у якіх юрыдыках яны пражываюць. У заканчэнні дакумента кароль пажалаваў пажыццёвае слясарскае цэхмістроўства Карпу Латукевічу «за распаўсюджванне хвалы Богу». Прывілей быў канфірмаваны каралём Аўгустам «у годзе 1752 месяцы кастрычніку 26 дня». Пасля поўнага падцвярджэння папярэдняга тэксту ў дакуменце было падкрэслена, што прывілей нададзены кавальска — слясарскаму цэху.



Слясарныя вырабы.
*18 ст.*

# КОЙДАНАВА

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — у канцы 60-х гг. 18 ст. выступае са скаргай на «пана Дрэселя», управіцеля арэндатараў Койданаўскага графства кн. Варанецкіх, за тое, што апошні затрымаў аплату, за «работу на скарб», а разлічыўся з братчыкамі толькі 2 бочкамі солі і 20 гарнцамі гарэлкі, чым нанёс страты у 1119 злотых.



Прас.
*19 ст.*

**ТКАЦКІ ЦЭХ** — у канцы 60-х гг. 18 ст. выступае са скаргай на таго ж «управіцеля» за тое, што «не атрымаў награды» за выкананую працу у памеры 608 злотых і 14 грошай.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — магчыма існаваў ужо у першай палове 17 ст. Першыя дакладныя згадкі фігуруюць у інвентары места, што быў складзены у 1660 г. Дзе ён названы «цэхам шаўцоў абутку чорнага і жоўтага». На той час шаўцы плацілі «за паразуменнем» паменьшаны (у сувязі з эканамічнымі абставінамі — А.Ц.), падатак памерам у 1 і 1/12 капы грошай (65 грошай — А.Ц.). Варта адзначыць, што у больш раннія часы ён складаў — 4 капы. У канцы 60-х гг. 18 ст. фігуруе разам з іншымі тутэйшымі цэхамі, калі прад'явіў прэтэзіі ўсё таму ж «пану Дрэселю» за панесеныя ад яго дзейнасці, страты у памеры 766 злотых і 11 грошай.

# ЛЮБЧА

**ПІВАВАРСКІ ЦЭХ** — заснаваны ў мястэчку адпаведна з прывілеем (ардынацыяй) кн. Януша Радзівіла, які быў нададзены 8 сакавіка 1647 г. Цікавым з'яўляецца той факт, што ў дакуменце падкрэслена неабходнасць заснавання брацтва менавіта гэтай спецыяльнасці, дзе яно «класіфікавана» як «найпатрэбнейшае». Адпаведна з «ардынацыяй», прадукцыя братчыкаў «мусіла добрым быць», з агульнай (нязменнай) «аднолькавай мерай соладу, хмелю і вады». У адрозненне ад цэхаў у іншых местах, сюды мог (і нават абавязваўся) быць далучаны любы «з featured рознага рамества, майдэборскага (любчанскага — А.Ц.) падданства, які пажадае варыць і шынкаваць півам.



# МАГІЛЁЎ

**АБ'ЯДНАНЫ МЕТАЛААПРАЦОЎЧЫ ЦЭХ** — пастанову аб актыкацыі цэхавага статута магілёўскія мяшчане, якіх узначальваў Мікіта Івановіч, унеслі ў актавыя кнігі магістрата «ў годзе 1614 месяца кастрычніка 16 дня». У актыкацыі ўдзельнічалі мечнікі, кавалі, слесары і «кацельнікі». Гэта пастанова была зацверджана каралём Уладзіславам IV канфірмацыйным прывілеем цэху «году 1633 месяца снежня 17 дня», у якім было сказана: «...прыкладам мест упрывіліяваных... Пагоню за герб назначаем...той герб...на харугві і пячатцы цэхавай ужываці вечныя часы». Акрамя герба раметнікі атрымалі дазвол на двухразовае на працягу года сычэнне 10 пудоў мёду — на Новы год і на Узнясенне Гасподняе. Для ўласных патрэб раметнікі маглі без дазволу шынкаваць, выганяць гарэлку на хрысціны, вяселле і для пахавання «братоў», але ў тэксце дакумента адзначалася, што гэта не магло працягвацца больш за 3 дні. Праз некалькі месяцаў, дакладней, 8 кастрычніка, звыш 40 братчыкаў-мечнікаў, слесараў і кавалёў «заактыкавалі» ў мясцовым магістраце ліст аб тым, што паколькі папярэднім прывілеем не была назначана ім царква для вы-



Герб аб'яднанага металаапрацоўчага цэха.
*1634 г.*
*Рэканструкцыя.*

каньня сумесных набажэнстваў, яны «постановили... одностайне олтаръ для хвалы божое и молитъвы товарысъва цэху...въ церкви упривилиеваной братъской Богоявленія Господня собе мети... а не до иншое... мы сами и потомъки наши навадвацца будут». «У годзе 1758 месяцы студзені 14 дня» ў магілёўскі магістрат паступіла скарга цэхавых братоў на Базылега Гахоўскага, які спрабаваў несумленнымі дзеяннямі заняць месца старшыні на элекцыі цэхавага ўраду замест законнаабранага Максіма Андрэевіча. Па прыгавору магістрата Б. Гахоўскі мусіў адсядзець «у вежы дванадцаць тыдняў», а яго «партызаны» — Лукьян Нажэўнік і Караль Цыгако, якія праводзілі «злыя акцыі» як «бунтаўнікі і моторы» (яны вырывалі з цэхавых рэестраў аркушы пратаколу абрання М. Андрэевіча), атрымалі па 6 тыдняў сядзення ў турме і па 50 нагаек.

**АЛЕЙНІЦКІ ЦЭХ** — першы запіс заявы алейнікаў аб утварэнні іх «вытворчае» суполкі быў зроблены ў кнігах магілёўскога магістрата «ў годе 1583 месяцы студзені 26 дня». Гэтым жа самым дакументам падцверджана абранне са згоды рамесных братоў «старосты алейніцкага» (Ізоцка Андросавіч), які «мает тое старосво олейницкое держать поты, поки самъ захочетъ». Далей у дакуменце быў даволі падрабязна зафіксаваны рэгламент дзейнасці рамеснікаў. У прыватнасці, падкрэслівалася, што дазвалясцца «продавать олею гостю» толькі з ведама іх старосты «толко пять гляков... але мескому человеку вольно будет колько хотя олею продать... а гляки на проданье олею мают быти ровныя цэхованые (кляймёныя — А. Ц. ) мают быти кварты ровныя». Актыкацыя цэхавага статута адбылася ў магілёўскім магістраце «ў 1636 годзе месяца сакавіка 22 дня». Адпаведна са статутам цэхмістр перадаваў свае паўнамоцтвы на дзень Св. Мікалая. Алейнікі сачылі за тым, каб не было канкурэнцыі з боку нямцэхавых рамеснікаў. Гандаль прадукцыяй апошніх (ва ўсе дні акрамя ярмарак) без ведама цэхмістра караўся штрафам у «дзве капы грошай на карысць брацкай скрынкі і дзве капы на мескі ўрад». Братчыкі мелі свой алтар, прысвечаны Іаану Хрысціцелю ў магілёўскай Богаяўленскай царкве. Яны атрымалі таксама дазвол у кануны, але не больш тыдня, на Вялікдзень і на Св. Міколу, паводле «рускага каляндара» сыціць мёд, а палову воску ад сычэння аддаваць фарнаму касцёлу і столькіх ж брацкай Богаяўленскай царкве. Для аздобы алейніцкага цэха і места Магілёўскага брацтва мела ўласную харугву, бубен, рушніцы, шаблі і г.д. Браты цэха прымалі на сябе абавязак «не мецъ тайных рад супраць магістрата». Статут быў канфірмаваны каралём Уладзіславам IV «ў 1636 годзе месяца красавіка 29 дня». «У 1668 годзе

Герб гарбарскага цэха.
*1634 г.*
*Рэканструкцыя.*



месяца траўня 5 дня» ўсе браты цэха былі абвінавачаны ў тым, што прадаюць алею збанам «несправедівым і фальшывым». На гэта рамеснікі заявілі, што атрымалі яго ад адпаведных асоб з тутэйшага магістрату «за пячаткай мескай» яшчэ 19 гадоў таму назад. Перамерванне паказала, што «гляк, то есть мера алейная, ёсць скупы на паўтары чверкі». Крыху больш, чым праз тыдзень у магістраце была праведзена наступная, афіцыйная «перамерка», на якой «гляк медзяны алейніцкі гарнцам мескім вадой змерылі» і «на поўкварты гляк меньшым аказаўся». Магістрацкі суд прыняў рашэнне «...гляк мерай тэрашэйшай ў дзесяць кварт і пры мескай пячатцы ім у рукі аддаць» і загадаць, «каб толькі ім алей прадавалі».

**ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — цэх быў створаны адпаведна з ініцыятывай мяшчан і «кгарбаров места его королевскае міласти Могилевского, которые робять скоры дубленые, также скоры дубленыя жолтые и чырвоные и чорные», якія «року 1625 мца Декабра 19 дня» заактыкавалі свой статут у мескім магістраце. У адным з артыкулаў дакумента было падкрэслена, што майстрам і таварышам цэха забараняецца «куповати въ день недельный до полудня... скоръ воловых, коньских, козловыхь, бараниxъ и телячихъ, так тежъ попелов, дубу и фарбу ремеслу належачыхъ». Вінаватыя ў гэтым парушэнні мусілі заплаціць на карысць «пана лентвойта» 10 польскіх злотых і столькі ж «до скрынкі брацкай». Адпаведна са статутам братчыкі абіралі сабе цэхмістра і два старшых (старостаў-шафароў). Цэх меў сваю пячатку, пры яе дапамозе і подпісам цэхмістра завяраліся дакументы, якія выходзілі ад яго, «а если бы цехмистръ не ўмелъ писать, то печатю своею маетъ припечатовать пры братской печати». Статут быў канфірмаваны пад час цэхмістроўства Гаўрылы Хоміча каралём Уладзіславам IV «у годзе 1633 месяца снежня 17 дня». А «за герб» гэтаму цэху кароль надаў «Панну Найсветнешую... і ў працэсіях і іншых аказіях за герб вобраз Панны Найсветнейшай на харугві цэхавай меці і ўжываці». Галоўная генеральная сходка мусіла адбывацца кожныя 6 тыдняў. Кожны, хто прапусціў яе без уважлівай прычыны, плаціў да цэхавай скрынкі фунт воску, а хто ж быў упарты — павінен «даць до скрынкі фунт воску і ў калодзе сідзець».

Акрамя зацвярджэння артыкулаў статуту, кароль дадаў яшчэ дазвол братам двойчы на год сыціць па 10 пудоў мёду — на святы Св. Троіцы і на Св. Мікалая, воск ішоў на «хвалу Богу» ў царкву. Таксама паводле каралеўскага дазволу гарбарам можна было на дні вяселля, хрысцінаў і пахавання выганяць мёд і гарэлку, але не болей, чым на 3 дні. 2 мая 1640 г. гарбарскія старосты заактыкавалі ў магістраце сваю скаргу-пастанову, якую прынялі 29 красавіка таго ж года, аб тым, што «гости с розных мест пріежъджаючы на рынку скуры...продают......ку перешкоде их ремесла... а мещане розныя, прасолы, которые не суть в цеху... забегаючы по дорогахъ, улицахъ, перекупують скуры не робленые и дорогость чынють...». Гарбары запатрабавалі ад мескіх улад пільна сачыць за выкананнем каралеўскага прывілея «...жебы дорогость въ месте не была......ижъ бы жаден зъ мещан прекупневъ и прасоловъ... скуръ не робленых... до одинадцатое годины не перекуповалъ на перекупъ...», а ад гасцей патрабавалі, каб тыя гандлявалі скурамі толькі гуртам, у гасцінным двары і толькі па пятніцах.

**ЖАБРАЦКАЕ БРАЦТВА** — актыкаванне «порадку» і пастановы аб абранні жабрацкага старосты адбылося «ў годзе 1621 месяцы красавіку 21 дня». У гэты дзень у магістрат звярнуліся мясцовыя жыхары, якія падалі скаргу «отъ убогихъ, хромыхъ, слепыхъ и уломныхъ хорыхъ». Яны прасілі мескія ўлады аб прыняцці пастановы «...жъ бы ростырку не было, (і — А.Ц.) порядок и постановлене ўчинили». Неабходнасць упарадкавання яны матывавалі «звышпрадпрыймальнасцю» сваіх суграмадзян, таму што «...старые, яко и молодики, жонки, дети, мескіе и иншіе, дорослые и недорослые, выростъки и девки, не маючы въ собе жадное хоробы а ни уломности...удалися въ непотребне въ убоство, просечы не слушне...» міластыню-ялмужнае, ствараючы тым самым канкурэнцыю сапраўдным



Жабрак.
*Фрагмэнт дрэварыту Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

убогім-калекам: «...ижъ одни другому зъ рукъ убогого ялмужную вырываючы, збытки чынять...». Часта дарослыя «для встыду не выходечы з дому... сами детей своихъ сиротами называючы, посылають... въ браню ялмужныхъ ошукане чынятъ». Каб пазбегнуць падобнай сітуацыі, магілёўскія жабракі прасілі ўлады назначыць «трох старостаў калецкіх» і дазорца над усім брацтвам — слугу мескага прысяглага Марціна Аксеновіча.

**ЗАМШАНІЦКІ (альбо БЕЛАСКУРНІЦКІ) ЦЭХ** — пастанова аб стварэнні гэтага брацтва была занесена «до кніг меских магілёўскіх судовых права майдебурскага» 21 ліпеня 1594 г. На актыкацыю «встали очевісте» дванаццаць магілёўскіх мяшчан «замешнікаў», якія прасілі магістрат зацвердзіць «порадок і постановеніе для размноженья ремесла замешніцкага», што і было запісана ў актавыя кнігі. Наступная дакументальная згадка пра гэты цэх сустракаецца «ў годзе 1634 месяцы чэрвені 3 дня», калі кароль канфірмаваў заснаванне цэха і статут магілёўскіх гарбароў. Але 20 студзеня 1635 г. дванаццаць майстроў, якіх узначальваў трынадцаты — цэхмістр Осіп Івановіч, заактыкавалі ў меских кнігах свой асобны статут, дзе налічваўся 31 артыкул. Сярод спецыялістаў, якія ўваходзілі ў гэты цэх, акрамя беласкурнікаў, былі рукавішнікі, мехаўшчыкі і інш. Адпаведна з 14-м артыкулам статута браты мелі ўласную харугву і інш. Гэтаму цэху быў нададзены таксама і герб. На жаль, інфармацыя аб ім пададзена коратка і цьмяна, таму нам не вядома, што гэта была за выява. Браты мусілі штогод набываць для мескага арсеналу па 2 мушкеты і стрэльбы. Воск ад мядовых складак братчыкі аддавалі: палову ў касцёл Св. Троіцы, а другую — у Богаяўленскую царкву. Гэты статут быў зацверджаны каралём «у годзе 1635 месяцы сакавіку 13 дня». Пазней, у скарочаным, паўсядзённым ужытку брацтва часта называлася «мяхоўніча-кажамяцкім» і пад такой назвай сустракаецца ў справе 1645 г. па іску каадзьютара магілёўскага Яна Змальскага да меских цэхаў, якіх ён абвінавачваў у невыкананні павіннасцей на карысць Фарнага касцёла. Сярод судовых матэрыялаў згадваюцца і прывілеі на гэты цэх. Першым фігуруе каралеўскі прывілей цэху мечніцкаму і мехоўніцкаму (!) «году 1633 месяца снежня 17 дня». Адпаведна з ім браты мусілі даваць «мёды разсычоныя да цэркві Богаяўлення». Наступны прывілей, які згадваецца ў справе, датаваны «годам 1635 месяца сакавіка 30 дня», быў нададзены «мехоўнічаму» цэху. І, урэшце, дэкрэт каралеўскага задворнага асэсарскага суда 1645 г. падкрэслівае: «цэху мехоўніцкаму і кожамяцкаму... давацъ воскі да касцела Фарнага і да царквы магілёўскай». «У годзе 1729 месяцы снежні»

мескі бурмістр і купец Стэфан Карабанка падаў у магістрат скаргу на замшанікаў Андрэя Князіковіча і яго сыноў — Антона і Германа за тое, што яны, узяўшы матэрыял і грошы за работу, не выканалі дамоўленасці: не паставілі ў тэрмін гатовую прадукцыю, чым нанеслі не толькі маёмасную шкоду, але і дыскрэдытавалі істца і давялі яго да разарэння па дагаварах з прускімі купцамі.

**ЗЛОТНІЦКІ ЦЭХ** — цэх быў створаны адпаведна з ініцыятывай «дванадцату людзей рамества злотнічага», якія звярнуліся ў мескую ратушу з прашэннем зацвердзіць іх статут. Магістрат 20 верасня 1629 г. прыняў пастанову, дзе былі заактыкаваны «артыкулы парадку золотнічого». Але паводле запісаў у Метрыцы ВКЛ актыкацыя была зроблена «ў годзе 1639 месяцы кастрычніку 12 дня», а прывілей з канфірмацыяй цэха падпісаны каралём 12 чэрвеня 1634 г. Гэта, відаць, апіска метрыкальнага пісара, бо 22 чэрвеня 1634 г. кароль Уладзіслаў IV выдаў «ліст-прывілей», які налічваў 24 артыкулы і паўтараў дакумент ад 20 верасня 1629 г. Ад каралеўскай ўлады быў нададзены цэхавы герб — «леў за кратамі», якім яны (злотнікі магілёўскія — А. Ц. ) «маюць адзначаць свае вырабы і на харугвах меці». Тым жа прывілеем кароль дазволіў злотнікам «ку хвале Богу» двойчы на год сыціць па 12 пудоў мёду — першы раз на свята Трох Каралёў



Герб злотніцкага цэха.
*1634 г.*
*Рэканструкцыя.*

(Богаяўленне), другі — на Святога Пятра. Праз год пасля канфірмацыі цэха (15 кастрычніка 1635 г.) да злотнікаў далучыліся канвісары (алавяншчыкі) і масяжнікі (меднікі). Яны тлумачылі сваю ініцыятыву тым, што «...для ...недостатков ...цеху своего особливого мети не могучы, приступили есмо вси згодне и одностайне до цеху злотницкого» і прынялі на сябе абавязак «послушенство давати цехмистром обраным» да таго часу, пакуль яны не ўтвораць свой уласны цэх. Гэты акт стаў штуршком да спрэчкі паміж цэхам злотнікаў і магілёўскім рымарска-сядлярскім цэхам. Апошні, імкнучыся павялічыць свой колькасны склад і, адпаведна, паступленні ў цэхавую скрынку, пачаў дамагацца выканання павіннасцей з боку магілёўскіх бляхароў, масяжнікаў, канвісараў на карысць свайго цэха. Справу разгдядаў спачатку мескі магістрацкі суд, але апошнюю кропку ў ёй паставіў каралеўскі суд, які

Гарнец. Прадукцыя канвісарскага цэха. *18 ст.*





Герб кравецкага цэха. *1634 г. Рэканструкцыя.*

ў 1636 г. падцвердзіў рашэнне тутэйшага суда і сваім дэкрэтам «узмоцніў і замацаваў новадалучаных да злотніцкага цэха.

**КАНВІСАРСКІ ЦЭХ** — актыкацыя пастановы мяшчан аб стварэнні ўласнага цэха была ўнесена ў магістрацкія кнігі «ў годзе 1650 месяцы кастрычніку 21 дня». Да гарадскіх ўлад звярнуліся восем тутэйшых мяшчан. Кожны жадаючы мог стаць братам цэха, для гэтага патрабавалася быць «добра аселым ў месте Магілёве». Брацтва аб'ядноўвала канвісараў (алавяншчыкаў), людвісараў, масяжнікаў (меднікаў) і бляхоўнікаў. Тых, хто не далучыўся да цэха, а рабіў рамяство «пакутне», чакаў штраф памерам у 5 коп грошай на карысць цэхавай скрынкі, і на ўрад мескі такі «пакутнік» мусіў заплаціць «шмат» грыўняў. Пасля ўплаты гэтых штрафаў парушальнік ужо ніколі не мог рабіць тое рамяство ў месте. Штотыднёва кожны майстар ці брат уносілі ў агульную цэхавую скарбонку па 1 грошу літоўскаму. Цэхмістры карысталіся сваімі паўнамоцтвамі на працягу года, дапускаліся да іх выканання толькі пасля прынясення прысягі магілёўскаму ўраду.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — пастанова аб утварэнні цэха была заактыкавана «ў годзе 1609 месяца кастрычніка 17 дня». Ініцыятарамі былі адзінаццаць мясцовых мяшчан-краўцоў, якія прасілі мескія ўлады, каб «пастанова іх праз пісьмо урадавае была зацверджана і ўзмоцнена на вечныя часы». На кравецкае цэхмістроўства быў абраны Філон Якаўлевіч. Цэхавыя складкі браты мусілі плаціць

на «поўгрошыку польскаму» двойчы ў год: на дзень нараджэння Ісуса Хрыста і на дзень яго Уваскрашэння. Пастанова была зацверджана каралём Жыгімонтам III Вазай 15 снежня таго ж года, праўда, каралеўскае зацвярджэнне было прадстаўлена ў магістрат для актыкацыі толькі «ў годзе 1620 месяцы красавіку 13 дня». Дадатковы прывілей быў нададзены каралём Уладзіславам IV першага лютага 1634 г. У дакуменце, акрамя падцвярджэння ва ўсіх артыкулах і кандыцыях папярэдніх прывілеяў, абвяшчалася далучэнне да цэха яшчэ і чапнікаў. Кароль надаў брацтву «харугву на якой за герб залаты крыж і кравецкія нажніцы ў белым полі» і дазволіў братчыкам двойчы на год сыціць мёд (на Божае Нараджэнне і Вялікдзень) не для шынку, а асабістых патрэб цэхавых братоў. Воск, які заставаўся пасля сычэння, цэхавыя браты мусілі аддаваць на свечкі — палову на касцёл і палову Уваскрасенскай царкве. Акрамя таго, «дом брацки» быў вызвалены ад пастояў і кароль забараніў прыцягваць (прымушаць ці абіраць) цэхмістраў да выканння грамадскіх абавязкаў мескіх дзесятнікаў альбо сотнікаў.

**КРАШАНІННІЦКІ ЦЭХ** — у некаторых местах ён называўся фарберскім. Быў заснаваны і «заактыкаваны» на ініцыятыве васьмі тутэйшых мяшчан «у годзе 1647 месяцы снежні 23 дня». У парадку рамяства крашаніннiцкага было падкрэслена: «абы до крашаніны кожны... добрай, а не подлай і фальшывай фарбы ўжываў...» пад страхам віны ў 5 коп грошай (палову на мескі ўрад, а другую — да скрынкі брацкай). Кожны «прыбылец», які жадаў заняцца гэтым рамяством, мусіў заплаціць у цэхавую скарбонку «колькі браты положат...».




Крашанінніцкі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

Герб купецкага брацтва.
*1661 г.*



Купцы.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*



**КУПЕЦКАЕ БРАЦТВА** — са старажытных часоў гандаль быў адной з вельмі важных галін дзейнасці мясцовых жыхароў. Яшчэ каля сярэдзіны 16 ст. магілёўскія купцы атрымалі ад каралевы Боны ліст, які быў адрасаваны непасрэдна да дзяржаўцы рагачоўскага Мацея Вайтэховіча, аб тым, што ён і яго папярэднік Багдан Долмат у парушэнне «стародавнего обычаю» пачалі браць падвоенае мыта ў Рагачове з магілёўскіх купцоў, калі тыя «рекою Днепром идучы» на сваіх «комягах, поромах і чолнах». Гэтыя «спраўныя» чыноўнікі пачалі патрабаваць мыта за праход, калі купцы ішлі «на ніз» і вярталіся дамоў. У лісце было падкрэслена : «... а гды вжо назад мыто з нихъ не маетъ отъ того брано быти...». Запіс дакумента аб стварэнні купецкага брацтва ў магістрацкія кнігі адбыўся «ў годзе 1623 месяцы сакавіку 23 дня», але яго яшчэ цяжка назваць паўнавартасным статутам. Гэта, хутчэй, ліст мытных падаткаў, якія мусілі плаціць як магілёўцы, так і прыезжыя «госці» з возу альбо інш. партыі тавару. Стварэнне дакумента матывіравалася наступным чынам: «...за тымъ, абы ку знищеню альбо убоству люди убогие купъцы мещане могилевские не прышли, а скарб его кор.[олевское — А. Ц.] милости шкоды не поносилъ». Сапраўдны цэхавы статут («Парадкі купецкія») быў зацверджаны на магілёўскім урадзе «ў годзе 1636 месяцы чэрвені 12 дня». Як пазначана

ў прэамбуле «Парадкаў...», за ўзор былі прыняты парадкі купцоў «места сталечнае Вільня». Можа менавіта з гэтай прычыны купецкае брацтва абрала на сваю пячатку сімвал віленскага самакіравання — выяву Св. Хрыстафора, які з немаўляткам Ісусам пераходзіць праз бурлівы вадзяны струмень. Як падкрэслена ў 15-м артыкуле, магілёўскаму купецкаму брацтву «меці пячатку з вырытай на ёй герб з выявай Святога Хрыстафора». Цікава, што віленскія купцы мелі тады пячатку, на якой была выява Св. Юрыя (атрымана 30 студзеня 1630 г.). Усяго ў статуце цэха было 25 артыкулаў, якія рэгламентавалі амаль усе бакі дзейнасці і існавання гэтай прафесійнай супольнасці. Так, напрыклад, у 25-м артыкуле падкрэслівалася, што купецкім «хлопятам» забараняецца мець у сваёй вопратцы футра лісы або насіць галаўныя ўборы з собаля ці куніцы, шоўкавыя пасы з залатымі ці срэбнымі ўпрыгажэннямі і г.д. Наступная канфірмацыя прывілея была зроблена каралём Янам Казімірам. У новым статуце намалявалася толькі 15 артыкулаў. Адпаведна з імі ў брацтве, акрамя старостаў, была ўведзена пасада інстыгатара, на якую пажыццёва абіраўся «чалавек добрай славы і сумлення», што быў абавязаны пільна назіраць за выкананнем статута, каб не было ніякага ўціску братчыкаў з боку як цэхавых, так і іншых улад. Пасаду цэхавага пісара займаў чалавек, які прысягнуў пажыццёва. Прысягу прыносілі і брацкія «шпегуны», якія мусілі сачыць у месте за тым, каб не парушалі правіл гандлю як тутэйшыя, так і прыезжыя купцы. Артыкулам 10-м гэтага статута брацтву надаваўся новы герб — «Стаячага Анёла з вагамі і крыжам». Ян Казімір універсалам «году 1663 месяца траўня 10 дня» падцвердзіў прывілеі сваіх папярэднікаў, пачынаючы з ардананса 1617 г., а таксама вызваліў магілёўскіх купцоў, купчыкаў і прасолаў, якія едуць з таварамі, ад усялякіх падаткаў у радыюсе 24 міль вакол места «пад вінай» у 10 тысяч грошай літоўскіх. Гэты прывілей быў падцверджаны каралём Янам Сабескім «у годзе 1679 месяцы сакавіку 20 дня». Пазней, 30 верасня 1698 г. кароль Аўгуст II Моцны сваім прывілеем канфірмаваў ардананс (загад) «адміністрам камор (мытняў — А. Ц. ), і прыкаморкаў, аб вызваленні магілёўскіх купцоў ад плачэння жытнага старарускага мыта». 12 красавіка 1699 г. ён жа падцвердзіў прывілеі сваіх папярэднікаў магілёўскім мяшчанам, купцам, купчыкам і прасолам аб вольным «купаванні» быдла ў 24-мільнай акрузе вакол места і дазволіў ім безпадатковае сычэнне мёду два разы на год: на «рымскае» свята Божага Цела і на Нараджэнне Божае «рускае». Гэтым жа дакументам дазвалялася прасолам, па прыкладзе іншых магілёўскіх цэхаў, пабудаваць без уплаты падаткаў і мець свой «дом прасольскі» вольны ад пастояў.

**КУШНЕРСКА-БАЛТУШНІЦКІ ЦЭХ** — спецыялісты гэтай прафесіі жылі ў Магілёве з даўніх часоў. Яшчэ «ў годзе 1581 месяцы траўні 31 дня» ў мясцовым магістраце быў заактыкаваны запіс кушняроў аб абранні сваім старостай Ждана Багдановіча, дзе было сказана: «вольно ему на том старостве быть, поки самъ захочетъ». Далей былі сфармуляваны асноўныя правілы дзейнасці мясцовых рамеснікаў. У прыватнасці, агаворваўся трохгадовы тэрмін абучэння спецыяльнасці хлопцаў і падкрэслівалася, што кожны майстар не мог «учня албо пахолка, будь тубыльца албо приходня без ведама старосты прымовать». «У годзе 1589 месяцы красавіку 23 дня» мешчанін-кушнер Анціпа Хількові звярнуўся да мясцовых улад ад імя сваіх калег з прашэннем аб актыкацыі пастановы аб стварэнні брацтва. У тэксце было сказана: «...медъ на свои склады купуючы на свята врочыстыя сытити и продавати по тры дни той медъ сходычысе выпивати и з пенези прадавати а воск од тыхъ медовъ на свечы до церкви...». Братчыкі сумеснымі намаганнямі купілі ў магілёўскага бурмістра Мітка Міхайлавіча Васілевіча дом з пляцам, «под которым (домом — А.Ц.) двадцаць прутов». Гэта пастанова была пацверджана каралём Жыгімонтам III «у годзе 1589 красавіка 26 дня». У ёй адзначалася, што ў тым доме «кождый посполитый чоловекъ, мещане места могилевъского... того ремесла кушънеръского... о потребахъ цеховыхъ... и шпитальных намовы свои мовети (будут — А.Ц.)». Таксама рамеснікам дазвалялася «мед накладом своим купуючы на свята врочистые сытити и по три дни ходечи... тот медъ выпивати». Дакумент утрымліваў асноўныя палажэнні і прынцыпы дзейнасці гэтага брацтва. Другі раз прывілей на дом рамеснікам-кушнярам быў пацверджаны «ў годзе 1595 месяцы жніўні 12 дня».



Балтушнік за працай.
*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

Гістарычныя абставіны склаліся так, што магілёўскія кушняры вымушаны былі менш, чым праз год прасіць караля аб падцвярджэнні гэтага дакумента, бо падчас нападу на горад атрадаў С. Налівайкі кушнерскі цэх (і не толькі ён адзін!) моцна пацярпеў ад «людей свовольныхъ казаковъ», а прывілей і, магчыма, інш. цэхавыя дакуметы загінулі. Мясцовыя кушняры накіравалі да караля свайго калегу — Анціпу Хільковіча, якому быў нададзены паўторны прывілей «году 1596 месяца красавіка 24 дня», які падцвярджаў раней атрыманыя правы рамеснікаў. У дакуменце кароль дадаткова ўдакладніў галоўныя для кушняроў святы: «на день Св. Троицы, други на день Св. Миколы а трети на свято урочистое рожество Христово руское», калі дазвалялася сыціць па 15 пудоў мёду і «за трыдцаць золотыхъ польскихъ горелки мають и оное откуль хотечи набывати и посполу» і па 3 дні ціць. Цэхавы статут у чарговы раз быў зацверджаны каралём Уладзіславам IV «у годзе 1636 месяцы ліпені 12 дня». Асобна падкрэслівался, што для цэха «харугву, бубен, рушніцы, шаблі, дарды і ўселякі рыштунак» браты мусяць набыць з прыходаў скрынкі. Мядовыя складкі братчыкі мелі двойчы на год: «на Святых Барыса і Глеба і на святога Юр'я па рымскаму каляндару». Воск, які заставаўся пасля сычэння мёду, братчыкі мусілі перадаваць палову ў Фарны касцёл, а другую палову у «царкву Святога Спаса». Літаральна праз некалькі месяцаў зацвярджэння статута ўзнікла спрэчка паміж балтушнікамі і кушнярамі. Першыя падалі «пратэстацыю» на цэхмістра Юрку Харашаўку, які настойваў на тым, што балтушнікі мусяць падпарадкоўвацца кушнерскаму цэху. У сваёй пратэстацыі яны падкрэслілі, што «ремесло наше з ними кушнерами далеко розное» і яшчэ «ў годзе 1631 месяцы верасні 31 дня» яны падалі да актыкацыі ў мескія кнігі сваё адрачэнне ад парадкаў кушнерскіх і былі «навечна вызвалены і вылучаны» магілёўскім магістратам з гэтага цэха. Нечакана ў гэтым «сепаратызме» балтушнікаў падтрымаў кушнер Багдан Шаўля, які таксама выступіў з пратэстацыяй на таго ж Ю. Харашаўку і прадставіў «стары прывілей» ад 23 красавіка 1584 (9 — ?) г. Ён заявіў, што дакумент, на якім грунтуюцца прэтэнзіі Харашаўкі не «праўдзівыкам». Гэтымі пярэчаннямі і скарысталіся балтушнікі. Яны сказалі, што калі паміж самімі кушнярамі няма згоды, трэба перадаць справу на разгляд каралеўскага суду. Трэба адзначыць, што поўнага расколу паміж рамеснікамі не адбылося. Так, у 1663 г. цэхмістры кушнерскі Федар Яцковіч (Безмянок) і балтушніцкі Панфіл Амельяновіч выступалі адзіным «фронтам» супраць кравецкага цэхмістра Грэгорэя Тарасевіча па мянушцы Грак і ўсіх братоў гэтага цэха. Яны абвінавачвалі

краўцоў, што тыя насуперак каралеўскаму прывілею займаюцца кушнерскім рамяством: падшываюць футрам не толькі шапкі, але і «сукны розныя», мужчынскае і жаночае адзенне і гандлююць гэтым у крамах, лаўках і па дамах. Калі краўцам «добрым прыяцельскім спосабам» нагадалі пра гэта, то ў адказ кушняры атрымалі «словы, якія стыдно выражаць». Магілёўскі магістрат, разгледзеўшы справу, пастанавіў, што раз краўцы перашкаджаюць кушнерскаму рамяству і нанеслі шкоду, то яны павінны заплаціць на карысць кушнерскага цэха 3 тыс. злотых, а за словы «ушчыплівыя» і нешанаванне каралеўскіх прывілеяў пасадзіць Грака на 6 тыдняў у вязніцу і даць яму штраф у 100 грыўняў: палова сумы магістрату, а другая на карысць кушнерскага цэха. Справа на гэтым не скончылася, бо ў магістрат паступіла яшчэ некалькі скарг з абодвух бакоў, і той вынес рашэнне аб перадачы яе на разгляд каралеўскага суда...

**ПАСТРЫГАЦКІ ЦЭХ** — быў заснаваны паводле прывілея караля Стэфана Баторыя (дакладная дата гэтай падзеі не ўстаноўлена). У дакуменце сказана: «чинечы порадокъ в томъ месте межы пострыгачми надаемъ имъ брацъство пострыгацкое с певными варунками...». Падцвярджэнне дакумента было зроблена каралём Жыгімонтам III Вазай «у годзе 1595 месяцы лютым 24 дня» па прашэнню магілёўскага мешчаніна-братчыка Канюты Марціновіча. У прывілеі было падкрэслена, што брацкі дом вызваляецца ад усялякіх падаткаў і пастояў, а цэхавым братам дазваляецца «вольно для себе медъ пиво и горелъку для себе самихъ по три дни мевати и сходити ее пити и там в Брацстве продовати» на свята «Трех королей а други на день Светое Троицы свят рымскихъ водлугъ нового календара». Прыбытак ад гэтага ішоў на ўтрыманне дому і іншыя брацкія патрэбы.

**ПЕКАРСКІ ЦЭХ** — быў заснаваны пасля звароту амаль пяцідзесяці магілёўцаў у мясцовы магістрат, на пасяджэнні якога быў зацверджаны іх статут. Гэта падзея адбылася «ў годзе 1591 месяцы сакавіку 14 дня». Старостай быў абраны Сава Кандратовіч. У брацтва аб'ядноўваліся магілёўцы: «калачнікі і хлебнікі..., якія пеклі і гандлявалі пірагамі, хлебам жытнім і сітным і грэчаным». Паводле пастановы, «у святую нядзелю братчыкі не маглі пячы хлаб і пірагі і гарачымі насіць іх на рынак». Парушальніка гэтага артыкула чакаў штраф у 12 грошай на карысць войтаўскага ўрада і столькі ж ён мусіў заплаціць у цэхавую скрынку. Царкоўныя павіннасці рамеснікі гэтых спецыяльнасцей адпраўлялі ў Фарным касцёле і ва Уваскрасенскай царкве. Статут цэха быў зацверджаны каралём Уладзіславам IV «у годзе 1634 месяцы траўні 12 дня». Бурныя падзеі наступнага трыццацігоддзя — вайна і маскоўкая

ўлада, не спрыялі захаванасці дакументаў. Калі ў Магілёве памяняліся ўлады і места перастала быць каралеўскім, а стала «его царского величества», магілеўскія пекары стварылі свой новы статут. Гэта адбылося «ў годзе 1656 сакавіка 10 дня». Мусіць з прычыны ваеннага становішча пекары запісалі ў свой статут наступны параграф: «...водлуг цены збожа, каждый братъ цеху нашого пекарского, такъ хлебъ ситный, яко теж и вшелякий белый, слушною, водлугъ часу, ценою, хлебъ, пироги, обаранки, безъ укрывженя мещанъ печи и продавати маетъ... а еслибы который братъ нашъ скупый не ведлугъ слушное цены... печь и продавати важылъ», такі мусіў заплаціць ў брацкую скрынку 1 грыўню, а « хлебъ альбо пироги... до шпиталевъ одданый быти маєт». Гэты дакумент быў «заактыкаваны» ў магістраце «ў годзе 1660 месяцы кастрычніку 21 дня». Праўда, праз некалькі месяцаў улада ў месте зноў змянілася. Паўторны прывілей на заснаванне брацтва быў падпісаны каралём Янам Казімірам у месте Магілёўскім 19 красавіка 1664 г. Як сказана ў тагачасным перакладзе: «супликовали нам мещане... пекаре, абысмы, порядок цэху пекарского, который они съ консенсом и апробатиею майстрату намовили, повагою нашею ќролевскою ствердили». Адпаведна з дакументам, кожны, хто жадаў быць пекарам, мусіў спачатку запісацца ў цэхавы рэестр і толькі потым пячы пірагі, абаранкі, хлеб. Аслушнік мусіў заплаціць штраф у 3 грыўні на карысць магістрату, «а до скринъки братерское две». Прыезджыя госці-купцы не мелі права гадляваць у месте ніякімі збожжавымі прадуктамі акрамя серады і пятніцы. У гэтыя дні гасцям дазвалялася гандляваць пірагамі, сітным хлебам і г.д., але толькі з ведама старшых цэха і заплаціўшы ў цэхавую скрынку 2 грошы. Братчыкі карысталіся правам двойчы на год сыціць мёд для сваіх патрэб: на дзень Божага На-

Пякарны варштат.
*Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*



Герб рымарска-сядлярскага цэха.
*1664 г. Рэканструкцыя.*



раджэння і на свята Св. Міхаіла, а воск, што заставаўся, аддавалі палову ў Фарны касцел і другую — у Спаскую царкву. У 1679 г. пад уплывам росту дарагавізны ў месте братчыкі прынялі пастанову, якой забаранялася «перакупом» гандляваць да 12-й гадзіны і, увогуле, набываць іх тавар «пакуль мяшчане не накупяцца», а пекарам прадпісвалася самім пячы пірагі і гандляваць імі.

**РЫБНІЦКІ ЦЭХ** — актыкацыя гэтага аб'яднання, на якой настаялі «вси рыбаки места Могилевского, которые рыбами звыкли гандель свой мети...», адбылася «ў годзе 1623 месяца лістапада 13 дня». Рыбакі матывавалі неабходнасць афіцыйнай фіксацыі іх парадку тым, што купцы з іншых местаў неабгрунтавана падвышалі кошт на сваю прадукцыю «на крывду ўбогим людям». У тым жа дакуменце былі «заактыкаваны» і рыбніцкія старосты — Кузьма Івановіч, Іван Стэфановіч і Манула Нікіпаровіч.

**РЫМАРСКА-СЯДЛЯРСКІ ЦЭХ** — пастанова аб стварэнні цэха была ўнесена ў актавыя кнігі магілёўскага магістрата «ў годзе 1632 месяцы верасні 2 дня» па ініцыятыве майстроў «ремесла римарьского и седлярского, не з жадного примушення, але сами, по своей доброй воли, отъ себе сами и именем всее брати свое». Статут быў канфірмаваны каралём Уладзіславам IV «у годзе 1633 месяца верасня 30 дня». Да цэха былі далучаны таксама мяхоўнікі, рамеснікі, якія выраблялі чахлы, кабуры і інш. Адпаведна з дадаткам да канфірмацыі, братам цэха дазвалялася сыціць 10 пудоў мёду на дзень Нараджэння Маці Божай і на Божае Нараджэнне, воск яны мусілі аддаваць палову на Фарны касцёл, а другую — на магілёўскія цэрквы. Братам дазвалялася на час вяселля, хрысцін і пахавання мець на ўласныя патрэбы неабходную колькасць гарэлкі, «але не болей чым на тры дні». У прывілеі караля Уладзіслава IV было падкрэслена, што назначана «тым цэхам за герб......Грыфа на харугве і пячатцы цэхавай ужываці...». Канчатковая актыкацыя ў кнігах магілёўскага магістрата цэхавага статута адбылася «ў годзе 1634 месяцы чэрвені 3 дня», калі да рымарскага і сядлярскага рамёстваў былі далучаны спецыялісты роднасных прафесій: мяхоўнікі, паснікі, беласкурнікі (колькасць апошніх, мусіць, зменшылася настолькі, што

яны страцілі сваю ўласную цэхавую ўстанову). Праўда, ужо ў студзені 1635 г. трынаццаць майстроў названых спецыяльнасцей заактыкавалі ў магістраце свой асобны статут і, магчыма, вылучыліся з рымарска-сядлярскага цэха. Рымарскія цэхмістры паспрабавалі папоўніць гэту страту за кошт далучэння да цэха бляхоўнікаў, меднікаў і канвісараў. Такія дзеянні выклікалі пярэчанні з боку апошніх і прывялі да судовых працэсаў спачатку ў магілёўскай ратушы, а потым і ў вышэйшай інстанцыі. Каралеўскі суд падтрымаў рашэнне магілёўскага магістрата і адхіліў прэтэнзіі рымарскага і сядлярскага цэхмістра Яна Любчынскага. У дэкрэце 1636 г. было падкрэслена, што мясцовыя канвісары, меднікі і бляхоўнікі «самі дабравольна да цэху злотнічага далучыліся і на гэты час з ім». Далей, у пастанове было зацверджана гэта іх рашэнне.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — гандаль мяснымі прадуктамі — вельмі важны аспект функцыянавання кожнага места: небяспечнасць узнікнення захворванняў ці нават эпідэмій у выніку рэалізацыіі сапсаваных прадуктаў вымушала ўлады пільна сачыць за гэтым відам дзейнасці. Як сведчаць дакументы, у 1578 г. магілёўскі магістрат у сваім «вырaку» (прыгаворы — А. Ц. ) назначыў мешчаніну Грыгору Васілевічу суровае пакаранне за гандаль мясам хворай, «неразцельнай каровы». «Прадпрыймальнага» Грыгорку прыгаварылі «іако фальшэра ў дыбы выхвостать и з места проч...выслати», а «фальшывае» мяса «перед всим народом в месте на рынку спалить», што і было зроблена. Як сказана ў дакуменце: «мясо спалено и того фальшера мётлами выхвоставши от места проч ити и больш в месте быт ани бывaт росказано...». Спробы ўпарадкаваць гандаль мяснымі прадуктамі прадпрымаліся магілёўцамі і пазней. Так, у 1621 г. была прадстаўлена для запісу ў магістрацкія актавыя кнігі пастанова мяшчан-рэзнікаў, што жылі пад майдэборскай і пад замкавай юрысдыкцыяй, аб змяшчэнні з пасады былога рэзніцкага старосты, пры якім «порадку слушного небыло» і абранні «на то месцо» Цімка Кузьмініча. У дапамогу яму абралі чатырох таварышаў — тры майдэборскага і аднаго замкавага прысуду. У пастанове мяшчан былі сфармуляваны асноўныя палажэнні наступнага каралеўскага прывілея, які быў падпісаны каралём Янам Казімірам «у годзе 1664 месяцы красавіку 18 дня» пад час яго знаходжання ў Оршы. Адпаведна з дакументам усім, акрамя цэхавых рэзнікаў, забаранялася займайцца гандлем мяса асобнымі кавалкамі, а рэалізоўваць нават сваё забітае быдла можна было толькі цалкам. Выключэнне было толькі адзін раз на тыдзень — у аўторак, калі кожны за

«вядомасцю старшых цэхмістраў... каб мяса было здаровага быдла» мог «вольна шынкаваць». Што тычыцца магілёўскіх яўрэяў, то ім забаранялася мець уласныя мясныя яткі (гандлёвыя месцы на базары) і дазвалялася гандляваць толькі «мясам свайго рэзання на сваім звычайным месцы, даўнім сваім отрубе пры школе (яўрэйскай — А.Ц.)». Усім рэзнікам забараняўся ўсялякі гандаль мяснымі прадуктамі падчас пастоў «рымскага і рускага», праўда, дазвалялася гандляваць рознымі гатункамі рыбы. На вялікія святы — нараджэнне Маці Божай і Трох Каралёў (Пакланенне Валхвоў — А.Ц.) «водлуг старага каляндара», рамеснікам дазвалялася сыціць для сваіх патрэб па 30 пудоў мёду без уплаты капшчызны, але воск, які атрымоўваўся пасля сычэння, дзяліўся на дзве часткі: адна магілёўскаму касцёлу, другая брацкай царкве. У 1680 г. рэзнікі прынялі сумесную пастанову з мэтай збіць цэны: не купляць быдла ў прасолаў, а толькі ў мяшчан пад вінoй у 100 грыўняў на урад і столькі ж на цэх, таксама не набываць яго на выяздзе ў Чэрыкаве, Чавусах, «Быховічах» і інш. Наступная канфірмацыя прывілея брацтву адбылася «ў годзе 1710 месяцы траўні 11 дня». Гэты прывілей і правы былі падцвержаны і пашыраны «ў годзе 1720 месяцы жніўні 11 дня» праз дадатковыя ільготы, нададзеныя каралём Аўгустам II. Магілёўскім рэзнікам было дазволена «вольнае купованіе» быдла ў 24 мілях вакол места, уладам забаранялася браць падаткі з набыўцоў-рэзнікаў, падаткамі абкладаліся толькі гандляры. Яўрэям-рэзнікам забаранялася мець свае мясныя яткі не толькі ў месце ці замку, але і ў прадмесцях і мескіх юрыдыках. Ім было пакінута старое месца каля іх школы.

Рэзнікі.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*



**САЛАДОЎНІЧЫ ЦЭХ** — першая спроба ўтварэння гэтага «згромажэння» і ўпарадкавання дзейнасці і «розмноження ремесла... солодовничого» была здзейснена ва «Уфале солодовников», што была «заактыкавана» у мескіх кнігах «у годзе 1591 месяцы ліпені 18 дня». Гэта быў

«папярэдні праэкт» статута цэха. Адпаведна з ухвалай быў абраны і першы старшы цэха. Ім стаў Стахор Мітковіч, які ў 1606—1610 гг. узначаліў магілёўскую апазіцыю супраць «старой мескай рады». Канчаткова брацтва было заснавана адпаведна з пастановай мясцовых саладоўнікаў, якія «ў годзе 1597 месяцы чэрвені 5 дня» звярнуліся ў месцкі магістрат для яе актыкавання. Старшым «над братиею» быў абраны «человек учцівы і богобойный» — Стахор Мітковіч. Адпаведна з пастановай саладоўнікі маглі рабіць гандлёвыя здзелкі па продажы соладу прыезжым купцам толькі з ведама сваіх старшых. Гэта «сознаніе» (пастанова — А.Ц.) было ўнесена ў мескія кнігі па ініцыятыве дванаццаці магілёўскіх мяшчан. Амаль праз месяц — 2 ліпеня чатыры магілёўцы, якіх узначальваў староста саладоўнічы Яцко Пашковіч, зноў звярнуліся ў магістрат з аналагічнай пастановай аб стварэнні цэха. Такую сітуацыю, нам здаецца, можна растлумачыць нарастаннем супярэчнасцей і канкурэнтнай барацьбы паміж двумя групамі саладоўнікаў. Цікава, што двое з падпісантаў першай пастановы фігуруюць у другой. Вартым згадкі з'яўляецца факт выдання ў 1633 г. «каралём польскім, царом маскоўскім» Уладзіславам IV забароны магілёўцам будаваць у сувязі з пажарнай небяспекай лазні і піваварні ў межах места. Наступная, ужо статутовая пастанова, была запісана ў актавыя кнігі магілёўскага магістрата «ў годзе 1646 месяцы верасні 7 дня». Яна ўтрымлівала ў сабе больш структураваны цэхавы статут, які быў (як мы мяркуем) распрацаваны з улікам мясцовых рэалій. Дакумент складаўся з 29 артыкулаў. Найбольшыя спрэчкі і рэзананс выклікаў 16-ы артыкул, дзе гаварылася, што «жыды, набраўшы соладу за (даванне «вінназастаўнага долгу» — А.Ц.) крэдытаў у нашага брата сладоўніка», потым бяруць з апошніх гатовай прадукцыяй і самі ёй гандлююць, чым наносяць шкоду ўсяму брацтву. Каб прадухіліць падобную сітуацыю, братам цэха забаранялася разлічвацца са сваімі крэдыторамі як сыравінай, так і прадукцыяй пад «віной» у 5 коп грошай на карысць мескага ўраду і столькі ж — на цэхавую скрынку. Гэты артыкул, як і ўсе іншыя, быў канфірмаваны каралём Уладзіславам IV «у годзе 1646 месяцы кастрычніку 27 дня». Літаральна праз некалькі тыдняў (6 снежня 1646 г.) перад магілёўскім мескім урадам выступілі «неверныя жыды магілёўцы» са сваёй «пратэстацыяй» на тое, што «Мікіта Стаховіч, цэхмістр, і інныя (з) цэху сладоўнічага», атрымаўшы такі прывілей, за некалькі тыдняў нанеслі шкоды ў «гандлях і шынках» на «злотых дзесяць тысяч». Узаемаабмен пратэстацыямі і скаргамі адбываўся на працягу ўсяго году, пакуль магістрат не накіраваў справу «на розсудок каралю».

Інструмент цесляра.



«порадку» і заактыкавы факт абрання «дойлидским старостай» Харка Несцяровіча.

**ЦЯСЛЯРСКІ ЦЭХ** — пастанова або, як сказана ў дакуменце, «уфала дойлидовая» была прынята на пасяджэнні магістрата «ў годзе 1590 месяца лютага 1 дня». Па прашэнню тутэйшых мяшчан «для розмноженья ремесла... дойлидского...» у мескія кнігі былі ўнесены пункты іх

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — прывілей на цэх быў нададзены каралём Жыгімонтам III Вазай па прашэнню шаўцоў 8 верасня 1609 г. (у Оршы да яго звярнуліся дванаццаць магілёўскіх рамеснікаў, якіх узначальваў іх цэхмістр Ждан Асіповіч). Ужо 5 кастрычніка таго ж года гэты дакумент быў унесены ў актавыя кнігі магілёўскага магістрату. У адпаведнасці са статутам, вучань, які скончыў курс навучання, мусіў «з мыта рабіць» (адпрацаваць ў майстра) 3 гады. Толькі пасля гэтага, пры жаданні самастойна працаваць, ён рабіў адпаведную заяву старшым цэха, запісваўся ў цэх і ўносіў у цэхавую скарбонку 10 злотых. Канфірмацыя прывілея была зроблена «ў годзе 1633 месяцы снежні 10 дня», каралём Уладзісавам IV «у абозе за Смаленскам на Багданавай слабадзе» па прашэнню ад імя ўсяго цэха цэхмістра Няфёда Гарасімовіча і трох старшых. У гэтым дакуменце падцвярджаліся артыкулы папярэдняга прывілея і дадаваліся яшчэ некаторыя, у прыватнасці, дазваленне братчыкам 2 разы на год сыціць мёд «без плачэння падаткаў», воск рамеснікі мусілі дзяліць пароўну паміж магілёўскім Фарным касцёлам і царквой Кузьмы і Дзям'яна.



Шавецкія калодкі.
*19 ст.*



# МАЗЫР

**МАЗЫРСКІЯ РАМЕСНІКІ** — краўцы, кушняры, шаўцы і дубатоўкі атрымалі ад новагародскага ваяводы, старосты мазырскага, кн. Мікалая Радзівіла Рудага прывілей на «складкі» мядовыя тэрмінам ў 2 дні на свята Кузьмы і Дзям'яна, пад час якога яны маглі безпадаткава сыціць і шынкаць мёд.

Пасля смерці (у красавіку 1584 г.) мазырскага старосты — М. Радзівіла з боку мытнікаў «тамошніх» пачалі рабіцца перашкоды гэтаму звычаю. Тады раменікі звярнуліся да караля Жыгімонта III Вазы, каб той канфірмаваў іх вольнасць. У прывілеі апошняга «году 1592 месяца кастрычніка 9 дня», было падкрэслена «абы мытники тамошния мозырские жадное (перашкоды — А.Ц.) не чынили......на которой они (раменікі — А.Ц.) склад... от давних часов мают».

Ад сябе асабіста кароль дадаў яшчэ і трэці дзень. Больш дакладных звестак пра мясцовыя рамесныя цэхі 16 — канца 18 ст. нам не трапілася. Як сведчаць гістарычныя дакументы, у 1849 г. ў Мазыры былі «устроены» — «портный, сапожнический, плотнический, молотовый, кушнерский» і «гончарский» цэхі.



Варштат «чорнай зброі».
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*



# МІНСК (МЕНСК)

**АБ'ЯДНАНЫ МЕТАЛААПРАЦОЎЧЫ ЦЭХ** — «году 1591 месяца снежня 2 дня» створаны цэх «васьмі рамёстваў», куды ўваходзілі кавалі, катляры, слесары, пабраічы (спецыялісты па вырабу конскай збруі), пушкары, мечнікі, нажэўнікі і, з-за малой лічбы «містроў у месте», — злотнікі. Статут гэтага цэха, як ўжо адзначалася, быў зацверджаны ў 1591 г. Каралеўскі прывілей, што пацвердзіў яго, быў падпісаны па просьбе дэлегаваных ад усіх мескіх «металістаў» на сойм у Варшаву злотнікаў Паўла Кнезіковіча, Станіслава Растковіча і слесара Міхаіла Савіцкага 20 лістапада 1592 г. Гэты цэх на працягу стагоддзяў свайго існавання не быў закасцянелай структурай. Першымі з яго вылучыліся 31 мая 1615 г. злотнікі, а сам цэх на працягу сваёй гісторыі неаднаразова перажываў калізіі ў сувязі з тэхнічным працэсам, неспрыяльнымі палітычнымі ці эканамічнымі абставінамі. Наступным канфірмацыйным (пацвярджальным) прывілеем быў дакумент ад 14 сакавіка 1637 г., які быў нададзены каралём Уладзіславам IV на штогадовае сычэнне мёдаў: раз на Вялікую




Герб аб'яднанага металаапрацоўчага цэха.



Варштат «белай зброі». *Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

ноч (Пасху — А. Ц. ), а другі раз на Божае Нараджэнне — «свята рускае» (паводле праваслаўнага каляндара — А.Ц.) без плачэння акцызаў і падаткаў. Адначасова дазвалялася адзначаць брацкімі застоллямі гэтыя святы «... але не даўжэй, толькі адзін тыдзень» кожнае.

**Кавалі** — гэта спецыяльнасць была найбольш распаўсюджанай, і яе прадстаўнікі на працягу ўсяго часу функцыянавання цэха (і нават значна раней) жылі ў старажытным Менску. Пры самых розных зменах цэхавай структуры кавалі заўсёды заставаліся на першых месцах. Кавальскі варштат працаваў толькі на сваю краму альбо на заказ канкрэтнага пакупніка. Строга забаранялася рабіць «рыдлёўкі, матыкі, лапаты, ланцугі і іншыя рэчы з жалеза купецкага» для клетак — крам на «перакуп з жалеза купецкага». Выключэнне дапускалася толькі ў выпадку, калі прадукцыя падлягала рэалізацыі ў інш. местах ці краінах. Не маглі кавалі таксама рабіць стэльмахоўскую «работу», хаця не забаранялася ўдзельнічаць у рамонце і вырабе дэталей да карэты, каляскі і г.д., калі аб гэтым папросіць гаспадар. Полем дзейнасці менскіх кавалёў было «каванне коней і возаў, сякер, гакаў, шышакоў (шлемаў), анкераў (кратаў), ланцугоў і іншай работы чорнай». У другой палове 17 ст. у сферу кампетэнцыі кавальскага цэха ўвайшло мацаванне шын да колаў на павозках, што раней было прэрагатывай рамеснікаў-рымараў. Сярод інш. вырабаў фігуруюць «падкоўкі на боты з жалеза, хто якое прынясе».

**Катляры** — каб стаць майстрам, трэба было зрабіць з 3 каменяў (каля 2 пудоў) медзі «кацел піўны, на шэсць ушатаў», які складаўся з трох дэталей — двух блях і борціка, што паяліся паміж сабой так шчыльна, «спраўна і гладка, каб пазногцем нельга было зачапіць». Другім майстэрчыкам была «баня гарэлачная» (перагоннае прыстасаванне), у якой прымаючая ёмістасць раўнялася 1 ушату. Трэцім — «консу пабелёны» з мед-

ным абручом уверсе. На гэты выраб давалася асобна 10 фунтаў медзі. Усе гэтыя штукі належала «выправіць» за 4 тыдні ў прысутнасці майстроў, якія назіралі, каб усё было «сваёй рукой» зроблена, праўда, для дапаможных работ у працэсе іспытаў катлярам, як і кавалям, дазвалялася мець хлопца. Працэс навучання гэтай спецыяльнасці працягваўся 4 гады, а майстру не дазвалялася мець больш як трох вучняў.

**Мечнікі** — тэхнічны прагрэс знішчыў рыцарства, не стала і майстроў, якія выраблялі для іх галоўнае ўзбраенне. Каб стаць мечнікам, трэба было вучыцца 4 гады, пры гэтым настаўніку забаранялася мець больш, чым аднаго вучня. Толькі пры «давучэнні» першага ён мог узяць сабе другога. Дапушчаны да іспытаў мусіў зрабіць за 12 тыдняў меч у поўным камплекце. Выраб шэдэўру праходзіў пад наглядам двух майстроў. Для некаторых працаёмкіх аперацый прэтэндэнту дазвалялася прыцягваць памочніка. Як правіла, гэта была коўка, першасная зачынка, заточка. Калі тэхналагічны працэс даходзіў да варанення, таварыш «мусіў адступіць». Лязо мяча трэба было вараніць, каб не было ні падпалін, ні завалок, і «стаў ён як люстэрка». Рукаяць мяча пачыналася двума меднымі шчыткамі, на якіх выразаўся з аднаго боку герб каралеўскі, а з другога — Менска. Той самы сюжэт паўтараўся на «гловіцы» — круглым, «у цыркуль зробленым» навершы. Акрамя таго, згаданы геральдычны матыў абавязкова мусіў прысутнічаць і на похвах. Такія адзнакі могуць быць добрай падказкай для сучасных музейных супрацоўнікаў і калекцыянераў у працэсе храналагічнай і лакальнай атрыбуцыі гэтых прадметаў. У палову «штукі» ўваходзіў выраб мяча і похваў, другой часткай гэтага ж майстэрчыка лічыліся рукаяць, гловіца і шэраг дэталей похвы. Тыпалагічным узорам для нашых рамеснікаў гэтай спецыяльнасці быў саксонскі меч, або як ён тады называўся — сас. Нават за часы першага зацвярджэння цэхавага статута мячы ўжо выйшлі з вайсковай «моды» і паўсюдна былі заменены шаблямі. У «Парадку унутранага строю кавальска-слясарскага цэха», што быў зацверджаны «ў годзе 1666 сакавіка 20 дня», адпаведны артыкул па традыцыі меў назву «мечнічы», але ў ім згадваліся толькі шаблі.

**Нажэўнікі** — уяўлялі сабой асобную групу рамеснікаў, што займалася вырабам невялікага колюча-рэжучага ўзбраення і прадметаў для побытовага ўжытку. Адпаведна з прывілеямі ніхто, акрамя іх, у Менску не мог «бавіцца» гэтым рамяством. Каб атрымаць вышэйшую кваліфікацыю і адпаведнае званне, пасля вучобы і адбыцця «службы таварыскай» патрабавалася, як і ў інш. рамёствах, здача іспытаў. У прысутнасці двух майстроў — нажэўніка і мечніка,

узяўшы «фунтаў дзесяць сталі» раскаленай, разсекці ўздоўж на палосы даўжынёй у палец. Пасля ізноў нагрэць і адкаваць трынаццаць нажоў і «крэдэнс» (крэдэнс — увогуле месца, шафа, дзе зберагаліся сталовы посуд і прыборы, а ў дадзеным выпадку — футляр для захавання камплекту нажоў). Кожны нож меў на лязе канаўкі і па два зуба на «горбе» — тыльным баку ляза. На акладзінах-похвах — чатыры штрэфы (рыскі, ўпрыгожаныя меддзю). Ручка пачыналася двума меднымі «крыжовымі жалудзямі» (зараз называюцца вусы, вусікі) і рабілася з дрэва. Гэтыя нажы складалі «пол-штукі», якую абавязваўся рабіць «містроўскі» сын або таварыш, што ўзяў майстроўскую дачку ці адружыўся з удавой майстра гэтага рамяства. Другая палова «штукі», якая была абавязковай для ўсіх астатніх (як і першая), складалася з цясака, чатырох [сталовых —А. Ц. — ?] нажоў, відэльца і пенала для іх захавання. На выкананне ўсяго майстэрчыка давалася 12 тыдняў. Калі ў інш. рамёствах дазвалялася, унёсшы пэўную суму грошай у цэхавую скарбонку, вызваліцца ад іспытаў, то нажэўнікам гэта катэгарычна забаранялася артыкуламі статута.

**Пабраічы** — выраблялі цуглі, астрогі, страмёны для коней. Майстрам пабраіцкага рамяства строга забаранялася рабіць слясарскую работу, адпаведна і апошнім нельга было прымаць пабраіцкія заказы. Каб стаць майстрам гэтай спецыяльнасці, трэба было зрабіць цуглі з мунштуком з пяццю яблыкамі, а таксама медныя пуклі для яго. Другая штука — астрогі «па-кракаўскі», і апошняя — страмёны «капланскія», пакрытыя меддзю. Гэтая вузкая спецыяльнасць у больш позніх статутах металаапрацоўчага цэха не згадваецца. Такую з'яву можна растлумачыць тым, што пабраічы зліліся са слесарамі або, увогуле, выйшлі з цэха і далучыліся да рымараў.

**Пушкары** — даволі цяжка сказаць наколькі значнае месца займала гэта спецыяльнасць у Менску. Найбольш ранні дакумент згадвае імёны пушкароў Стафана (?), Юр'я Глота, Якуба Відлаха і Матэя Фанзеха. Яны пакінулі Менск у 1507 г. з каралеўскага дазволу. Адны ад'ехалі з уласным варштатам ці падмайстрамі, іншыя — паасобку. Мяркуючы па імёнах і прозвішчах, яны былі, хутчэй за ўсё, немцамі. Больш позння крыніцы 1779—1788 гг. згадваюць Андрэя Апановіча — цэхмістра «кюнсту» пушкарскага. А калі быў цэхмістр, значыць існавалі і падначаленыя яму майстры з уласнымі варштатамі. Каб стаць майстрам, трэба было выкаваць «руру» — ствол «на паўтара локці», з трох секцый і стрэліць з яго тры разы. Да руры зрабіць і прымацаваць замок з курком і «ключом». Такая «штука» рабілася паўгода. Існавала і больш спрошчаная працэдура, калі за 12 тыдняў выраблялі толькі адзін замок.

Пазнейшыя дакументы захоўваюць «артыкулы пушкарскія», як гэта фігуруе ў статуце 1666 г. Праўда, там ідзе справа аб «направе» і рамонце фузеяў і мушкетаў. Дадатковым пунктам былі пазначаны «шыхтэры», якія займаліся дробным і сярэднім рамонтам пістоляў.

**Слесары** — вучнёўства ў гэтай прафесіі для хлопцаў працягвалася 4, а для юнакоў («падросткаў») — 3 гады. Настаўнік не мог мець больш за трох вучняў. Толькі пры заканчэнні адным з іх навукі, ён мог узяць сабе чацвёртага. Слесарскі «шэдэўр» складаўся з замка (з дваццаці чатырох дэталей) да «склепу» з дзвюма клямкамі і двума ключамі. Другой часткай шэдэўру быў унутраны замок для скрынкі з дваццаці дэталей. Адпаведна са статутам толькі слесарам дазвалялася адчыняць замкі ў Менску, калі хто-небудзь па нядбайнасці згубіў ці паламаў ключы. Пры гэтым у дакуменце падкрэслівалася, што «адмыканне замкоў небяспечнасць за сабой цягне» і прыступаць да яе таварыш можа толькі з дазволу свайго майстра. І ва ўсіх выпадках трэба было абавязкова папярэдзіць гаспадара «онага месца». Наступнае пацвярджэнне правоў і прывілеяў, у якім усе спецыялісты па металаапрацоўцы фігуруюць разам, адбылося «ў 1666



Выраб мінскіх слесараў.
Замок.
*17 cm.*

годзе сакавіка 20 дня». Магчыма, крыху пазней, каля 80-х гг. 17 ст. адбылося вылучэнне слесараў у асобны цэх. Аб гэтым ускосна сведчыць судовы працэс паміж цэхмістрамі слясарнага рамяства і магістратам з аднаго боку і харужым таго ж цэха Васілем Мазуркевічам з другога. Яго абвінавачвалі ў невыкананні цэхавага статуту: не падпарадкоўваўся загадам старшых і ігнараваў рашэнні агульных сходак і магістрату.

У 1744 г. майстры цэха, цэхавыя браты і ўвесь цэх былі абвінавачаны каралеўскім інстыгатарам ВКЛ Станіславам Антоніям Бужынскім у тым, што братчыкі не «трымаюцца правоў і парадкаў, не шануюць каралеўскіх прывілеяў, не сочаць за работай і вучобай сваіх братоў і не плоцяць падаткаў у мескую скарбонку». У гэтай сувязі С. Бужынскі прыцягнуў іх да судовай адказнасці. «У 1762 годзе снежня 1 дня» было падпісана пагадненне аб далучэнні да хрысціянскага слясарска-кавальскага цэха рамеснікаў-яўрэяў, «што рамяство сваё молатам робяць». Адпаведна з «дэкрэтам», прынятым на генеральнай сходцы, «навечна, ні ў якія часы неадзоўна, фінальна згадзіўшыся» рамеснікі-хрысціяне аб'ядноўваліся ў адну суполку з рамеснікамі-іудзеямі.

Апошнія прымалі на сябе абавязак выконваць цэхавы статут і штогод уносіць у агульную скарбонку 34 талеры. Такім чынам, замест канкурэнцыі паміж хрысціянамі-цэхавікамі і яўрэямі-партачамі ўзнікла аб'яднаная суполка, створаная па вытворча-тэрытарыяльным прынцыпе. З яўрэйскага боку ў яе ўвайшлі таксама злотнікі, «юбілеры», бляхары і меднікі.

Захаваўся дакумент — крэдэнс, што быў нададзены Стэфану Дзяцкевічу аб абранні яго пажыццёвым цэхмістрам слясарскага цэха. Ён быў выдадзены менскім магістратам 3 лістапада 1768 г. «за згодаю і данесеннем братоў цэху, каб праз здольных цэхмістраў прывілеі і артыкулы пільна захоўваліся».

Як правіла, цэхмістры надзяляліся паўнамоцтвамі толькі на 1 год. Магчыма, апошнія ў 18 ст. змены адбыліся з гэтым цэхам у 1770 г. Дата ў напячатным подпісе адпавядае часу стварэння гэтага атрыбута існавання юрыдычнай асобы. Паводле вынесеных на пячатку сімвалаў, у цэх уваходзілі зегармістры (часаўшчыкі), збройнікі двух спецыялізацый, кавалі і слесары.

У 1785 г. цэх справіў харугву з кармазінавай «кітайкі», наверша якой была ўпрыгожана меднай булдаўкай». У цэхавых рахунках (рэестрах) за 1783—1785 гг. згадваюцца сумы, патрачаныя на новую харугву. Толькі на тры рознакаляровыя адрэзы «кітайкі» (кітайскага шоўку) і яе выраб было заплачана больш за 130 злотых. Адзначым, што ў той час шабля каштавала 18 злотых.

**ГАНЧАРСКА-МУЛЯРСКА-ЦЯСЛЯРСКІ ЦЭХ** — афіцыйнай датай узнікнення аб'яднання (цэха) гэтых трох спецыяльнасцей з'яўляецца «год 1636 месяц красавік 21 дня», калі кароль Уладзіслаў IV надаў прывілей і статут гэтаму цэху. У дакуменце сказана, што да караля звярнуліся менскія мяшчане: ганчары, муляры і цесляры — Ян Якубавіч Кадзіліч, Яско Валынцэвіч, Іван і Дзям'ян Міхаловічы, Аліфер Радзікевіч і ад імя ўсіх прадстаўнікоў сваіх прафесій прасілі, «абы тым тром рамеслам быў нададзены цэх або брацтва і ўсялякі парадак...». Гэты цэх, як і інш. рамесныя аб'яднанні, не заставаўся на працягу стагоддзяў нейкай закасцянелай структурай. Ужо праз 30—40 гадоў з яго вылучыліся цесляры, аб чым сведчыць цэхавая пячатка, якая, мяркуючы па стылістычных асаблівасцях, была зроблена ў 50—70-х гг. 17 ст. Напячатны надпіс сведчыў аб яе прыналежнасці. Тое ж пацвярджае і герб, які знаходзіўся ў цэнтры пячаткі, дзе пад рыцарскай прылбіцай з каронай размяшчаўся абкружаны наміткай шчыт з выявамі прылад працы (кельма і малаток) і ўзораў прадукцыі — збанка і гарнца. Калі меркаваць па размяшчэнню выяў, на час стварэння гэтай пячаткі муляры-каменшчыкі займалі дамінуючае становішча ў цэху. Цесляры ў той перыяд, магчыма, вылучыліся ў асобны цэх ці аб'ядналіся з цэхам сумежнай спецыяльнасці. Першапачатковая структура ганчарска-мулярска-цяслярскага цэха, адпаведна з прывілеям, была наступнай. Узначальваўся ён шасцю старшынямі — цэхмістрамі. Па двое ад кожнай спецыяльнасці (аднаго веры «грэчаскай, а другога — рымскай»). Яны мелі тэрмін паўнамоцтваў 1 год. У прывілеі падкрэслівалася, што «еслі бы каторы з чужаземца... з палякаў, влохаў (італьянцаў), немцаў» ці інш. хацеў далучыцца да цэха, каб нікому «з ніх не было перашкодаў для уступу у брацтва з майстрамі Менскімі». Але ўсе яны выступалі адзіным фронтам супраць партачоў-канкурэнтаў, а таксама «фурманаў, якія асабліва з Лагойска, з мястэчкаў, з вёсак або яшчэ адкуль да места нашага Менска з гарцамі (гаршкамі — А. Ц.) прыязджалі». Кароль Уладзіслаў IV забараніў усім прывозчыкам тавару гандляваць, акрамя штогадовых ярмарак і на дзесятую пятніцу году, калі яны маглі рэалізоўваць свой тавар у тым месцы, дзе ім паказвалі старшыя майстры-ганчары. Калі та-



Пячатка ганчарска-мулярскага цэха.

вар не быў распрададзены, прысежныя купцы не маглі рэшту нікому прадаць, толькі цэхавым майстрам «за слушныя пянёндзы». Калі ж хто парушаў гэты пункт каралеўскага прывілея, то такога «грабіць мусят з уселякім урадам». Даволі складаная сітуацыя узнікла ў цэху ў 1739 г., калі мінуларочны цэхмістр Ян Каплінскі насуперак цэхавым звычаям затрымаў у сябе пячатку і свавольна, без ведама астатніх братоў цэха прыкладаў да дакументаў. Акрамя таго, пад час яго цэхмістроўства, як гэта зафіксавана ў мескіх кнігах, «згінулі каралеўскія прывілеі на цэх». Наступны падзел (калі гэта не быў сапраўдны раскол —А. Ц.) здарыўся ў 1776 г. Як сведчаць дакументы, частка майстроў, «намовіўшы братоў», адышла ад цэха. «Раскольнікі» зрабілі сабе іншую харугву і падчас хроснага ходу схілілі музыкаў, каб тыя разам з імі накіраваліся «з трыумфам да дому цэхавага старшыні». Акрамя таго, як сказана далей у той жа скарзе, «незаконна ўтрымліваюць ў сябе ключы ад цэхавай скрыні і адкрыта парушаюць каралеўскія прывілеі», што былі нададзены цэху.

**ЗЛОТНІЦКІ ЦЭХ** — упершыню злотнікі фігуруюць у дакуменце ад «году 1591 месяца снежня 2 дня», якім засноўваўся цэх васьмі рамёстваў у Менску. Толькі амаль праз 25 гадоў, «у годзе 1615 месяцы траўні 31 дня» менскія злотнікі атрымалі прывілей на заснаванне свайго асобнага цэха. Як сказана ў дакуменце: «...з ласкі Божай людзі таго рамесла тожа быць усталяваны». Гэты прывілей быў пацверджаны ў 1634 і 1672 гг. Разам з дазволам быў пацверджаны і статут злотніцкага цэха. Акрамя «парадку цэхавога» і ўзаемаадносін паміж майстрамі, падмайстрамі, вучнямі і чэляддзю ў ім прадугледжвалася, каб цэх меў свае ўласныя пячатку і харугву. На жаль, сёння яшчэ не знойдзена ніводнага адбітку гэтай пячаткі, таму невядома, якая выява яе ўпрыгожвала. Таксама няма звестак і аб цэхавым сцягу. Цэху дазвалялася мець зброю, і ўсе цэхавыя браты падчас небяспекі выступалі на яго абарону. Да харугвы злотнікаў, адпаведна з дакументам, мусілі далучацца таксама ўсе іншыя рамеснікі, якія пражывалі ў Менску, але не мелі свайго ўласнага рамеснага брацтва. Майстры-злотнікі, якія жылі ў месте і на прадмесці, былі абавязаны ўступіць у цэх пад страхам страты «работы і варштату» (інструментаў). Ніхто іншы не мог прывезці ў Менск золата, срэбра і гандляваць імі. Увесь тавар парушальніка падлягаў канфіскацыі. Лепшым сярод менскіх злотнікаў 17 ст. быў Матыс Людвік Бальцаровіч. Звесткі аб ім рэгулярна сустракаюцца ў дакументальных крыніцах паміж 1600 і 1671 гг. Л. Бальцаровіч неаднаразова займаў пасады менскага райцы і бурмістра, прадстаўляў ў мескім магістраце інтарэсы жыхароў пратэстанскага і праваслаўнага веравызнання. Яго заслугі і майстэрства былі

заўважаны вярхоўнай уладай: «у годзе 1645 месяца ліпеня 29 дня» атрымаў каралеўскі прывілей на права вольнага гандлю ў Кароне і ВКЛ і за «умеетнасць» прыняты ў лік каралеўскіх слуг.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — быў створаны «на врадзе ратушу менскага» 10 снежня 1591 г. Пазней дакумент аб заснаванні цэха быў канфірмаваны каралём Жыгімонтам III Вазай «у годзе 1592 месяца лістапада 20 дня», аб чым прасілі майстры кравецкага рамяства — Томас і Стэфан Васілевічы, Яўхім Лук'янавіч Слінковіч, Юда Дурняковіч і Павал Івановіч. Адпаведна з дакументам «майстрам рамяства кравецкага, у месте мінскім жывучым, дазвалялася цэх, сходкі і ўселякія парадкі мець, па прыкладу места... сталічнага Віленскага». Таксама падкрэслівалася, што прывілей дзейнічае незалежна ад таго, ці пражываюць яны пад юрысдыкцыяй майдэборскай — гарадской, замкавай, княжацкай, ваяводскай, урадніцкай, шляхецкай, духоўнай ці свецкай. Калі б хто пярэчыў гэтай пастанове, «непаслухмяных і упорных караць войту і бурмістрам». Прывілей быў пацверджаны сынам Жыгімонта каралём Уладзіславам IV «у годзе 1636 красавіка 17 дня» па прашэнню цэхмістраў Аляксандра Байдара і Яна Шафаронка. У дакуменце падкрэслівалася, што ўсе іншыя мяшчане, калі яны не ўпісаны ў цэх, не могуць нават гандляваць кравецкім таварам пад страхам яго страты. Цэхавыя браты мусілі рэалізоўваць свае вырабы ў тых месцах, якія дазваляліся мескім урадам — магістратам. Толькі цэхавыя браты мелі права займацца апрацоўкай, вырабам і гандлем гэтымі таварамі. Іншагароднія купцы маглі таргаваць у спецыяльных гасцявых крамах, але павінны былі прадаваць усё разам. Праўда, гэта не тычылася тых дзён, калі адбываліся агульнагарадскія кірмашы. Падчас іх дазваляўся бязмытны гандаль і так, як таго пажадае прадавец, незалежна ад яго падданства. Безумоўна, у гэты цэх уваходзілі не толькі «чыстыя» краўцы. Ён аб'ядноўваў у сваіх шэрагах і майстроў інш. сумежных спецыяльнасцей, якія з-за малой колькасці не мелі магчымасці стварыць свае ўласныя арганізацыі. У цэх уваходзілі таксама панчошнікі, суконнікі, што выраблялі тканіну, ткачы. Абавязковай была прысутнасць у цэху фарбераў, якія займаліся фарбаваннем палатна ці гатовых вырабаў. Адначасова брат-



Герб кравецкага цэха. *18 ст. Рэканструкцыя.*

Герб кушнерска-шапачна («чапніцка»)-балтушніцкага цэха. *1672 г. Рэканструкцыя.*



чыкам дазвалялася вольна, без аплаты падаткаў чатыры разы ў год сыціць для сябе мёд: на каталіцкі Вялікдзень і Свята Божага Цела, праваслаўныя Нараджэнне Панны Марыі і Ісуса Хрыста. Кожнае такое свята дазвалялася адзначаць «не болей двух тыдняў». Воск, што атрымліваўся ад сычэння мёду, дзяліўся на палову паміж царквой Св. Духа і Фарным касцёлам. У 1684 г. віленскія краўцы, магернікі, панчошнікі і суконнікі атрымалі прывілей, у якім гаварылася, што ніхто з краўцоў ВКЛ не можа атрымліваць званне майстра і карыстацца асноўнымі правамі, пакуль «не быў за містра у цэху віленскім дэклараваны». З-за недахопу дакументальных крыніц цяжка сказаць, наколькі доўга і строга выконвалася гэта пастанова ў дачыненні да нашых краўцоў. Адпаведна са статутам, толькі праваслаўныя і каталікі маглі быць сябрамі цэха. Вышэйшым органам цэхавага самакіравання была сходка — збор усіх братоў. Галоўная з іх — Мікаласоўская (перад Новым годам), на якой абіралі старшых цэхмістраў: аднаго «рускай», другога «польскай» веры. Ад астатніх братоў патрабавалася, каб цэлы год «абраным старшым належнае паслушанства і шанаванне» было. Катэгарычна, пад «віной у чатыры фунты воску», забаранялася рабіць «змовы перад элекцыяй» (выбарамі) супраць мяркуемых кіраўнікоў. Кандыдатуры на галасаванне вылучаліся толькі на агульным сходзе. Менскія краўцы мелі цэхавую харугву, на правым баку якой былі выявы заступнікаў-патронаў цэха — Св. Касьмы і Даміяна, а на левым пад царскім арлом цэхавы сімвал — кравецкія нажніцы. Зразумела, што арол самадзержцаў з'явіўся ў нашай геральдыцы толькі ў канцы 18 ст., калі тэрыторыя Беларусі была ўключана ў склад Расійскай імперыі.

**КУШНЕРСКА-ЧАПНІЦКА-БАЛТУШНІЦКІ ЦЭХ** — у пацвярджальным прывілеі караля Уладзіслава IV, што быў нададзены менскім цэхам «у 1635 годзе сакавіка 14 дня», сярод інш. спецыяльнасцей згадваюцца шапачнікі (czapniki), якіх «да цэху кушняроў і балтушнікаў за прозбою іх (чапнікаў) да вольнасцяў цэхавых далучаюць». Такім чынам, гэту дату можна лічыць умоўным пачаткам названага цэха. Зацвярджэнне цэхавых артыкулаў на пасяджэнні магістрата адбылося 5 верасня 1647 г., а канфірмацыя статута каралём Уладзіс-

лавам IV 19 снежня таго ж года. Ініцыятарамі ўтварэння гэтага брацтва былі восем менчукоў, якіх узначаліў Васіль Лукашэвіч. Яны прасілі караля «...абы ім прыкладам іншых рамеснікаў места Менскага, надаў ім пэўныя артыкулы». Згодна з імі, усе рамеснікі мусілі плаціць «падаткі і складанкі да Ратуша і не заставацца ў розных юрыдыках». Рамеснікам-краўцам не дазвалялася шыць футравыя мужчынскія і жаночыя шапкі, таму што гэта «работа кушнерская і чапніцкая». Брацтву надавалася свая асабістая пячатка. Яно мусіла мець харугву, бубен, рушніцы і г.д. Кароль таксама назначыў месца правядзення агульных для братчыкаў імшаў — алтар у менскім фарным касцёле. А воск, што заставаўся ад сычэння мёду, братчыкі мусілі перадаваць палову ў фарны касцёл, а другую ў Петра-Паўлаўскую царкву. Наступны дакумент, які тычыцца некаторых бакоў жыцця і дзейнасці гэтага цэха, датуецца 1672 г. Цэхмістры-кушняры Іван Кедыш, Пётр Самовіч і мінулагоднія Сымон Івановіч і Іван Есуевіч учынілі пастанову аб тым, што ўсе цэхавыя атрыбуты — скрынка са справамі і скарбам, харугва і (галоўнае!) цэхавая срэбная пячатка з выявамі святых апосталаў Пятра і Паўла, пачынаючы ад 1672 г., будуць пачаргова зберагацца адзін год у ўніяцкага цэхмістра і два гады ў праваслаўнага. Тут жа падкрэслівалася, што як «з давніх часоў было», усе майстры, таварышы, хлопцы, незалежна ад таго праваслаўныя яны ці ўніяты, у святы дзень Радуніцу набажэнства «за ўсе душы памёрлых братоў нашых задушнае служыць маюць». Акрамя таго, у гэты дзень з цэхавай скрыні падавалася па магчымасцях ялмужнае (міластыня) на царкву. А да шпіталя, што існаваў пры царкве, ад кожнага брата належыла даць па палове чвэрці жыта. Калі хто парушаў гэты запіс, мусіў заплаціць велізарную па тых часах суму грошай у 300 злотых, якія размяркоўваліся наступным чынам: 100 — гарадскому войту, 100 — менскаму магістрату і астатнія 100 — у цэхавую скрынку. Таксама падкрэслівалася, што ўсім мяшчанам, акрамя братчыкаў-майстроў, забаранялася шыць «шапкі з сукна масці рознай ці футрай падшываць» і «на рынак або да купцоў насіць», як публічна, так і прыватна «дома каля акна прадаваць». Як і рэзнікам, рамеснікам гэтага цэха забаранялася займацца перакупкай і продажам скур жывёл, акрамя тых, якіх яны забівалі самі. Стаць менскім майстрам і займацца рамяством маглі толькі тыя, «хто в ремесле прыстойна вывучаны мог магеркі рабіць, шапкі мужчынскія, калпакі, місюркі і будзя якім прозвішчам названыя водлуг строю рабіць, футрай уселякай падшываць і паўсюды прадаваць». Каб стаць майстрам, капялюшніку трэба было зрабіць «магерку касматую, капелюш з воўны з адваротамі».

Піваварны. *Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*

**ПІВАВАРНЫ ЦЭХ** — у параўнанні з некаторымі інш., цэх узнік даволі позна. Прывілей на яго стварэнне быў атрыманы менскімі жыхарамі 22 лістапада 1744 г. Ад імя ўсіх рамеснікаў гэтай спецыяльнасці ў Гародні да караля Аўгуста III звярнуліся менскія майстры Андрэй Пятроўскі, Мацэй Скорскі, Геліяш Юркевіч і Ян Баброўнік з прашэннем надаць і зацвердзіць ім цэхавы парадак. Праўда, у звароце прысутнічала фраза аб тым, што яны просяць «нанова пацвердзіць Статут». Магчыма такі цэх ужо існаваў у папярэднія стагоддзі, але дакументальных звестак, якія б пацвярджалі гэта, пакуль не знойдзена. Адпаведна з «нанова» нададзеным статутам, у цэх піваевараў, акрамя іх, уваходзілі рамеснікі «кюншту» саладоўніцкага, мёдасытніцкага, вінніцкага, воскабойнічага, броварскага і вадавознага.

**РЫМАРСКІ ЦЭХ** — статут цэха быў зацверджаны «году 1622 месяца траўня 21 дня» мескім урадам і пацверджаны «ў 1634 годзе чэрвеня 29 дня». Гэта адбылося па ініцыятыве Марка Грынкевіча, Яна Нядзведскага, Фёдара Пракаповіча, Васіля Пашкевіча і Сяргея Лазуковіча, якія самі ад сябе і ад усіх рымараў места Менска прасілі караля Уладзіслава IV, каб ён зацвердзіў для гэтага цэха статут. Адпаведна з ім, «кожны рок на дзень Св. Мікалая» ўсе рамеснікі збіраліся ў цэхавым доме і абіралі сабе чатырох старшых, у функцыі якіх уваходзіла захоўваць цэхавую скрынку са скарбам (агульнымі грашыма), статутам цэха, рэестрамі і інш. дакументамі. Скрынка была акаваная, мела два замкі: адзін унутраны, другі «на прабоі, малявана зялёным з чырвоным, у сярэдзіне шуфляда з паперамі, другая пад сподам з пенёндзамі» (на пачатак 1769 г. у ёй захоўвалася 4 чырвоных злотых). Цэх меў сваю ўласную пячатку (як сведчанне існавання юрыдычнай асобы), сцяг-харугву, бубен, пад гукі якога праходзілі ўрачыстыя працэсіі, узбраенне і ўчастак гарадскога мура, што абаранялі браты-рымары падчас

нападу ворага на Менск. На жаль, сёння застаецца невядомым, які герб упрыгожваў цэхавую пячатку, як выглядала харугва, якія сімвалы былі на ёй. У дакуменце, што быў складзены 22 студзеня 1769 г., сярод інш. рэчаў згадваюцца харугвы: адна старая нябеснага колеру, другая новая — зялёнага. У рымарскі цэх уваходзілі таксама седляры (іх прадукцыяй былі «сёдлы французскія, гусарскія, крытыя нямецкія», кульбакі). Апошнія называліся яшчэ татарскімі або турэцкімі сёдламі. Іх рабілі з букавага дрэва з больш высокай, чым у астатніх відаў пярэдняй часткай.

Паснікі (або пасманнікі) выраблялі паясы, альстэрнікі — скураныя чахлы, кабуры для зброі. З пазнейшых судовых спраў выцякае, што ў падпарадкаванні гэтага цэха былі таксама мяхоўнікі і гафтары (майстры, што займаліся залатым шыццём). Толькі браты названых рамёстваў маглі вольна ажыццяўляць сваю дзейнасць у горадзе. Калі рымарскую, сядлярскую, пасманніцкую справу рабіў рамеснік, які не ўваходзіў у брацтва, або імкнуўся рэалізаваць прадукцыю ў крамах места, такія вырабы падлягалі канфіскацыі на карысць цэха. Той жа лёс чакаў і «левую» прадукцыю, якая невядома як аказвалася ў крамах менскіх купцоў. Акрамя таго, рымарскаму цэху з дазволу войта і ўсёй рады горада давалася магчымасць абраць сабе месца, на якім збудаваць крамы для продажу сваёй работы, а з гэтых крам мець сабе «пажыткі» і гораду плаціць падаткі.

Што тычыцца духоўных трэб, то «містрове таго цеху нямецкага або рускага народу» (пратэстанты ці праваслаўныя) абавязваліся хадзіць у касцёл «яко католікі» на рэлігійныя святы і імшы. Што, безумоўна, было праявай тагачаснага рэлігійнага і ідэалагічнага дыктату. У 1645 г. узнік канфлікт паміж рымарамі і седлярамі Менска з аднаго боку і прадстаўнікамі гэтых жа прафесій места сталічнага Вільні. Віленскія рамеснікі, бачачы ў менскіх калегах небяспечных канкурэнтаў, пачалі забараняць ім вольны гандаль сваёй прадукцыяй. Менчукі ж спасылаліся на каралеўскі дэкрэт 1645 г.: «...абы у прερечоным месте Віленском монополіум не было... каб у віленскіх купцоў і крамараў не толькі ад тутэйшых рамеснікаў тавары былі, але і прыезджаючам рамеснікам рымарам, седлярам, паснікам менскім тавары дазваяецца свабодна прывозіць, толькі гандляваць не у раздроб, а толькі гуртам». Каралеўскі задворны асэсарскі суд насуперак гэтаму дэкрэту прыняў 13 сакавіка 1646 г. дзіўнае рашэнне: «...абы мяшчане менскія жадных тавараў да Вільні прывозіць і гандляваць ані штукамі, ані гуртам не маглі».

У 60-я гг. 17 ст. пачаў высьпяваць канфлікт паміж менскімі купцамі і братамі цэха, якія імкнуліся прысвоіць манапольнае права гандлю сваёй прадукцыяй як у ВКЛ, так і ва



Ятка — крама мясніка. Англійскі медзярыт. 18 ст.

ўсёй Рэчы Паспалітай, хоць адпаведна з прывілеем, яны мелі такое права на безканкурэнтны гандаль у Менску. Гарадскі магістрат вынес «у 1666 годзе месяца студзеня 2 дня» дэкрэт, якім падтрымаў купцоў.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — з прашэннем аб наданні прывілея менскім рэзнікам звярнуліся мяшчане — старшыя рамеснікі Змітар Акуліч, Іван Грыгоравіч Бародка, Раман Аляксяевіч, Сяргей Барысовіч. «У годзе 1636 месяцы ліпені 14 дня» кароль Уладзіслаў IV выдаў прывілей і зацвердзіў статут цэха менскім рэзнікам, дзе падрабязна былі агавораны правы, прывілеі і абавязкі братоў гэтай спецыяльнасці. Месцам задавальнення духоўных трэб для менскіх рэзнікаў былі уніяцкая царква Св. Духа і Фарны касцёл. Менавіта сюды браты аддавалі частку сваіх прыбыткаў «на хвалу Бога». Гандаль мяснымі прадуктамі адбываўся ў строга абмежаваных месцах на ратушнай плошчы, на Высокім рынку (там знаходзіліся «мясныя яткі»). Катэгарычна забаранялася адчыняць яткі ў Вялікі Пост і другія посныя дні. Гандлем займаліся самі рэзнікі, а калі хто іншы прывозіў мяса з навакольных сёлаў, яго тавар не пускалі ў продаж да таго часу, пакуль прывезены прадукт «пільна» не агледзіць і не дазволіць гандляваць ім старшы цэхмістр. На яго ўскладаліся, як бачым, функцыі сучаснага санітарна-эпідэміялагічнага нагляду. Тэрмін рэалізацыі гэтых прадуктаў складаў адзін тыдзень, пасля чаго яны ў абавязковым парадку паступалі ў багадзельню. Закуп быдла на ўбой дазваляўся ад світанка толькі да 10 гадзін раніцы. Гэта рабілася для таго, каб разборка забітай жывёлы праходзіла ў светлы час — і працаваць зручней, і лягчэй выявіць унутраныя хваробы, і, у такім выпадку, прыпыніць доступ мясу на рынак. Адной з крыніц даходаў майстроў быў гандаль скурамі жывёл, але яны не маглі займацца скупкай і перапродажам гэтага тавару як унутры, так і па-за межамі места. Аб'ектам іх фінансавых аперацый былі толькі тыя скуры, што самі з «быд-

ла ў сябе забітага знялі», пры гэтым з места яны не вывозіліся, а падлягалі рэалізацыі менскім купнярам. Такім чынам, дасягаўся баланс інтарэсаў паміж рознымі цэхамі. З другога боку, права гандляваць у месте мясам, салам, саланінай заставалася толькі за братамі цэха або знаходзілася пад іх кантролем. Каралеўская ўлада замацавала гэта палажэнне ў адпаведным (36-м) артыкуле цэхавага статута, дзе было сказана: «...у сувязі з перашкодамі і дарагавізнай быдла, нікому не дазваляецца гандляваць, але толькі рэзнікам». У статуце падкрэслівалася, што ніхто: ні старосты, ні ўрад мескі не могуць дапускаць парушэння артыкулаў. Гэты юрыдычна-прававы пастулат, сфармуляваны ў 1636 г., быў выкарыстаны амаль праз 100 гадоў, калі адбылася чарговая калізія: урад места разам з войтам і старостам графам Ігнацыям Завішам увялі дзеля папаўнення гарадской скарбонкі падатак «ад штукі быдла па злотаму». Гэтыя дзеянні былі апрэчаны цэхмістрамі перад каралём Аўгустам II. Ён выдаў «у 1724 годзе месяца снежня 18 дня» рэскрыпт, якім забараніў магістрату ўводзіць новыя «вымысленыя» падаткі на цэх пад страхам віны ў 1000 чырвоных злотых. Нізавым звяном у цэху былі хлопцы-вучні, якія выкарыстоўваліся ў якасці падсобных работнікаў, адначасова вывучаючы рамяство. Навука працягвалася для «вучня малога і маладога» — 6, «дарослага» — 3 (і не менш!) гады. На наступнай прыступцы знаходзіліся таварышы (байцы), асноўнай функцыяй якіх быў забой быдла і дапамога майстру ў разборцы туш і аглядзе забітых з мэтай выяўлення хворых. Майстры — вышэйшая прыступка, з-пад іх рук выходзіў прадукт, ужо гатовы на продаж. Па некаторых звестках прадстаўнікі апошніх двух катэгорый запрашаліся мескім магістратам у час хваробы ці «адгулаў» гарадскога ката для разавага выканання яго абавязкаў.

**СТАЛЯРСКА-СТЭЛЬМАХОЎСКА-ЦЯСЛЯРСКІ ЦЭХ** — можна меркаваць, ён утварыўся адным з апошніх у месте, але гэта зусім не азначае, што да таго часу ў Менску адсутнічалі спецыялісты названых прафесій. Цесляры раней уваходзілі ў ганчарска-мулярска-цяслярскі цэх, афіцыйнай датай узнікнення якога быў 1636 г. У 50—70-х гг. 17 ст. цесляры вылучыліся з гэтага брацтва. Свед-



Пячатка сталярска-стэльмахоўскага цэха. *1787.*

чаннем іх уліцця ў новую карпарацыйна-вытворчую ўстанову з'яўлясцца пячатка, што была выразана ў 1787 г. У «новы», аб'яднаны цэх уваходзілі, акрамя цесляроў ды стэльмахаў, яшчэ і лажэўшчыкі (або як яны па-іншаму называліся «ложачнікі»). Гэтыя рамеснікі рабілі не лыжкі і не ложкі, а ложы для «гарачай» (агнястрэльнай) зброі. Токары па дрэве, рэзчыкі, шкляры таксама не мелі асобнага цэха і ўваходзілі ў сталярска-стальмахоўска-цяслярскі цэх, маючы як пэўную аўтаномію, так і агульныя абавязкі. Стэльмахі — спецыялісты, што выраблялі колы, а пазней і цэлыя ездавыя экіпажы, відаць, яшчэ ў папярэднія часы вылучыліся з рымарскага цэха (ці, магчыма, ён таксама падзяліўся) і ўвайшлі ў гэты новастворраны. Элітай цэха ў пэўнай ступені былі, безумоўна, сталяры. Гэта тлумачылася як іх колькасным складам, так і асартыментам прадукцыі (сталы і столікі, шафы, скрыні, рамы для вокнаў і карэт, ложкі, крэслы і г.д.). Нават унутры цэха яны пільна сачылі за сваімі калегамі па рамяству. Па дакументах прасочваецца, што са сталярнай работы цесляры маглі рабіць толькі «труны простыя для людзей убогіх», астатняе сталяры адносілі да сваёй кампетэнцыі. Меншую вагу ў цэху займалі стэльмахі, а найменшую (як пра тое сведчыць размяшчэнне на пячатцы назвы спецыяльнасці) — цесляры. Нягледзячы на такое размеркаванне пазіцый, кожны сябар цэха меў як агульныя абавязкі, так і роўныя правы. Братчыкі выступалі агульным фронтам супраць партачоў, якіх чакала выгнанне з горада або, калі яны жадалі і маглі прадставіць дакументы аб сваім вучэнні ў «пачцівых майстраў», і паказаць сваю працу перад братчыкамі — уступ у цэх. Праўда, да канца жыцця (ці да асобай згоды цэхмістраў і ўсяго цэха) далучанаму забаранялася браць вучняў і падмайстраў.

Ткацкі варштат. *Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*



**ТКАЦКІ (ПАЛОТНІЦКІ) ЦЭХ** — заснаваны «прывілеем на брацтва цэху ткацкага» каралём Аўгустам III. Адпаведна са статутам «году 1740 месяца лістапада 12 дня», цэх меў харугву «для аздобы места і на патрэбы

Рэчы Паспалітай», а таксама рыштунак «адпаведна з мажлівасцю», а пад час свята Божага Цела «на загаду з Магістрата» цэхавыя браты асісціравалі ўрачыстай працэсіі. Яны ж паводле свайго жадання мусілі абраць у Менску касцёл, якому падавалі «на хвалу Богу».

**ЦЫРУЛЬНІЦКІ (ЦЫРЫЛІЦКІ альбо ХІРУРГАЎ) ЦЭХ** — гэта ўстанова аховы здароўя. Статут быў прыняты магістратам места «году 1635 месяца лютага 3 дня» і зацверджаны каралём Уладзіславам IV у тым жа месяцы — 27 лютага. Як было сказана ў пачатку дакумента: «сталі перад урадам нашым (майдэборскім — А. Ц.) слаўныя майстры навукі цырульніцкай места Мінскага, добра аселыя: Ян Загер, Каспер Гофман, Войцэх Салатынскі, Ян Алісіевіч з калегамі і прасілі каб ім... для добрага парадку цэхавага...» прывілей (грамату) выдалі. Адпаведна з прывілеем 1635 г. у Менску магло быць толькі восем цэхавых майстроў-цырульнікаў. Забаранялася прымаць у цэх лазебнікаў, жыдоў, арыян і «простага стану» людзей, а таксама «прымаці ў навуку» іх дзяцей. Дамы ўсіх майстроў былі вызвалены ад усялякіх пастояў жаўнераў ці падчас з'ездаў дэпутатаў, суддзяў і г. д. Там праходзіў прыём пацыентаў і, акрамя сям'і, жылі вучні і падмайстры-таварышы. Над уваходам у «цырульнікаву гасподу» вісела ў якасці шыльды мядніца (медны таз — прылада пра-



Хірургічнае лячэнне «заячай губы».

*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

цы). Станаўленне цэха не праходзіла без пэўных цяжкасцяў. Менш, чым праз год пасля надання прывілея, менскі мешчанін Іван Васільевіч Праскурнiч падаў скаргу ў каралеўскі суд на старшых цэха за тое, што яны не прымалі яго ў цэх і па іх загаду яго «цэрыліцкі варштат быў паграблены». Суд, разледзеўшы справу, вынес дэкрэт, адпаведна якому ініцыятары гэтага ўчынку былі абавязаны прыняць Івана Праскурніча ў цэх, вярнуць усе пабраныя з варштату прылады працы і інструменты, а калі яны не знойдуцца, тады вызваліць пацярпелага ад уплаты цэхавых падаткаў на суму, роўную страчанаму. Трэба адзначыць, што далека не ўсе імкнуліся ўліцца ў шэрагі братчыкаў. Менскія мяшчане Іван Васілевіч, Багдан Казловіч, Іван Семеновіч, Ян Мезенцэвіч, Ян Тручынскі і Адам Скоп «упарта не жадалі да парадку цэхавага далучыцца». На іх падалі ў суд старшыя цэха Каспер Гофман і Войцэх Салатынскі. У гэтым выпадку суд падтрымаў іск

Пячатка шавецкага цэха. *1675 г.*



цэхмістраў і абавязаў у 1637 г. вышэйназваных мяшчан выконваць цэхавы статут і плаціць павіннасці на карысць брацтва. Адпаведна з рашэннем, цырылікам быў таксама назначаны менскі фарны касцёл, дзе яны мусілі за свой кошт збудаваць і ўтрымліваць брацкі алтар.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — «у прывілеі году 1609 месяца лютага 20 дня», падпісаным каралём Жыгімонтам III Вазай, гаворылася: «прасілі Нас шаўцы места нашага Менска шаноўныя Андрэй Станіслававіч Кука, Андрэй Рамановіч, Барталамей Мікалаевіч і Багдан Міхаловіч ад імя калегаў сваіх, каб ім дазволілі мець брацтва або цэх рамесла іхняга шавецкага». Разам з дазволам ім быў нададзены і «парадак цэхавы» (статут). У сваіх «паракграфах», пунктах і артыкулах ён быў састаўлены з прывілею віленскіх шаўцоў. Адпаведна з прывілеем, тыя асобы, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй духоўнай, свецкай ці пры шляхецкіх дварах, колькі б іх не было, не мелі права займацца шавецкім рамяством у Менску. За гэтым мусілі сачыць староста, войт і бурмістры. У 1609 г. , калі шавецкі цэх быў дазволены каралеўскім прывілеем, некаторыя спецыялісты лічылі ніжэй сваёй годнасці здаваць іспыты, але хацелі застацца майстрамі. Для іх было прынята кампраміснае рашэнне: яны мусілі даць да скрынкі брацкай «7 коп (1 капа — 60 адзінак) грошай літоўскіх» і добры пачастунак з напоямі «на усіх майстроў цэха зрабіць». Ад гэтай працэдуры (сяброўскай вячэры) былі вызвалены тыя майстры, якія ад даўняга часу займаліся шавецкім рамяством. Наступны дакумент ад 6 ліпеня таго ж году захаваў для нас імёны як першых цэхмістраў, так і «прадсядацеляў» цэха шавецкага — Паўла Стасевіча і Даніэля Хоміча. Вядомы яшчэ адзін дакумент, які датуецца «годам 1624 месяцам ліпенем 29 дня» —канфірмацыйны (пацвярджальны) прывілей, падпісаны Уладзіславам IV. У ім фігуруюць імёны менскіх шаўцоў — Марціна Якубовіча, Стэфана Гарасімовіча, Андрэя Шчасновіча, Міхайлы Арапіновіча, Андрэя Карповіча і сталовага Станіслава Бердзігоўскага. У дадатак да правоў, адзначаных у прывілеі Жыгімонта III Вазы, Уладзіслаў IV дазволіў менскім шаўцам для царкоўных і ўласных патрэб сыціць 12 пудоў мёду.

# МІР

Прывілей на вольнасць места атрымала ад Мікалая Крыштафа Радзівіла «ў годзе 1579 месяцы снежні 27 дня». Ён быў яшчэ раз падцверджаны 12 студзеня 1619 г. Адпаведна з дакументамі мірскія жыхары атрымалі ў «вечнае валоданне» мескія пляцы і ўсе землі, што належалі месту. Па ўскосных звестках, першыя рамесныя аб'яднанні пачалі існаваць у Міры з сярэдзіны 17 ст. Паводле прывілея «году 1695 месяца сакавіка 17 дня» тут было заснавана агульнае «праўленне» цэхамі, што існавалі ў месте.

**КАВАЛЬСКІ ЦЭХ** — прывілей на заснаванне брацтва быў нададзены Каралем Станіславам Радзівілам «у годзе 1695 месяцы сакавіку 17 дня». Акрамя кавалёў сюды ўвайшлі злотнікі, слесары, катляры, шкляры, сталяры і прадстаўнікі шэрагу інш. спецыяльнасцей. Як сказана ў пачатку дакумента, яны прасілі, каб ім «аднастайна, згодна паміж сабой, постановенне (далі—А. Ц.) для памнажэнння хвалы Божай до касцёла і цэркві і для лепшага парадку, абы (ім—А. Ц. ) пункты і артыкулы ад нашых папярэднікаў ўмоцнілі і падцвердзілі».

Тэкст дае падставу меркаваць, што брацтва прадстаўнікоў гэтых спецыяльнасцей існавала і ў папярэднія гады, але дакументы, якія б падцвердзілі гэты факт, яшчэ не знойдзены. Адпаведна з прывілеем, братчыкі мелі свой асобны алтар (Св. Антонія) у мірскім касцёле, якому яны штогадова выстаўлялі чатыры воскавыя свечкі і каля яго служылі тры ўрачыстыя імшы за год — на Св. Антонія, Св. Духа і трэцяя «задушная» аб душах памёрлых братоў на Дзень Усіх Святых. Такія ж «падаткі» памерам у чатыры свечкі і набажэнствы адбываліся ў мірскай царкве: на Пераўтварэнне Божае, на Св. Пятра і «задушнае» — такое ж свята, як і ў касцёле. Згодна з цэхавымі парадкамі, штомесяц адбываліся сходкі, перад пачаткам якіх майстры ўносілі ў цэхавую скрыню па 3 грошы, а таварышы — па 1. Новапрыбылы ў места майстар мусіў унесці ў скрынку 10 коп грошай і «справіць паводле сваёй магчымасці» калярцыю для ўсіх братоў цэха. Гэтым жа прывілеем цэху была нададзена харугва «на вечныя часы».



Кавадла.
*Французскі медзярыт. 18 ст.*

Пячатка касцёла Святога Мікалая ў Міры. *18 ст.*



**КРАВЕЦКА-КУШНЕРСКА-ШАПАШНЫ ЦЭХ** — заснаваны ў адпаведнасці з радзівілаўскім прывілеем «у годзе 1693 месяцы травені 15 дня». Да яго гэтым жа прывілеем былі далучаны пазументшчыкі, гаршэчнікі і «людзі музычнага мастацтва». Дакумент быў зацверджаны Каралем Станіславам Радзівілам «у годзе 1714 месяцы снежні 7 дня». У ім было падкрэслена, што да цэха «далучаны навечна» музыкі, шмукляры-пазументшчыкі і ганчары. Усе братчыкі мелі набажэнства пры мірскім касцёле Св. Мікалая.

**ТКАЦКІ (ПАЛОТНІЦКІ) ЦЭХ** — прывілей на яго заснаванне быў нададзены Станіславам і Катарынай Радзівіл «ў годзе 1656 месяцы студзені 29 дня». Іншыя дакументы сведчаць, што гэта наданне адбылося «ў годзе 1686 месяцы студзені 29 дня». Вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй для братчыкаў быў суд старосты мірскага замку. Брацтва мусіла мець уласную скрынку «для захавання прывілеяў і правоў» з двума ключамі. Адзін з іх захоўваўся ў «паплечніка» (старшага майстра — А.Ц.), а другі — у малодшага брата. Прыход скрынкі складаўся са штомесячных паступленняў, калі перад абавязковай сходкай кожны майстар уносіў у яе 3 грошы, а таварышы па 1. Пры далучэнні да цэха новага майстра, апошні быў абавязаны ўнесці ў цэхавую скрыню 10 коп грошай літоўскіх. Вучань пры паступленні ў вучэнне ўносіў 2 злотых «впіснога», а пасля заканчэння — столькі ж «выпіснога». Пасля ён мусіў адправіцца ў вандроўку, але перад гэтым яму выдавалі «тэстымонію» (дакументы), якія замацоўвала цэхавая пячатка і подпіс старшых майстроў. Калі хлопец па якіх-небудзь прычынах не мог ісці ў вандроўку, тады ён павінен быў працаваць «за поў— таварыша» на працягу году. Усе братчыкі абавязваліся тройчы на год прысутнічаць у мірскім касцёле Св. Мікалая на агульнай імшы — на Св. Казіміра, на Св. Духа і на «дзень Усіх Святых маліцца за душы памёрлых братоў». Цэх меў свой асабісты алтар — Св. Казіміра, аб аздобе якога яны апекваліся і перад якім былі абавязаны выстаўляць дзве васкавыя свечкі.

Такую ж павіннасць рамеснікі неслі і перад мірскай царквой: там яны выстаўлялі дзве лоевыя свечкі і мелі два набажэнствы — «на Св. Мікалая па вясне і... другі раз восенню, паводле Старога каляндару». Прывілей быў канфірмаваны Каралем Станіславам Радзівілам «у годзе 1739 месяцы лютым 23 дня». Ад сябе князь дадаў, што ўсім іншым жыхарам або прыезджым людзям катэгарычна забараняецца гандаль палатном пад страхам віны ў 10 коп грошай літоўскіх.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — пачаў дзейнічаць «ў годзе 1694 месяца ліпеня 8 дня», адпаведна з прывілеем, які быў нададзены Каралем Станіславам Радзівілам. Як сказана ў дакуменце, «в церкві мірской сошедшыся в дзень Св. Троіцы» братчыкі мусяць «двух кадыдатаў (трэба разумець старостаў на цэхавы ўрад — А. Ц.) абіраці аднаго веры рымскай, другога грэчаскай».

Пад старшынствам гэтых абранцаў праходзілі штомесячныя сходкі братоў цэха. Перад іх пачаткам кожны майстар уносіў у брацкую скарбонку па 3 грошы, а таварыш — палову гэтай сумы. Кожны, хто далучаўся да цэха, мусіў абавязкова прынесці прысягу брацтву. Працэс навучання ў цэху працягваўся 5 год. Пры паступленні ў вучэнне хлопец плаціў «упіснае» — 2 злотых, а пасля заканчэння «адукацыйнага» працэсу — «выпіснае» памерам у 3 злотых. Пасля хлопец мусіў адпрацаваць



Шавец за працай.
*Фрагмент медзярыту французскага гравёра Абрахама Боса. 1635 г.*

у майстра «за пол» таварыша, затым паказаць «штукі рамества свайго», унесці «ўкупное да цэху» памерам у 10 коп грошай літоўскіх і справіць на ўсіх каляцыю. Братчыкі служылі па шэсць абавязковых штогадовых імшаў у мірскім касцёле пры алтары Св. Андрэя і столькі ж «служб Божых» у царкве пры алтары Св. Троіцы і «асабліва ў алтары Панны Марыі». Цэх меў сваю ўласную харугву, бубен і стрэльбы.

# МІХАЛОВА

Адпаведна з прывілеем ад 12 студзеня 1767 г., што быў нададзены на заснаванне майдэборыі «Міхалова» ў маёнтку Мосар Полацкага ваяводства Урбану Антонію Грэбніцкаму, кароль дазволіў уладальніку «брацтва або цэхі купецкія устанаўліваць і артыкулы ім надаваць». Але дакументальных падцвярджэнняў аб існаванні тут купецкіх альбо рамесных цэхаў пакуль не знойдзена.

# МСЦІБАЎ

**ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — статут цэху быў нададзены Марыянам Агінскім «у годзе 1668 месяцы траўні 15 дня». Адпаведна з ім, ніхто ў месте не мог займацца рамяством без адпаведнага дазволу цэхавых старшых. Усе «гарбары або перакупы», што гандлявалі скурамі ў месте, мусілі «ад кожнай скуры валовай, яловай, конскай плаціць ў цэхавую скрынку па аднаму грошу, а ад цялячай...або бараньяй па пол гроша». Калі ж гандляр ці перакуп быў немясцовы, тады «пеня» ўзрастала удвая, палова з яе ішла ўжо гаспадарскаму двару. У тым выпадку, калі гандлёвая аперацыя праводзілася патаемна, тады штраф, які ўвесь ішоў на карысць «урада дворнага», быў ужо цэлых 10 коп грошай літоўскіх. Для мясцовых мяшчан, калі яны жадалі далучыцца да прафесіі ў месте, трэба было ўнесці ў цэх 5 злотых, а калі прэтэндэнт быў «з вёскі», тады ён мусіў заплаціць 5 коп грошай. Гэты статут быў падцверджаны харунжым ВКЛ Рыгорам Агінскім «ў годзе 1693 месяцы студзні 5 дня». Праз некалькі тыдняў — 12 сакавіка цэхавы статут быў канфірмаваны каралём Янам III Сабескім.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — цэх заснаваны па прыкладу места Гарадзенскага і па ініцыятыве Яна Вярцінскага і Мікалая Станіслававіча «ў годзе 1638 месяца кастрычніка 26 дня». Канфірмаваны каралём «у годзе 1639 сакавіка 12 дня». Прывілей абумоўліваў праведзенне генеральнай сходкі на «дзень Яна Хрэсціцеля». У гэтым жа дакуменце было падкрэслена, што цэху дазваляецца «цэхавая пячатка, харугва, бубен і ўселякая армата патрэбная для абароны і аздобы тутэйшага мястэчка. «Пад шавецкую цэхавую харугву, «калі будзе такая патрэба павінны былі ставаць усе, як Духоўныя так і Шляхта».



# НАВАГРУДАК (НОВАГАРОДАК)

**ЗЛОТНІЦКІ ЦЭХ** — у дакументах першай паловы 16 ст. ў месце згадваецца адзін злотнік, а праз стагоддзе (пад час стварэння злотніцкага цэха) — тры. Статут злотніцкага цэха быў прыняты мескімі ўладамі «ў годзе 1636 траўня 10 дня», а 9 чэрвеня 1636 г. зацверджаны каралём. Адметным фактам нам здаецца тое, што ў цэхавым статуце, які быў зацверджаны каралём Уладзіславам IV, падкрэслівалася «для помнажэння таго цэху вольна ім (новагародскім злотнікам — А. Ц.) з іншых местаў і мястэчкаў людзей пачцівых, добра умеючых рамество... да свайго цэху прынімаці і ў ім заховываці...». У канцы прывілея ўсім злотнікам прадпісвалася знаходзіцца пад мескай юрысдыкцыяй, іншым жа злотнікам забаранялася працаваць або рэалізоўваць у месце сваю прадукцыю. Сярод цэхавых атрыбутаў



Вырабы злотнікаў.
*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

Сярэбраны келіх.
*Выраб навагрудскіх злотнікаў.*



злотніцкі цэх мусіў па прыкладдзе сталічнага места Вільні «меці ўласную пячатку з гербам пэўным, да іх цэху належачым» і харугву, пад якую акрамя іх саміх мусілі станавіцца і новагародскія цырульнікі.

**МУЛЯРСКА-ЦЯСЛЯРСКІ ЦЭХ** — дакументы аб заснаванні цэха не знойдзены, але ў 1798 г. два новагародскіх мешчаніна, майстры гэтага цэха, Стэфан Асіповіч і Якуб Макаровіч звярнуліся са скаргай на мясцовага лаўніка Анастасія Траянскага, які займаў на працягу апошніх 15 год пасаду цэхмістра. Падчас яго старшынства ён «харугву цэхавую спраўленую агульным коштам» недзе страціў і, увогуле, нанёс шкоды брацкай скрынцы на 500 злотых. Такім чынам, можна смела сцвярджаць, што ў 80-я гг. 18 ст. цэх ўжо стала існаваў.

**ЦЫРУЛЬНІЦКІ ЦЭХ** — цэх быў створаны пасля актыкацыі «у годзе 1636 месяцы чэрвені 7 дня» ў кнігах «права майдэборскага» яго статута, прадстаўленага старшымі містрамі «цырыліцкага рамества» — Міхалам Эрнестам, Пятром Мікуліцкім, Юр'ям Болтам і Ярашам Максунскім перад мескімі ўладамі. Праз 11 дзён, 18 чэрвеня быў канфірмаваны каралём, перад якім «всталі очевісте» П. Мікуліцкі і Я. Максунскі. Цырылікам дазвалялася «мець свой дом цэхавы», у якім мусіла захоўвацца цэхавая скрынка з прывілеямі, праводзіліся сходкі. Дом вызваляўся ад усялякіх падаткаў і пастояў, цэх мог мець, як і хірургі «места сталічнага Віленскага», сваю



Прылады працы раменікаў муляраска-цяслярскага цэха.



Хірургічны бандаж.
*Паводле французскага медзярыту. 18 ст.*



Герб шавецкага цэха.
*18 ст. Рэканструкцыя.*

ўласную пячатку. Усім астатнім забаранялася рабіць цырульніцкае рамяство і «медніцы вывешываць».

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — цэх быў заснаваны адпаведна з ініцыятывай пяцідзесяці шасці навагародскіх мяшчан, якія «сами од себе и дома позосталых», заактыкавалі ў мескім магістраце пастанову ад 8 верасня 1607 г. аб стварэнні шавецкага брацтва і адначасова цэхавы статут.

Апошні прадугледжваў, што рамеснікі будуць мець брацкі дом, права сычэння мёду «с которого воск не в грошн оборочать», але «до церкви соборное Новгородьское» на 2 свечкі (вялікія — А. Ц. ) і «по два двадцать до лихтара (царкоўнага—А. Ц. ) завеситого...». Гэта пастанова была зацверджана каралём «у годзе 1609 месяца лютага 28 дня». Не засталіся ў баку ад стварэння цэха і царкоўныя ўлады: у навагародскі магістрат паступіў ліст-дэкрэт ад мітрапаліта кіеўскага і ўсея Русі і віленскага біскупа Яўстафія Валовіча, у якім падкрэслівалася, што ўсе павіннасці братчыкі мусяць выконваць ў царкве рускай, якая знаходзіцца ва уніі з Рымскім касцёлам. Апошняя канфірмацыя была зроблена «ў годзе 1634 месяцы ліпені 26 дня» каралём Уладзіславам IV. У ёй былі падцверджаны ўсе папярэднія прывілеі і ад сябе кароль дадаў, што ўсім купцам «народу хрысціянскага і жыдам» (акрамя братчыкаў) забараняецца прывозіць і гандляваць абуткам у месце.



# НЯСВІЖ

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — статут быў зацверджаны на пасяджэнні нясвіжскага магістрату «ў годзе 1606 месяца лютага 26 дня». Паўнавартаснае зацвярджэнне дзейнасці гэтага рамеснага аб'яднання адбылося «ў годзе 1666 жніўня 7 дня», калі кн. Міхаіл Казімір Радзівіл надаў «на цэх кравецкі» прывілей. На жаль, аб яго змесце не прадстаўляецца магчымым меркаваць, бо акрамя назвы дакумента пакуль нічога не знойдзена. Больш познія дадзеныя сведчаць, што ў 1712 г. цэх налічваў сем майстроў.

**КУПЕЦКІ ЦЭХ** — прывілей, а хутчэй «артыкулы цэхавыя», на цэх быў атрыманы ад нясвіжскага магістрату 14 красавіка 1627 г. Як сведчаць нешматлікія дакументы, прывілей караля Яна Сабескага на купецкі цэх быў нададзены «ў годзе 1681 месяца красавіка 2 дня». У 1712 г. ў ім налічвалася сем паўнавартасных сяброў, якіх узначальваў тагачасны цэхмістр—Ваврынец Кохан.

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — статут цэха кушняроў быў зацверджаны на пасяджэнні нясвіжскага магістрату і быў атрыманы рамеснікамі 8 сакавіка 1611 г. Толькі 20 мая 1641 г. прадстаўнікі гэтай спецыяльнасці атрымалі прывілей на свой цэх ад кн. Аляксандра Людавіка Радзівіла. Новы цэхавы статут, які грунтаваўся, галоўным чынам, на апошнім прывілеі, быў унесены ў актавыя кнігі і зацверджаны на пасяджэнні магістрату места 29 лістапада 1641 г. Трэба адзначыць, што гэтыя рамеснікі не былі абдзелены ўвагай і наступных нясвіжскіх уладальнікаў. Апошні з вядомых падцвярджальных прывілеяў, быў нададзены цэху кн. Каралем Станіславам Радзівілам «у годзе 1699 месяцы (на



Прылады
працы кушняроў.

жаль немагчыма ўдакладніць па тых матэрыялах, што ёсць у наяўнасці) 20 дня». Цэх працягваў існаваць і ў наступныя дзесяцігоддзі. Так, па стане на 1712 г. у гэтым рамесным брацтве налічвалася шэсць майстроў, якіх узначальваў цэхмістр Давыд Бурко.

**МУЛЯРСКА-ГАНЧАРСКІ ЦЭХ** — да ўзнікнення гэтага рамеснага аб'яднання мелі непасрэднае дачынне рамеснікі аналагічных спецыяльнасцей са старажытнага Менска. Літаральна праз некалькі месяцаў пасля ўтварэння там адпаведнага цэха, копія цэхавага статута ад 23 жніўня 1636 г. трапіла ў Нясвіж і была ўзорам падчас заснавання мясцовага муларска-ганчарскага аб'яднання. Афіцыйнай датай узнікнення цэха можна лічыць 1645 г., калі быў нададзены прывілей на ўтварэнне цэха князем Радзівілам. На жаль, як пазначана ў рэестры дакументаў: «год надання у тым прывілеі паказаны, а дні паказаны і ў гэтым рэестры не дакладныя». Ня гледзячы на складаныя гісторыка-палітычныя падзеі, што разгортываліся ў месте і яго ваколіцах на пачатку 18 ст., у 1712 г. у цэху налічвалася звыш адзінаццаці майстроў, якіх узначальваў тады цэхмістр Ян Клішэвіч. На той час сюды ўваходзілі сталяры, цесляры і шкляры.

**СЛЯСАРСКА-КАВАЛЬСКА-КАТЛЯРСКІ ЦЭХ** — раннія звесткі аб гэтым аб'яднанні рамеснікаў пакуль не знойдзены. Вядома, што ў 1712 г. у ім аб'ядноўвалася пад кіраўніцтвам цэхмістра Тэадора Аляксандара сямнаццаць майстроў, амаль у кожнага з іх працавалі таварышы і, можна меркаваць, вучні.



Кафля.
Выраб нясвіжскіх
ганчароў.
*17 ст.*

Кросны.
*19 ст.*



**ТКАЦКІ ЦЭХ** — першыя звесткі аб дзейнасці рамеснікаў-ткачоў даволі познія. У 1706 г. ткач — «магістр абрусовы» (майстар, які рабіў абрусы) атрымаў «за навуку хлопца» 12 злотых ад адміністрацыі нясвіжскай ардынацыі. У 1712 г. ў цэху налічвалася па няпэўных дадзеных больш за чатыры майстры, якіх узначальваў цэхмістр Язэф Гірло.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — прывілей на ўтварэнне цэха быў нададзены 4 сакавіка 1617 г. кн. Янам Юрыям Радзівілам. Рамеснікі займалі даволі значную нішу ў тагачаснай структуры мясцовай вытворчасці.

Так, у 1712 г. у Нясвіжы налічвалася чатырнаццаць паўнавартасных майстроў, якіх узначальваў цэхмістр Ян Духновіч.



# ОРША

**КРАВЕЦКА-ПАСТРЫГАЦКА-КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — прывілей на цэх быў нададзены каралём Жыгімонтам III Вазай «у годзе 1612 месяцы кастрычніку 12 дня». Гэты дакумент быў канфірмаваны «ў годзе 1622 месяцы кастрычніку 13 дня». Адпаведна з цэхавым статутам, галоўная сходка адбывалася на «Святога Мікалая па новаму каляндару». На ёй абіралі двух старшых: аднаго «рымскай», а другога «грэчаскай» веры. Па такому ж прынцыпу абіраліся і шафары, якія захоўвалі ў сябе ключы ад цэхавай скрынкі. Бягучыя справы абмяркоўваліся на сходках, якія адбываліся раз у 2 тыдні. Браты, прыходзячы на яе, мусілі кожны раз унесці ў агульную скарбонку па 1 грошу літоўскаму. Калі хто-небудзь з братоў жадаў падняцца на вышэйшую прыступку цэхавай іерархіі, то пасля заявы аб гэтым, ён мусіў адпрацаваць у мясцовага майстра год і 6 тыдняў, а потым зрабіць «штукі». Статут прадугледжваў і той варыянт, калі нехта «пасароміцца» рабіць штукі: у такім выпадку прэтэндэнт уносіў у агульную скарбонку 6 коп грошай літоўскіх. Цікавай з'яўляецца заўвага аб тым, што акрамя харугвы і вайсковага рыштунку надаюцца «гербы таму цэхаві», прычым прадстаўнікам кожнай прафесіі паасобку (гэта было замацавана яшчэ прывілеем 1622 г., дзе падкрэслівалася, што краўцы атрымліваюць за герб кравецкія нажніцы, пастрыгачы — пастрыгацкія, а кушняры — выяву «распятай рысі»). Апошняя канфірмацыя была зроблена сынам Жыгімонта — Уладзіславам IV крыху больш чым праз 10 гадоў — «у годзе 1633 месяцы жніўні 23 дня». Сваім прывілеем ён падцвердзіў братчыкам іх правы на шпіталь пры царкве Святой Прачыстай (Маці Божай — А. Ц.)

у Оршы. У гэтым шпіталі за кошт усяго цэха ўтрымліваліся састарэлыя і занямоглыя братчыкі, аб якіх не было каму клапаціцца.

**ЧАПНІЦКІ ЦЭХ** — утвораны адпаведна з прывілеем караля Уладзіслава IV «году 1641 месяца лютага 7 дня», па прашэнню цэхмістраў рамяства чапніцкага Васіля Цімахвеявіча Часнейшага, Самсона Грышкавіча Максаковіча і інш. У статуце цэха было падкрэслена, што старшыя цэхмістры мусілі мець «знак асаблівы», пры дапамозе якога яны аб'яўлялі сходку. Спецыяльны ганец па іх загадзе абходзіў усіх майстроў і таварышаў і пасля прад'яўлення знака рамеснікі павінны былі з'явіцца на сходку. Хто ігнараваў гэта запрашэнне, плаціў штрафу фунт воску: палову на касцёл і другую на Брацкую царкву. Каб быць дапушчаным да іспытаў, прэтэндэнт мусіў заплаціць да скрыні 12 грошай, пасля гэтага ў прысутнасці майстроў яму трэба было зрабіць шапкі трох «мадэляў» — пулканч (pułkancze), валоскую і гусарскую.



Шавец.
*Малюнак 1799 г.*

**ШАВЕЦКА-ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — быў утвораны паводле канфірмацыйнага прывілея Уладзіслава IV ад «году 1633 месяца жніўня 19 дня». У адпаведнасці з дакументам сюды ўвайшлі шаўцы і гарбары. Яны мусілі праводзіць сваю галоўную, штогадовую (генеральную) сходку ў строга вызначаны дзень — 11 студзеня. На ёй усе браты абіралі чатырох старшых — двух рымскай веры і двух «рэлігіі рускай». Потым на ўрадзе мескім з чатырох кандыдатаў назначалі двух старшых — абавязкова каталіка і праваслаўнага. Паколькі цэх утвараўся не на пустым месцы, у другім артыкуле статута падкрэслівалася, што майстры, якія даўно займаюцца сваім рамяством, вызваляюцца ад «рабенія штукі» і прад'яўлення «лістоў свайго вучэння». Месцамі задавальнення духоўных трэб рамеснікаў былі вызначаны Фарны касцёл і Брацкая Уваскрэсенская царква ў «месте Аршанскім», за неяўку куды ў час агульнага набажэнства на першы раз парушальніка чакаў штраф памерам у 1, за другі — 3 грошы, а за трэці — віна ўзрастала да поўкамeня воску. «Як шаўцы, так і гарбары мусілі мець (уласныя — А. Ц.) харугву», вайсковы рыштунак і стрэльбы.



# ПІНСК

Звесткі аб рамесных установах гэтага места даволі абмежаваныя. Сутыкненні на глебе рэлігійных і сацыяльных супярэчнасцей часта пацвярджаюць факты існавання таго ці іншага цэха. Так, адзіным шэрагам супраць маршалка і войта пінскага Лукаша Ельскага, што парушаў «правы і прывілеі» пінчукоў, выступілі тутэйшы магістрат разам з пінскімі цэхмістрамі — прадстаўнікамі мясцовых купцоў, рэзнікаў, злотнікаў, кавалёў, краўцоў, кушняроў, шаўцоў і інш., якія звярнуліся ў 1648 г. ў каралеўскі суд.

**АБ'ЯДНАНЫ ЗЛОТНІЦКА-КАВАЛЬСКА-КАТЛЯРСКА-МЕЧНІЦКІ ЦЭХ** — гэта суполка рамеснікаў-металаапрацоўшчыкаў была створана па прадстаўленню рамеснікаў на ратуш Пінскі свайго прашэння аб утварэнні іх аб'яднання. Пасля атрымання адпаведных дакументаў

Збройніцкі варштат.
*Фрагмент французскага медзярыту. 17 ст.*





Балтушнікі за працай.
*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

27 кастрычніка 1639 г. выпіс з майдэборскіх кніг быў прадстаўлены каралю, які 12 лістапада таго ж году зацвердзіў статут «ва ўсіх кандыцыях і артыкулах». Падчас актыкацыі «ў годзе 1640 месяцы сакавіку 20 дня» каралеўскага прывілея ў мясцовай ратушы сваё жаданне далучыцца да цэха выказалі і майстры-слесары.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — паводле нешматлікіх дакументальных звестак, прывілей на заснаванне гэтага цэха быў нададзены мяшчанам у 1619 г.

**КУШНЕРСКА—БАЛТУШНІЦКІ ЦЭХ** — статут кушнерскага і балтушніцкага цэха быў зацверджаны на ратушы Пінскім «у годзе 1639 месяца кастрычніка 22 дня», а меней чым праз месяц — 16 лістапада кароль Уладзіслаў IV канфірмаваў прывілей раменнікам гэтых спецыяльнасцей.

**РЫБАЦКІ ЦЭХ** — быў створаны па прашэнню пінскіх мяшчан — «усіх рыбакоў замкавых, мескіх ў месте і каля яго жывучых», якія прасілі кракаўскага кашталяна, пінскага старосту Юрыя Збаражскага, каб ён зацвердзіў іх ліст «для добрага парадку» паміж імі і ў «ловены рыб» на рэках Струмені «ад Нобельскага озера аж да Добрынскага рову ў рацэ Ясельда по мост Ясельдскі а ў рацы Піна», адпаведна з прывілеямі, што былі нададзены каралём месту Пінскаму. Згодна з прынятым статутам, кожны, хто займаўся рыбалоўствам, мусіў быць запісаны ў рыбацкі цэх і «паслушанства (яму — А. Ц. ) цэху чыніў». Што тычыцца мескага ўраду, то ён абавязваўся бараніць братчыкаў ад розных канкурэнтаў, якія па-за цэхам лавілі ці шынкавалі рыбай. Гэты дакумент быў падпісаны Ю. Збаражскім «у годзе 1619 месяцы сакавіку 16 дня», а канфірмаваны каралём Жыгімонтам

Вазаї «у годзе 1627 месяцы снежні 22 дня». Цэх развіваўся даволі паволна: у 1628 г. у ім налічвалася толькі пяць братоў.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — прывілей быў нададзены каралём Уладзіславам IV «у годзе 1634 месяцы чэрвені 30 дня». Адпаведна з дакументам, братчыкі абіралі двух кандыдатаў на пасаду цэхмістра і прадстаўлялі іх на «ўрад мескі», які аднаго з іх прыводзіў да прысягі. Галоўны алтар для пінскіх рамеснікаў-рэзнікаў знаходзіўся ў царкве Св. Варвары, куды яны таксама аддавалі воск «на свечы», што заставаўся пасля брацкага галоўнага свята, якое адзначалася на «Пакравы свята рускага».

**ШАВЕЦКА-ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — статут цэха быў зацверджаны на Пінскім ратушы 20 кастрычніка 1639 г. і канфірмаваны каралём 16 лістапада з пацвярджэннем усіх «кандыцыяў і артыкулаў».



Рыбак.

*Дрэварыт Ёста Амана. 16 ст.*





Абутак старажытных беларусаў.

*Рэканструкцыя паводле матэрыялаў археалагічных раскопак.*




# ПОЛАЦК

Існаванне развітай рамеснай вытворчасці ў гэтым месце дакументальна фіксуецца з часоў глыбой старажытнасці. У выраку вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра «году 1502 месяца снежня 30 дня» па скарзе полацкіх мяшчан на «пана полацкага» Станіслава Глябовіча, які ўціскаў майдэборскія вольнасці і правы мяшчан, згадваюцца прадстаўнікі розных рамесных прафесій. Факт наяўнасці разгалінаванай рамеснай вытворчасці ў Полацку фіксуецца і ў наступных канфірмацыйных прывілеях на майдэборскія правы месту і інш. дакументальных крыніцах. Палачане атрымалі прывілей на «Порадок цеховый ремесніком...» 28 снежня 1605 г. У ім было падкрэслена «...абы месте своёмъ способни быти могли». У прывілеі згадваюцца кавалі, катляры, слесары, мечнікі, краўцы, кушняры, шапнікі, чабатары, гарбары, шаўцы і «золатары». Бурная гісторыя места не спрыяла добрай захаванасці дакументальнай спадчыны ўвогуле і цэхавых статутаў і прывілеяў у прыватнасці. Асабліва моцна пацярпелі полацкія архівы у 17 ст. Як сведчыць Летапіс Панцырнага і Аверкі : «...в лето 1633 Москва напала на Полацк і спаліла яго агнём 9 ліпеня». Магчыма, гэтым і тлумачыцца той факт, што ў такім старажытным месце сведчанні існавання цэхавых структур фіксуюцца толькі з 16 ст.

**АБ'ЯДНАНЫ ГАНЧАРСКА-ПЕЧНІКОЎСКА-МУЛЯРСКА-СТРЫХАРСКІ (ЦАГЕЛЬНЫ) ЦЭХ** — заснаваны прывілеем караля Уладзіслава IV 16 лютага 1641 г. Прыкладам статута для полацкіх майстроў былі цэхавыя артыкулы, якія атрымалі Віленскія муляры ў 1633 г. і ганчары ў 1634 г. Адпаведна са статутам, цэх узначальвалі чатыры старшых цэхмістра, якія абіраліся

штогадова ў дзень свята Божага Цела. Агульныя сходкі праводзіліся не радзей, чым раз у 3 месяцы. На іх зачытваліся цэхавыя прывілеі і статут з мэтай больш падрабязнага і поўнага азнаямлення як старшых, так і малодшых братчыкаў з правіламі, па якіх дзейнічала брацтва. Калі старшы брат ігнараваў сходку, ён мусіў заплаціць штраф у 2 грошы, а малодшага брата за такі ж учынак чакала пакаранне ў 1 грош. Акрамя таго для братчыкаў-майстроў праводзілася асобная сходка кожныя два тыдні. На ёй вырашаліся пытанні ўнутрыцэхавага жыцця. Як правіла, падобнае сабранне адбывалася на даму ў майстра, у якога захоўвалася цэхавая скрынка. Цэх па прыкладзе Віленскіх ганчароў меў сваю пячатку, харугву, пад якой рамеснікі выступалі пад час працэсій. Штогадова цэхавыя браты ў дзень Нараджэння Хрыстова ахвяравалі па адной свечцы ў полацкі касцёл і уніяцкую Раждзественскую царкву. Кожнаму майстру дазвалялася мець «двух-трох памочнікаў, не болей». Прымацца ў вучэнне маглі хлопцы з 6 да 10 гадоў. Курс адукацыі працягваўся 6 гадоў, а калі «младзнец дарослы і дасціпны» — 4. Пасля сканчэння гэтага адукацыйнага этапу хлопец мусіў адпрацаваць у свайго настаўніка-майстра ў якасці «пахолка» яшчэ год. У тым выпадку, калі хлопец не жадаў гэтага, ён мусіў ісці «вадраваць» у іншае места. Акрамя нядзелі браты гэтага цэха мелі яшчэ адзін дадатковы дзень паняздзелак. Аднаведна са статутам, у гэты дзень майстрам дазвалялася са сваімі таварышамі нарыхтоўваць «толькі гліну», пасля чаго ўсе яны мусілі адпачываць. Братчыкам дазвалялася збудаваць свой асабісты алтар у якой-небудзь уніяцкай царкве ці ў касцёле. Акрамя таго, іх дом, дзе захоўваліся цэхавыя рэгаліі — скрыня з прывілеямі, харугва і інш., вызваляўся ад пастояў, падаткаў і ўсялякіх павіннасцяў на карысць як места, так і дзяржавы. Праз 2 гады пасля атрымання каралеўскага прывілея (6 лютага 1643 г.) дакумент быў заактыкаваны ў кнігах полацкага магістрата па прашэнню ганчарскіх цэхмістраў Лаўрына Бялкоўскага і Пётры Ігнатовіча. Ганчарскія цэхмістры фігуруць у дакументальных крыніцах у 1741 г., што можа сведчыць аб паспяховым самастойным існаванні і дзейнасці рамеснікаў гэтай спецыяльнасці ў Полацку.



Кафля з выявай ганчара за працай.
*17 ст.*

Герб гарбарскага цэха. *17 ст. Рэканструкцыя.*



Гарбарскі варштат. *Медзярыт Яна Лейкена. 18 ст.*



**ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — па прашэнню майстроў статут цэха заактыкаваны ў полацкім магістраце «ў годзе 1683 месяцы лютым 26 дня». Праз месяц ён быў канфірмаваны каралём Янам III Сабескім. Відаць, што гэта была не першая канфірмацыя брацтва рамеснікаў гэтай прафесіі. Адпаведна са статутам, кіраўніцтва цэха складалася з 2 старшых — цэхмістраў, двух шафароў (ключнікаў) і двух асоб, у абавязкі якіх уваходзіла сачыць за купцамі ці не прывозяць яны тавар, што робіцца ў цэху, і як яны ім гандлююць. Акрамя таго, у дапамогу цэхавай «адміністрацыі» абіраліся два малодшых майстры для выканання бягучых даручэнняў. Усё члены цэхавага праўлення прадстаўлялі «рымскую і грэчаскую веры» пароўну. Статутам дазвалялася займацца гарбарскім рамяством толькі братчыкам цэха. У дакуменце прапісана норма аб тым, што ўсе няцэхавыя рамеснікі ў радыюсе 3 міль вакол места падлягаюць арышту і сядзенню ў мескай турме «стольні, колькі яму вырышыць цэх», а ўсе тавары такога «прадпрыймальніка» падлягалі канфіскацыі. Гарбарам-рамеснікам належыла на свята Цела Господняга, па прыкладзе места сталічнага Вільні, удзельнічаць ў працэсіі па старых цэхавых звычаях з бубнам, лепшай зброяй і пад сваёй харугвай, на якой змяшчалася выява Св. Апостала Паўла — заступніка гарбарскага рамяства. Цэх паспяхова існаваў і ў наступным стагоддзі, аб чым сведчыць згадка 1741 г.

**КАВАЛЬСКІ ЦЭХ** — пісьмовыя дакументальныя крыніцы 1741 г. сведчаць, што гэтае рамеснае брацтва паспяхова існавала ў 18 ст.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — час узнікнення гэтага брацтва губляецца ў сівой старажытнасці. Больш дакладныя звесткі адносяцца да 18 ст. У 1726 г. адбылася «сепарацыя», калі з агульнага кушнерскага цэха вылучыліся краўцы. Пасля падзелу адразу ўзнікла судовая спрэчка паміж краўцамі і былымі паплечнікамі, якія выставілі краўцам рахунак за тое, што на агульную цэхавую харугву з «кітайкі» было патрачана 50 злотых, а яна засталася ў краўцоў. Дэкрэт полацкага магістрату пастанавіў, што паколькі харугва застаецца ў краўцоў, то ім трэба выплаціць былым калегам 6 злотых. Адначасова дэкрэт падкрэсліў, што краўцам забараняецца рабіць работу кушнерскую і чапечніцкую, і наадварот. Як сведчаць больш познія дакументальныя крыніцы, рамеснае брацтва паспяхова функцыянавала ў 18 ст.

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** — цэх утвораны адпаведна з прывілеем караля Жыгімонта III Вазы «году 1619 месяца красавіка 4 дня», які быў канфірмаваны яго сынам — каралём Уладзіславам IV 22 верасня 1641 г. Статут надаваўся полацкім гарбарам па прыкладу места Віленскага «ва усіх пунктах і артыкулах». Штогадова браты-рамеснікі абавязваліся «на хвалу Божую» пастаўляць па дзве свечкі «з бязмена воску» да касцёла



Полацкі сабор Св. Сафіі.
*З малюнка 1579 г.*

і царквы Св. Сафіі. Для аздобы цэха і места Полацкага рамеснікам дазвалялася мець харугву кармазінавага колеру (цёмна малінавага — А. Ц.), бубен і «ўселякую армату на дваццаць чатыры чалавекі браціі сваей». У адпаведнасці са статутам, майстроўская ўдава мела права займайцца рамяством памерлага мужа, а калі жанчына паўторна выходзіла замуж «унутры цэха» і жадала працягваць займацца рамяством, то яна мусіла папрасіць на гэта дазвол у цэхавых братчыкаў. Калі згоду давала палова братоў, прэтэндэнтка павінна

была зрабіць «каляцыю» урачыстую вячэру на ўсіх братоў. Толькі пасля гэтай працэдуры яна магла на роўных правах разам са сваім новым мужам далей трымаць рамяство. Згодна са статутам, калі прышлы падмайстар жадаў распачаць сваю дзейнасць у месте, яму дазвалялася пэўны час працаваць безперашкодна, але потым ён мусіў зрабіць «штуку» (здаць іспыты па спецыяльнасці, каб паказаць сваё майстэрства). У тым выпадку, калі падмайстар не жадаў па якіх-небудзь прычынах трымаць дадатковыя экзамены, у яго быў адзіны шлях — унесці ў цэхавую скрыню 30 злотых і «зрабіць каляцыю» (пачастунак—А.Ц.) на ўсіх братоў цэха. Малады падмайстар мог вырашыць праблему свайго паступлення ў брацтва, ажаніўшыся з містроўскай дачкой альбо ўдавой. Але для заключэння шлюбнага союза патрабавалася згода не толькі нявесты, але яшчэ і паловы цэхавых братоў. Калі патэнцыяльны жаніх вырашаў гэту праблему, ён спраўляў «каляцыю» на ўсё брацтва, а ўжо потым ішоў афармляць адносіны з маладой. Прывілей для актыкавання быў прадстаўлены полацкім кушняром Іванам Алексіевічам «у годзе 1652 месяцы літападзе 27 дня». Было дазволена «кушнерам и чапнікам меці кармазінавую харугву». У 1726 г. адбылася «сепарацыя», калі з цэха вылучыліся краўцы. Рамеснае брацтва паспяхова існавала ў 18 ст.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — дзейнічаў у 18 ст.

**ТКАЦКІ ЦЭХ** — цэх працягваў паспяховае існаванне ў 18 ст.

**ЦЫРУЛЬНІЦКІ ЦЭХ** — заснаваны па ініцыятыве мясцовых мяшчан, якія звярнуліся «ў годзе 1642 месяцы траўні 2 дня» ў полацкі магістрат за дазволам хадатайнічаць перад каралеўскай уладай аб «атрыманні прывілея на цэх, прыкладам места сталічнага Вільня». Ад свайго імя і ўсіх полацкіх «цэрылікаў» хадайнічалі Ян Дамашэўскі і Лорэнс Гурскі. Кароль Уладзіслаў IV падпісаў прывілей «у годзе 1642 месяцы жніўні 14 дня». У ім было сказана: «Мы зычачы абы тое места наша Полацкае, пад час мінулай экспедыцыі Маскоўскай, прынесшай незгоды і непарадкі, ад нашага непрыяцеля спусташонае, ізноў ўсталёвалася, надаем прывілей і статут». Трэба адзначыць, што гэты дакумент даволі кароткі. У ім падкрэслівалася, што цырульнікі могуць выдаваць лісты «пад пячаткай свайго цэху», і увогуле, ім даюцца «артыкулы такіе ж, як ў цэху цэрыліцкім Віленскім». Прывілей быў унесены ў актавыя кніга магістрата 30 студзеня 1642 г. У 1672 г. цэхавыя старшыні падалі ў мескі магістрат скаргу на нейкага Міхася Бешпрема (?) за тое, што ён прыехаў у Полацк і пачаў «рамяство міма цэху рабіць».

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — цэх быў створаны паводле прывілея караля



Цырульніцкія прылады.
*Паводле французскага медзярыту 18 ст.*

Жыгімонта III Вазы, які падпісаў дакумент «у годзе 1619 месяцы лютым 10 дня». Прыкладам для полацкіх шаўцоў быў статут віленскага шавецкага брацтва. Акрамя артыкулаў, якія рэгламентавалі жыццё полацкіх братчыкаў, кароль дазволіў ім для аздобы цэха і ўсяго места «мецъ зброі (панцыры і інш. рыштунак), шышакі (прылбіцы) — дваццаць чатыры камплекты, столькі ж мушкетаў, шабляў» і для ўрачыстых працэсій цэх мусіў таксама набыць дваццаць чатыры жупаны з белага сукна грубага гатунку, якое называлася «караза» і столькі ж магерак вішнёвага колеру. Гэты прывілей быў канфірмаваны Уладзіславам IV «у годзе 1635 месяцы сакавіку 27 дня». «У годзе 1640 месяца сакавіка 21 дня» шаўцы пераканалі магістрат прыняць пастанову аб правілах гандлю і аб тым, што на шкоду ім адбываецца парушэнне каралеўскага прывілея. Згодна са скаргай мясцовых братчыкаў, «крамники и мещане полоцкіе великую перешкоду чынять и пожытокъ имъ власне належачый одыймують, съ тыхъ меръ ижъ обуй вшелякій в крамахъ при иншыхъ товарахъ своихъ мають и оного подробно и гуртомъ и яко похотя собе продають, а имъ шевцомъ в крамахъ ихъ, где они обуй свой продають, найлепшого товару красного и найподлейшого продавати не позволяють». Адпаведна з пастановай магістрата ўсе крамнікі, што «...на спроданья обуя который на сей час крамники мають терминъ узначыли есмо имъ до Радуницы Руское...», пасля якога ўвесь нерэалізаваны абутак ішоў на карысць шпіталя для ўбогіх. Уласна цэхавым шаўцам тым жа судовым рашэннем мескі ўрад забараняў «...обуй без подковокъ продавати...» пад страхам страты прадукцыі і зняволення працягласцю ў тры дні. Тая ж урадавая пастанова падкрэслівала, што братчыкі-шаўцы да свята Божага Цела «обецали се такъ хоругвь новую справити» і набыць для цэха дваццаць чатыры мушкеты. Цэх працягваў паспяховае існаванне ў 18 ст.



# СЛОНІМ



Кравецкія нажніцы.
*18 ст.*

**КУШНЕРСКА-КРАВЕЦКА-ПАСТРЫГАЦКА-СЯДЛЯРСКІ ЦЭХ** — створаны адпаведна з прывілеем, які надаў слонімскім рамеснікам канцлер Леў Сапега, зацвердзіўшы статут. Гэтая падзея адбылася «ў годзе 1605 месяцы ліпені 10 дня». Адпаведна са статутам кожны, хто жадаў стаць у Слоніме майстрам названага цэха, мусіў спачатку з'явіцца «перад замкавым урадам», потым пагутарыць з кожным майстрам цэха і ўнесці ў брацкую скрыню 16 грошай за падачу такога прашэння. Пасля гэтага прэтэндэнт плаціў у тую ж скрынку 5 злотых і ўчыняў «паводле сваіх мажлівасцей, з учцівасццю» каляцыю на ўсіх майстроў. Згодна з прывілеем братчыкі маглі тройчы на год сыціць безпадаткова мёд, а воск, што заставаўся пры гэтым, дзялілі пароўну паміж касцёлам

і царквой. Прывілей Л. Сапегі быў канфірмаваны «ў годзе 1669 месяцы кастрычніку 15 дня».

**ШАВЕЦКА-ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — першапачатковы статут зацверджаны Казімірам Лявонам Сапегай «у годзе 1644 месяцы студзені 13 дня» па прашэнню мясцовых майстроў. Як сказана ў дакуменце: цэх утвараюць «шаўцы а пры іх гарбары». Адпаведна са статутам, рамеснікам дазвалялася «наняць альбо купіць уласны дом брацкі», які вызваляўся ад усялякіх падаткаў. Прыйшлы майстар не мог займацца самастойна гэтымі прафесіямі, але «толькі за чэлядніка» мусіў працаваць.

Штогадавая сходка рамеснікаў праводзілася «ў дзень Трох Каралёў грэчаскага свята». На ёй абіралі двух старостаў — «аднаго да скрынкі брацкай, другога да цэхавай». Сітуацыю з двума скрынкамі можна растлумачыць тым, што гарбары і шаўцы хоць і аб'ядноўваліся пад адным «дахам», але лічылі неабходным грошы трымаць паасобку. Кароль Ян Казімір канфірмаваў статут 10 ліпеня 1644 г. і ад сябе дапоўніў яго наступнымі палажэннямі: вышэйшай інстанцыяй для ўсіх рамеснікаў «татараў і хрэсціянаў» былі касцёл і царква. Пад юрысдыкцыю цэха падпадалі ўсе рамеснікі гэтых спецыяльнасцей, якія жылі не толькі ў месце, але і тыя, што пражывалі на адлегласці да 3 міль вакол яго.



Шавецкі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*




# СЛУЦК (СЛУЦАК)

**ГАНЧАРСКА-МУЛЯРСКІ ЦЭХ** — ня гледзячы на тое, што цэх згадваецца ў дакументальных крыніцах ужо ў пачатку 18 ст., «парадак брацтва» быў зацверджаны кн. Геранімам Фларыянам Радзівілам «у годзе 1733 месяцы сакавіку 18 дня». Хутчэй за ўсё, гэта была толькі канфірмацыя «статута», атрыманага яшчэ ад кн. Багуслава Радзівіла, калі не раней. Дакумент 1733 г. налічваў 27 артыкулаў.



Прадукцыя слуцкіх ганчароў.

Адпаведна з «парадкам цэхавым» паводле старадаўняга звычаю ганчары неслі павіннасць на карысць мясцовага замку: штогадова аддавалі туды капу паліваных гаршкоў — трыццаць на свята Божага нараджэння і трыццаць на Вялікдзень. Брацкая сходка мусіла праводзіцца «ў даму прыстойным а не шынкоўным». Калі хто на сходцы парушаў заведзены парадак, парушальнік павінен быў заплаціць віны 2 фунты воску і 2 дні адседзіць у «мескім вязенні». Няцэхавыя рамеснікі-ганчары з княства Слуцкага маглі «вольна», раз на тыдзень па панядзелках прыязджаць на таргі са сваей прадукцыяй і гандляваць ёю ў розніцу. За гэта яны плацілі ў цэхавую скрынку па 6 літоўскіх грошай ад кожнага прададзенага возу сваёй прадукцыі і мусілі даць «на замак» пяць гаршкоў. У тым выпадку, калі прысяжны прадаваў воз гуртам,

тады ён разлічваўся толькі пяццю гаршкамі з замкавым урадам, а купец, што набыў воз гаршкоў, плаціў цэху належныя 6 грошай. У канцы 17 ст. братчыкі для правядзення афіцыйных мерапрыемстваў карысталіся «домам мескім». Разам з імі там праводзілі свае сходкі сталяры, цесляры, бондары, токары, коладзеі і іншыя прадстаўнікі роднасных прафесій. Брацтва згадваецца як дзеючае ў 1715 г. Магчыма, паміж цэхавымі братамі адбылася спрэчка і цэх скараціўся да вельмі невялікіх памераў: у 1777 г. рамеснікі гэтага цэха валодалі ў месте 6 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў памеры 25 злотых, а таксама апекваліся над трыма удоўімі дамамі. Праўда, па інш. звестках, у 1777 г. братчыкі заплацілі падатак у памеры 150 злотых.

**ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — першы прывілей быў нададзены кн. Янушам Радзівілам «у годзе 1619 месяцы студзені 14 дня». Адпаведна з ім рамеснікі мусілі штогадова плаціць на замак 50 коп грошай (125 злотых). Князь дазволіў братчыкам кожны год сыціць на сваю карысць 30 вёдраў мёду: 15 на Вялікдзень і 15 на свята Кузьмы і Дзям'яна. Воск, што заставаўся ад сычэння мёду, дзялілі пароўну паміж царквой Кузьмы і Дзям'яна і касцёлам, які знаходзіўся ў Новым месте. У інвентары «местаў Слуцкіх», які быў складзены ў 1647 г., цэх згадваецца як існуючы. Наступны прывілей быў нададзены кн. Багуславам Радзівілам «у годзе 1649 месяцы чэрвені 23 дня». Гэтым дакументам рамеснікам дазвалялася пабудаваць уласны дам на пляцы, які ім пакажа князь і які «на вечныя часы» вызваляецца ад плачэння падаткаў. Цэх плаціў зменшаную ў параўнанні з папярэднім прывілеем штогадовую плату ў 35 коп грошай (87 злотых і 15 грошай). Той жа князь надаў тутэйшым гарбарам прывілей яшчэ і «ў годзе 1662 месяцы студзені 1 дня». Гэтым дакументам былі падкрэслены асноўныя правы і вольнасці братам цэха. У прыватнасці, прывілей быў нададзены «ўсім памянёным рамеснікам-гарбарам у цэлым месте Слуцкім, зараз абведзеным валамі...». У інвентары 1683 г. места Слуцкага згадваюцца гарбары, якія плацілі ў скарб на дзень Св. Міхаіла,



Паліваная кафля
з выявай герба Слуцка.
*17 ст.*
*Слуцкі краязнаўчы музей.*

насупераК двум апошнім прывілеям, 125 злотых. У чарговы раз статут цэха быў зацверджаны 13 мая 1685 г. Такая ж сума падатку (у 125 злотых) была заплочана і ў 1699 г. У інвентары гэтага ж году згадваецца «крама гарбарскага цэху у завулку каля Ільінскай вуліцы». Рамеснае аб'яднанне згадваецца як дзеючае ў 1715 г. і ў 1777 г. Рамеснікі цэха валодалі ў месце 27 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 250 злотых. Паводле дакументальных дадзеных за 1786—1796 гг. за братчыкамі значыўся «дом брацтва кажамяцкага (гарбарскага) і сафьянаўскага тылам р. Случы (знаходзіцца — А.Ц.) на правым баку вул. Усцінаўскай». Разам з гарбарамі домам для правядзення сваіх сходак і інш. «мерапремстваў» карысталіся саф'янікі, рымары і кушняры. Пляц, на якім знаходзіўся будынак, межаваў з пляцам слуцкіх бернардзінцаў і быў падараваны рамеснікам віленскім каштэлянам кн. Мацеем Радзівілам.


Вытворчы працэс гарбара.
*Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*

**КАВАЛЬСКА-НАЖЭЎНІЦКІ ЦЭХ** — узнік пасля падзелу СЛЯСАРСКА-КАВАЛЬСКАГА ЦЭХА. Але ёсць звесткі, што цэх існаваў ужо ў 1647 г., адпаведна са складзеным тады інвентаром, плаціў падатак у 8 коп грошай літоўскіх. Для таго, каб пазбегнуць магчымых нязгод і пярэчанняў паміж рамеснікамі кн. Багуслаў Радзівіл надаў ім прывілей «у годзе 1662 месяцы студзені 1 дня». Ён налічваў 31 артыкул. У статуце пакрэслівалася: «каб небыло спрэчак паміж кавалямі і слесарамі назначаем ім розныя цэхі». У кіраўніцтва брацтва адпаведна са статутам абіраліся два старшых — адзін ад кавалёў, другі ад нажэўнікаў. Рамеснікі плацілі на карысць замку штогадовы падатак у памеры 8 коп грошай літоўскіх; у інвентары места Слуцкага, які быў складзены ў 1683 г., згадваюцца кавалі і кладзечнікі (апошнія, мусіць, далучыліся да гэтага цэха пазней, бо адпаведна з першапачатковым статутам яны ўваходзілі ў слясарскі цэх). Цэхавыя рамеснікі плацілі ў скарб на дзень Св. Міхала тую ж суму ў 8 коп грошай літоўскіх або 20 злотых.

Сходкі братоў цэха адбываліся не радзей аднаго разу ў 4 тыдні. Як правіла, яны праходзілі «на прадмесці ў даму Лейтманта». У 1777 г. цэхавыя майстры заплацілі 150 злотых ў якасці падатку і валодалі ў месте 21 домам.

**КРАВЕЦКІ ЦЭХ** — артыкулы цэху былі пажалаваны кн. Багуславам Радзівілам «у годзе 1641 месяцы сакавіку 10 дня», але не выключаецца і тое, што пэўныя правілы-«паракрафы» цэхавага парадку для краўцоў былі сфармуляваны значна раней — у пачатку 17 ст., калі не ў 16 ст. Усяго братчыкам было нададзена 28 артыкулаў, якія рэгламентавалі як унутранае, так і знешняе жыццё брацтва. Пад дзеянне статута падпадалі «... краўцы места Траецкага людзе рамества кравецкага маюць быць пад уладай цэхавай... разам з іншымі — Старага, Новага і Остраўскага местаў, краўцамі...». Там жа было падкрэслена: «А калі работа на князёў ці патрэбы замкавыя «пры замкавых свячах» — кожны мусіць адрацаваці і заплату (за тую працу — А. Ц.) не браці». Адпаведна са статутам, калі кравец сапсаваў заказ, то ён мусіў заплаціць штрафу 4 фунты воску, а работу паправіць. Самай галоўнай павіннасцю мясцовых майстраў «кравецкага цюнсту», паводле гэтых «артыкулаў», быў абавязак штогадова шыць адзенне (уніформу) на сто пехацінцаў слуцкага войска. На «зялёныя святкі» і на дзень Св. Міхаіла Архангела братчыкі



Дротавы варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана. Другая палова 16 ст.*

мелі дазвол сыціць па 4 вядра мёду. Багуслаў Радзівіл праз некалькі месяцаў — 18 ліпеня 1641 г. выдаў дакумент, дзе было падкрэслена «абы ў цэху іх аніякага свавольства небыло». Цэх паспяхова працягваў сваё існаванне і ў 18 ст. Як адзначаюць тагачасныя дакументальныя крыніцы, дом брацтва кравецкага цэха тады знаходзіўся «ідучы ад шпіхлераў па правай старане да брамы Новамескай вул. Новамескай». Адпаведна з пастановай камісараў Слуцкага княства, што была нададзена 13 мая 1685 г., ніводны кравец-пакутнік не мог займацца рамяством без прыналежнасці да цэха. Увогуле, у пастанове падкрэслівалася, што парушальнікаў «цэхавых артыкулаў» чакае суро-



Крашаніннікі за працай.
*Фрагмент французскага медзярыту. 18 ст.*

вае пакаранне. Сярод слуцкіх цэхаў кравецкі цэх у 70-я гг. 18 ст. займаў даволі значнае становішча: на той час рамеснікі цэха валодалі ў месте 9 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 200 злотых, а таксама апекваліся над чатырма удоўімі дамамі.

**КРАШАНІННІЦКІ ЦЭХ** — у інвентары места Слуцкага, які быў складзены ў 1683 г., згадваюцца крашаніннікі, што плацілі ў скарб на дзень Св. Міхаіла 125 злотых.

**КУПЕЦКІ ЦЭХ** — хоць прамых сведчанняў існавання такога брацтва пакуль не знойдзена, тым не менш падобная група слуцкіх мяшчан, аб'яднаных агульнымі гандлёвымі інтарэсамі, усё ж такі існавала ў месте. Ва ўсялякім выпадку, у пачатку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. (дакладна 7 мая 1654 г.) гетман Багдан Хмяльніцкі ў выніку дамоўленасці з кн. Багуславам Радзівілам абнародаваў універсал, дзе было сказана, каб «...мещане слуцкие вшелякие гандли, беспечны проезд в Украину маючы, усюды по местех и местечках отправляли... и беспечне торговали». Цяжка сказаць, якую юрыдычную моц меў гэты дакумент, але крыху пазней у магістрат места паступіла скарга ад пяці слуцкіх купцоў на гетмана Войска Запарожскага. У ёй было сказана: «мы убогія подданыя і купцы слуцкія» пацярпелі ад гетманскага загаду. Згодна з купцамі ў Корсуні (Украіна) у іх забралі тавары на суму звыш 5 тысяч злотых. Магчыма, на гэта паўплывала «няздольнасць слуцакоў да кампрамісу». Як вядома, пад час вайны 1654—1667 гг. армія і казакі пад камандай рускага ваяводы Аляксея Трубяцкога (звыш 20 тыс. чалавек) 2 верасня 1655 г. падступілі да Слуцка і аблажылі яго. Спробы штурму былі няўдалымі, таму што места было добра ўмацавана па ініцыятыве кн. Багуслава Радзівіла. Пасля амаль месячных спроб просьбамі, пагрозамі і атакамі авалодаць местам альбо перакانаць мяшчан капітуліраваць і перайсці на царскі бок, ворагі знялі аблогу і рушылі на Стары Быхаў. На жаль, захаваліся толькі фрагментарныя дакументы, што тычацца справы слуцкіх купцоў, таму цяжка меркаваць аб тым, чым яна скончылася.

**КУШНЕРСКІ ЦЭХ** першым вядомым на сёння прывілеем можна лічыць дакумент ад 14 студзеня 1619 г. Але гэта не цэхавы статут, а дакумент, згодна з якім аб'ядноўваліся ў адзіную ўстанову ўсе рамеснікі-кушняры, што жылі ў розных раёнах «места слуцкага»: Старым і Новым месте, Востраве і Трайчанах. Праўда, з тэксту немагчыма зразумець, ці ідзе размова аб рамесніках-саматужніках, ці яны былі аб'яднаны да 1619 г. у нейкія вытворчыя суполкі. Магчымасць існавання раменага аб'яднання не выключана ў сувязі як са старажытнасцю места, так і самой спецыяльнасці. Цэх фігуруе ў дакументальных крыніцах 1647 г., калі жыхары прасілі князя аб аднаўленні «парадку кушняроўскага». Прывілей на цэх быў паўторна нададзены кн. Багуславам Радзівілам «у годзе 1662 месяцы студзені 1 дня», аб чым красамоўна сведчыць пачатак гэтага дакумента, дзе падкрэслівалася, што мясцовыя жыхары прасілі князя аб аднаўленні «парадку кушняроўскага», атрыманага ад яго папярэднікаў. Трэба адзначыць, што ён быў вельмі падрабязны і ў тэксце назіралася спроба рэгламентаваць усе бакі ўнутрыцэхавага жыцця. Дакумент без змен быў канфірмаваны 19 студзеня 1685 г. князёўнай Людавікай Каралінай Радзівіл. Адпаведна з 5-м артыкулам статута рамеснікам дазвалялася пабудаваць «дом для цэхавых сходак» на ўласным пляцы на Новым месте на вул. Доўгай. Братчыкам дазвалялася безмытна «розсыціць» трыццаць вёдраў мёду: пятнаццаць на «свята рускае» Кузьмы і Дзям'яна і пятнаццаць на Вялікдзень. Шынкаваць гэтым мёдам братчыкам не дазвалялася, яны былі абавязаны ўжыць увесь на працягу 4 дзён. Затое цэхавым братам дазвалялася шынкаванне мёдам і гарэлкай на свае патрэбы, але не ўласнага вырабу, набытымі «у кагале ці княжацкім скарбе». Падчас гандлю старшыя мусілі сачыць, каб «у тым даму не было аніякіх сварак, нязгодаў, якія ад п'янства нараджаюцца, як гэта часта бывае ў іншых дамах». Мяркуючы па штогадоваму



Кушнерныя нажніцы.
*18 ст.*

падатку ў 50 коп грошай (раўнялася 125 злотым), даволі значная колькасць рамеснікаў гэтага брацтва магла паспяхова справіцца з гэтай задачай, тым больш, што ў цэху поўнапраўнымі братамі былі і рамеснікі-чапнікі. Адпаведна з камісарскай пастановай ад 13 мая 1685 г. братчыкам дазвалялася мець у рынку дзесяць гандлёвых крам. Такую ж суму падатку братчыкі заплацілі ў мескую скарбонку і ў 1699 г. Дакументы 1715 г. сведчаць аб тым, што брацтва існавала і ў больш познія часы. У 1777 г. рамеснікі гэтага цэха валодалі ў месте 47 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 250 злотых. Столькі ж плацілі яшчэ гарбары і шаўцы «чорнай работы».

Магерніцкі варштат.
*Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*



**МАГЕРНІЦКІ ЦЭХ** — у пачатку 60-х гг. 17 ст. спецыялісты, што рабілі магеркі і панчохі, суіснавалі ў адным цэху. Але іх інтарэсы разышліся і магернікі былі вылучаны «з права панчошнікаў». Ім былі выдадзены «паракграфы парадку цэхавага», які братчыкі атрымалі ад войта места слуцкага Крыштафа Вінклера 5 лютага 1664 г. Акрамя магернікаў да гэтага ж брацтва былі далучаны пазументшчыкі (burkarze), капялюшнікі і рамеснікі, што выраблялі войлак і прадукцыю з яго. Асобным параграфам забаранялась саф'янікам, гарбарам, краўцам і інш. рамеснікам, што не належаць да цэха, выраблядь на продаж іх прадукцыю «пад вінай» на замак у памеры 2 коп грошай альбо 1 капы да цэхавай скрыні магернікаў. Брацтва мела свой дом, дзе праводзіліся сходкі, праўда, дзе ён знаходзіўся, пакуль дакладна невядома. У 1777 г. майстры заплацілі падаткаў на скарб 75 злотых.

**МУЗЫКАНЦКІ ЦЭХ** — першапачатковы дакумент, які дазваляў утварэнне цэха, быў атрыманы 12 лютага 1668 г. і называўся «Парадак музыкам места Слуцкага арганістам, цымбалістам, скрыпнікам». На час атрымання статута цэхмістрамі (або старшымі) былі Максім Косцель і Сафрон Карба. У абавязкі старшых уваходзіла сачыць, каб «захожыя музыкі і партачы» на вяселлях і банкетах на корчмах ды дамах не ігралі.

Калі такіх парушальнікаў ударалася знайсці, то іх «аддаваць грабіць слугам мескім і да ураду мескага на пакаранне (аддаваць — А. Ц. )». Адначасова, акрамя парушальнікаў, «вяселле, што іх наняла не падлягаля абароне». Гэта азначала, што і наймальнікі мусілі сачыць за тым, каб работу атрымлівалі толькі братчыкі. Увогуле, нават парушэнне правіл канкурэнцыі паміж братамі цэха цягнула за сабой даволі значнае па тых часах матэрыяльнае пакаранне ў 1 капу грошай. Цэхавы статут за абразу брата братам падвяргаў апошняга такому ж штрафу і трохдзённаму сядзенню ў зняволенні. Гэты прывілей быў пацверджаны кн. Геранімам Фларыянам Радзівілам «у годе 1738 месяца лютага 28 дня». Цікава, што дакумент нададзены ад імя князя, а падпісаны і завераны пячаткай яго жонкі Ганны. Падцвярджальны прывілей быў накіраваны супраць «захожых музыкаў... — арганістаў, цымбалістаў, скрыпачоў, якія (часта—А. Ц. ) ігралі у Слуцку на розных месцах неналежных і у неслушны час». У цэху аб'ядноўваліся як музыкі хрысціянскага, так і іудзейскага вызнання. Адпаведна са статутам штогадова абіралася два старшых цэха — абавязкова хрысціян. Агульныя сходкі праводзіліся кожны тыдзень.

**ПАНЧОШНІЦКІ ЦЭХ** — у пачатку 60-х гг. 17 ст. былі афармлены цэхавыя правілы, паводле якіх існаваў агульны панчошна-магерніцкі цэх. Канчатковы статут панчошнікам быў нададзены кн. Багуславам Радзівілам «у годзе 1664 месяцы лістападзе 7 дня». Гэта адзін з найбольш аб'ёмных статутаў, які налічваў 41 артыкул. Увогуле, стваральнікі дакумента імкнуліся прадбачыць усе магчымыя акалічнасці дзейнасці цэха (быў агаворана нават час правядзення агульнацэхавых сходак: «адзін раз у два тыдні а першай гадзіне па палудні»). Сходкі праходзілі ў «даму Касмавенскага (?)», разам з імі гэтым будынкам карысталіся краўцы, гафтары і інш. Адпаведна са статутам цэх узначальваў адзін цэхмістр з гадавым тэрмінам паўнамоцтваў.



Лютнік, арфіст і трубач.
*Дрэварыт Ёста Амана. Канец 16 ст.*

У прыватнасці, у статуце гаварылася, што «калі на шкоду слуцкім панчошнікам прывязуць іхні тавар — панчохі і рукавіцы з Магілёва, тады прывезеным таварам гандляваць па вуліцах і на рынку забараняецца, прыезжыя купцы мусяць прадаць яго гуртам тутэйшым купцам або мяшчанам-крамарам гуртам а толькі ім вольна гандляваць у раздроб-парамі без перашкоды ад тутэйшых панчошнікаў». Асобна артыкул забараняў прадстаўнікам іншых прафесій — краўцам, кушнярам ці магернікам вырабляць на продаж панчохі, рукавіцы і інш. прадукцыю цэха. Але гэта мера не прынесла пажаданага плёну, цэх не вызначаўся вялікай эканамічнай паспяховасцю: у пачатку 18 ст. штогадовы «правент» (падатак) на карысць тутэйшага замкавага ўраду складаў усяго 6 злотых. Сярод слуцкіх цэхаў у 70-я гг. 18 ст. ён быў найменш эканамічна сталым, а ў 1777 г. цэх заплаціў падаткаў усяго 25 злотых.



Варштат рамеснікаў-панчошнікаў. *Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*

**ПЕКАРСКІ ЦЭХ** — нешматлікія дакументальныя згадкі сведчаць аб тым, што ў 70-я гг. 18 ст. цэх займаў даволі паспяховае становішча ў параўнанні з некаторымі іншымі групамі рамеснікаў места. Так, у 1777 г. майстры заплацілі падаткаў на скарб 100 злотых.



Прылады працы слуцкіх пекараў.

**ПІВАВАРСКІ ЦЭХ** — утварэнне гэтага брацтва не выклікала вялікага энтузіязму ў жыхароў места. Наадварот, гэтыя дзеянні ўлады былі

ўспрыняты як уціск правоў вольных мяшчан у варэнні піва і несправядлівае абкладанне іх падаткімі. Мяшчане абвінавачвалі ў гэтым кн. Міхаіла Казіміра Радзівіла (1635—1680), які «адабраў у іх гэтую незабароненую вольніцу».

Паводле пастановы ад 12 кастрычніка 1655 г. на сесіі магістрату было прынята рашэнне аб неабходнасці зменшыць і абмежаваць колькасць мяшчан, якім дазвалялася варыць напой. Акрамя таго было вырашана разабрацца з тымі, хто надта дорага яго прадаваў. Мясцовым майстрам было прадпісана варыць піва двух гатункаў — «падлейшае і лепшае». Першае яны мусілі прадаваць па 3 грошы і 1 шэляг за гарнец[25], а другое па 4 грошы. З гарнца добрага піва браўся «акцыз» памерам у 1 шэляг і з кожнага 10-га гарнца «падлейшага» таксама шэляг. Адзначым, што амаль праз 100 гадоў — у 1752 г. гарнец піва каштаваў у Слуцку 6 грошай.[26]

Прыкладна тады ж была прынята пастанова аб тым, што з бочкі соладу можа выходзіць толькі 600 гарнцаў «добрага» піва. Нагадаем, што адпаведна «Статуту места Слуцкага» ад 1662 г. бочка мусіла ўтрымліваць 60 гарнцаў піва або мёду, а таго, хто парушаў гэты статут і карыстаўся меншай мерай, чакаў штраф у 40 грошай і страта тавару.

Акрамя півавараў у цэх уваходзілі саладоўнікі, фурманы і вадавозы. Цэх згадваецца як дзеючы ў 1715 г. і ў 1777 г. Рамеснікі гэтага цэха валодалі ў месце 4 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 150 злотых.



Піваварны варштат — бровар.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

[25] Шэляг — манета вартасцю ў 1/3 гроша; гарнец — тагачасная мера вадкасці – каля 4 літраў (3,77 л).

[26] Паводле Статута ВКЛ 1588 г. (артыкул 7) певень каштаваў 2 грошы, у Слуцку сярэдзіны 17 ст. выраб прывесістага замка абыходзіўся заказчыку ў 1 таляр, а конт «былой ва ужытку» шаблі ў· пачатку 18 ст. складаў 6 злотых. У канцы 17 ст. ў Магілёве певень каштаваў 5 «осьмакоў» або грошаў (1 талер у канцы 17 ст — 180 медным грошам, а 1 злоты — 30 грошам)

**РЫБНІЦКІ і ПРАСОЛЬСКІ ЦЭХ** — прывілей быў нададзены «у годзе 1662 месяцы лютым 28 дня». Пункты дакумента былі складзены войтам места Слуцкага Крыштам Вінклерам. Падставай для іх зацвярджэння сталі скаргі мясцовых жыхароў на «дарагавізну» рыбы, «якую чыняць перакупы — прасольчыкі і інныя рамеснікі, што бавятся закупованнем рыбы». У інвентары места Слуцкага, які быў складзены ў 1683 г., згадваюцца рыбакі, што плацілі ў скарб на дзень Св. Міхаіла 33 злотых 25 грошай. Дакумент слуцкім рыбнікам і прасолам быў зацверджаны Людавікай Каралінай Радзівіл «у годзе 1686 месяцы верасні 18 дня». Паўторна прывілей, дзе былі сфармуляваны цэхавыя артыкулы, быў зацверджаны «у годзе 1687 месяцы ліпені 1 дня». Гэта адзін з найменш шматслоўных статутаў — у ім было ўсяго 8 артыкулаў. Дакумент быў накіраваны не столькі на асоб, якія займаюцца рыбацкім промыслам, колькі на тых, хто займаўся рыбным гандлем. Найбольш цікавым артыкулам з'яўляецца 4-ы. У ім былі агаворaны падаткі з гандляроў. Так, за воз свежай рыбы на продаж брат цэха мусіў заплаціць падатак у памеры 15 грошай, за палову возу — 8. За бочку вялікіх асятроў — 15 грошай, дробных — 8 грошай. Ад галавы венжанай рыбы — 6 грошай, ад вязанкі пескароў — 2 грошы, ад вязанкі рыбных абрэзкаў — столькі ж, з драбнейшых гатункаў —1 грош. За вялікую бочку салёнай рыбы — 10 грошай, за малую — 5. Такая ж падатковая такса распаўсюджвалася і на бочкі з галандскім селядцом. За кожнага венджанага асятра гандляр плаціў падатак у 5 грошай. «Марскія рыбы» абкладаліся падаткам па дабраахвотнай згодзе бакоў. Адпаведна з княжацкай ласкай, братчыкам дазвалялася безмытна сыціць на Вялікдзень чатыры вядры мёду і піць той мёд тры дні, а воск, што заставаўся пасля сычэння, трэба было аддаць на свечкі ў Брацкую царкву. Цэхмістрамі ў 1687 г. былі Кіпрыян Чобаток і Філіп Апанасовіч. На той час разам з імі ў цэху было чатырнаццаць чалавек. У чэрвені 1689 г. адбылося новае пацвярджэнне, якое паўтарыла асноўныя артыкулы папарэдніх з адным адрозненнем: удакладнены і зменшаны плацяжы братоў на карысць цэхавай скрынкі. У 1777 г. братчыкі заплацілі падаткаў на слуцкі скарб 75 злотых.


Гандляры рыбай.
*Чэшскі малюнак. 1619 г.*

**РЫМАРСКА СЯДЛЯРСКІ ЦЭХ** — статут з артыкуламі цэха вага парадку быў нададзены мяшчанам слуцкім губернатарам Крыштафам Вінклерам «у годзе 1671 месяцы чэрвені 28 дня». Як было падкрэслена ў дакуменце, «артыкулы дадзены па прыкладу шаўцоў чорнага рамества». Акрамя прадстаўнікоў названых спецыяльнасцей сюды ўваходзілі рамеснікі, што рабілі клей, ярмольнікі («тыя што робяць жыдоўскія ярмолкі»), гафтары. Наступны раз статут быў пацверджаны «у годзе 1686 месяцы студзені 16 дня». У 70-я гг. 18 ст. цэх меў сталае, хоць і даволі сціплае становішча. Так, у 1777 г. майстры заплацілі падаткаў на скарб 75 злотых. Гэта сума ўтрая перавышала мінімальны падатак, што быў заплочаны ў той год у Слуцку.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — першы з вядомых дакументаў, што тычыцца прадстаўнікоў гэтай прафесіі, быў выдадзены кн. Янам Сімяёнам Алелькавічам «у годзе 1590 месяцы красавіку 5 дня». Паводле княжацкага арданансу «мяшчанам (не пра-фесійным рэзнікам — А. Ц.) нашым местаў Слуцкіх» дазвалялася гандляваць толькі тушамі ці бочкамі. У розніцу асобам, якія не былі братамі цэха, дазвалялася гандляваць толькі падчас двухтыднёвага слуцкага кірмашу і па панядзелках. Парушальніка чакала даволі суровае пакаранне: вінаваты страчваў усё мяса і плаціў «да княжацкага скарбу дзесяць коп грошай літоўскіх». Наступнай спробай упарадкавання дзейнасці рэзнікаў у месце з'яўляўся консэнс «году 1629 месяца красавіка 13 дня», што быў выдадзены гетманам ВКЛ кн. Крыштафам Радзівілам. У дакуменце гаварылася: «пасля пагарэння места, дазваляецца пабудаваць у месте на гробле семнадцаць яткаў (для гандлю мясам у розніцу — А. Ц.) кожная па 2 сажні. Гэтыя яткі ўладальнік мог трымаць сам, ягоная жонка ці дзеці, або прадаць каму пажадае. Але толькі тутэйшаму абывацелю, а не абы каму». Адпаведна з пастановай кн. Багуслава Радзівіла з 13 пунктаў, якая была выдадзена [1 верасня 1660 г.], у складзе цэха дазвалялася быць дванаццаці шэраговым сябрамі-іудзеям, колькасць братоў хрысціян мусіла быць у 2 разы большай. Той жа пастановай прадпісвалася, каб забой быдла праводзіўся не па мяшчанскіх хатах, а ў асобным месцы недалёка ад вады і зімой абавязкова ў цёплым памяшканні. Адпаведна з дакументам, старшым хрысціянскай часткі цэха быў назначаны Лявон Адамовіч, якому ў дапамогу для аглядання быдла перад забоям, «каб здаровае было», князь назначыў «пана Бараноўскага». Акрамя таго, было падкрэслена, каб убой праводзіўся толькі ў светлы час.



Рымарскія шчамлёткі.
*Французскі медзярыт. 18 ст.*

Рэзнікі за працай. Свежаванне. *Медзярыт Аляксандра Тарасевіча. 1672 г.*




Адпаведна з «Парадкам...» усім слуцкім мяшчанам і прыезжым (акрамя братоў цэха) забараняўся гандаль мясам у розніцу альбо бочкамі, але для немясцовых было зроблена выключэнне — ім дазваляўся гандаль раз на тыдзень па панядзелках. Вельмі важны для рэзнікаў дакумент — «Эканамічная устава для слуцкіх рэзнікаў», якая быў падпісана слуцкімі камісарамі Казімірам Клакоцкім і Уладзіславам Гурыным, братчыкі атрымалі «ў годзе 1685 месяцы верасні 18 дня». Адзін «паракграф» тычыўся нагляду за дзейнасцю рэзніцкага цэха: «пакольк і рэзнікі капляюць мяса танна, а прадаюць задорага, слуцкі войт мусіць сачыць, каб небыло у месте дарагвізны». Крыху пазней гэты дакумент быў зацверджаны Людавікай Каралінай Радзівіл. Шэраговым мяшчанам для гандлю мясам была назначана субота замест ранейшага панядзелка. Мясцовым рэзнікам-хрысціянам прадпісвалася гандляваць, як гэта было ва ўсе часы, на Казіміры (район Слуцка —А. Ц. ), а іудзеям — «ідучы до старага замку па левым баку каля Крывога маста». Мясныя лаўкі мусілі стаяць «ад млына, ідучы на Зарэчча». Хрысціянскія па правай руцэ, а іудзейскія — насупраць. Уладальнікі лавак іудзеі плацілі штогадова на скарб па каменю лою, а хрысціяне з «каморы і будак» па «пол-каменя». Забараняўся продаж быдла «пад бра-

маі, на вуліцах ці на дамах, было вызначана месца гандлю жывым быдлам «каля аптэкі ў рынку». Парушальніка чакаў штраф у 10 коп грошай літоўскіх на карысць замкавых улад і 5 — «да скарбу мескага». У 1777 г. майстры заплацілі падаткаў на скарб 100 злотых. Рамеснікі гэтага цэха валодалі ў месце 8 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 100 злотых, а таксама апекваліся над трыма ўдоўімі дамамі.

**САФ'ЯНІЦКІ ЦЭХ і ШАЎЦЫ «БЕЛАЙ РАБОТЫ»** — паводле інвентару 1647 г. саф'янікі плацілі замкаваму ўраду 20 коп грошай літоўскіх, а шаўцы «жоўтай работы» — 12. Такія калектыўныя выплаты на карысць княжацкай адміністрацыі сведчаць аб існаванні сталага рамеснага аб'яднання. Як мы мяркуем, чарговы прывілей братчыкі атрымалі «году 1662 месяца студзеня 1 дня»[27] ад кн. Багуслава Радзівіла (не першапачатковы). Адпаведна з ім братчыкі мелі права на штогадовае сычэнне шаснаццаці вёдраў мёду: восем на свята Св. Троіцы і восем на «Прэчыстую» паводле «старага каляндару». Рассычаны мёд братчыкі мусілі выпіць на працягу 4 дзён. Штогадовы падатак цэха быў 50 коп грошай «на дзень Св. Марціна свята рускае». У ліпені 1662 г. была прынята пастанова аб «чужой работе», якая прадпісывала цэхмістрам-саф'янікам пільна сачыць за тым, каб розныя асобы не апрацоўвалі скур і не выдавалі гэты тавар за работу саф'янікаў. Статут жорстка абмяжоўваў магчымых канкурэнтаў-гарбароў, якім пад страхам віны ў 5 коп грошай на карысць слуцкага ўраду і 7 коп грошай на брацкую скрынку, і страты выробленай прадукцыі, забаранялася «вырабляць сафьяны жоўтыя, чырвоныя, кардываны белыя і чорныя і вучыць сваіх вучняў рабіць сафьяны...». Гэты дакумент быў канфірмаваны Людавікай Каралінай Радзівіл 13 мая 1675 г. У інвентары места Слуцкага, які быў складзены ў 1683 г., пазначана, што мясцовыя саф'янікі плацілі ў мескі скарб на дзень Св. Міхаіла толькі 50 злотых, а «шаўцы жоўтага абутку» 30 злотых або пастаўлялі гайдукам у радзівілаўскае войска 10 пар «жоўтых ботаў». Праз 16 гадоў яны пастаўлялі ўжо 20 пар гайдуковага абутку. Сітуацыя з асобным плачэннем падаткаў гаворыць аб тым, што ня гледзячы на агульны «дах», поўнае зліццё ў адзінае аб'яднанне гэтых блізкіх спецыяльнасцей не адбылося, тым не менш агульныя інтарэсы былі. Для правядзення сходак рамеснікі карысталіся разам з шаўцамі «чорнай работы» домам Хржаноўскай. Але пазней, як сведчаць дакументальныя крыніцы, у 1685 г. цэхмістры і ўся цэхавая брацыя набылі за 380

---

[27] Праўда, захаваўся незацверджаны тэкст статута сумеснага цэха саф'янікаў і гарбароў, што датаваны 2 студзеня 1662 г. Хутчэй за ўсё, ён застаўся ў праекце. Іншых сведчанняў агульнага існавання рамеснікаў гэтых спецыяльнасцей у аб'яднаным цэху намі не знойдзена.

Слясарныя і кавальскія вырабы.
*17—18 стст.*





злотых дом і пляц на вул. Спаскай у мяшчан Шэляговічаў. Наступны дакумент, што тычыўся дзейнасці гэтага брацтва, быў выдадзены «у годзе 1698 месяцы красавіку 26 дня» па ініцыятыве майстроў. Ад гандляроў дзёгцем патрабавалася, каб пры гандлі гэтым рэчывам бочкі з ім мусілі быць запячатанымі пячаткай. Гандлярам забаранялася дадаваць у бочкі з дзёгцем ваду і, за выключэннем вельмі марозных дзён, разаграваць дзёгаць, кідаючы ў бочкі раскаленыя камяні. Дакументы 1699 г. сведчаць аб тым, што ў мескую скарбонку ад саф'янікаў паступала 50 злотых, а ад шаўцоў «жоўтага обуя» толькі 30. Ня гледзячы на розныя, магчыма, не заўсёды добразычлівыя абставіны, брацтва паспяхова існавала і ў 18 ст. Праўда, у 1715 г. цэхі саф'янікаў і шаўцоў белай работы згадваюцца як існуючыя асобна. Іншыя дакументальныя крыніцы сведчаць, што ў 1786 г. «гарбарскі і сафьяніцкі брацкі дом» знаходзіўся на вул. Усцінаўскай «тылам да ракі Случы». Саф'янікі ў 1777 г. заплацілі асобна ад шаўцоў падатак у памеры 200 злотых, а шаўцы белай работы — 250 злотых, апекваліся над чатырма ўдоўімі дамамі.

**СЛЯСАРСКА-КАВАЛЬСКІ ЦЭХ** — першапачатковы статут быў нададзены па прашэнню слуцкіх мяшчан віленскім харужым Станіславам Крыжкоўскім. Як сказана ў пазнейшым дакуменце 1662 г., «але у сувязі з тым, што паміж кавалямі, слесарамі, замочнікамі і ножэўнікамі часта узнікаюць спрэчкі, хто да якога цэха належыць і хто галоўны, вырашылі мы (князь — А. Ц. ) тых рамеснікаў на два розныя цэхі разлучыць», што і было зроблена. Такім чынам, у Слуцку ўзнікла два цэхі: КАВАЛЬСКА-НАЖЭЎНІЦКІ і СЛЯСАРСКІ.

**СЛЯСАРСКІ ЦЭХ** — стала існаваў ужо ў 1647 г. і адпаведна з дакументальнымі крыніцамі штогадова плаціў у замкавую скарбонку 8 коп грошай літоўскіх.

Атрымаў прывілей ад кн. Багуслава Радзівіла «у годзе 1662 месяцы студзені 1 дня». Акрамя слесараў сюды ўваходзілі мечнікі, кладзечнікі (вырабляілі вісячыя замкі), шыхтары-каніцельшчыкі, меднікі, золаташвеі, злотнікі, бляхары, нажэўнікі, катляры, канвісары. Адпаведна са статутам, акрамя цэхмістра ў кіраўніцтва цэха дадаткова абіралі яшчэ аднаго мечніка і аднаго кладзечніка — «людзей тутэйшых людзей аселых, якія мусяць аказваць уселякую раду і дапамогу» цэхмістру. Пункты статута былі канфірмаваны 13 мая 1685 г. У дакументах 1715 г. цэх згадваецца як дзеючы. У крыху пазнейшых дакументах зафіксавана, што «халупа і пляц цэху слясарскага і кавальскага» знаходзіліся на Старым месце па вул. Усцінаўскай «ідучы ад замку да Падвала». Магчыма, у гэты перыяд адбылося пэўнае паляпшэнне эканамічнай сітуацыі, што прывяло да набыцця агульнай маёмасці цэхавымі братамі. У 1777 г. рамеснікі цэха валодалі ў месце 13 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 100 злотых, а таксама апекваліся над чатырма ўдоўімі дамамі.

**СТАЛЯРСКА-ШКЛЯРСКІ ЦЭХ** — юрыдычна цэх аформіўся «ў годзе 1694 месяцы лістападзе 20 дня». У статуце, які надала Людавіка Караліна Радзівіл, было падкрэслена, што да цэха далучаны яшчэ стэльмахі і бондары. Усяго ў дакуменце 31 артыкул. Даволі адметным з'яўляецца палажэнне аб тым, «што калі цэхмістр да пісання неумеетны, тады цэхавы рэестр мусіць падпісаці войт места». Агульнацэхавая сходка адбывалася 1 раз на 2 тыдні а першай гадзіне па-палудні. Калі хто-небудзь парушаў парадак на ёй, яго чакала пакаранне ў 2 капы грошай на брацкую скрынку і столькі ж на слуцкі замкавы ўрад. Нельга казаць аб вялікіх фінансавых поспехах гэтага рамеснага брацтва; у дакументах было пазначана, што правент (гадавы падатак — А.Ц.) складаў, як і другіх убогіх цэхаў, 6 злотых. Ня гледзячы на гэту акалічнасць, рамеснае аб'яднанне працягвала існа-



Шкляры за працай.
*Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*

ваць і ў 18 ст. Згадваецца ў 1777 г. як дзеючы. Праўда, у гэты час ён меў назву «сталярска-стэльмахоўскі». Рамеснікі цэха валодалі ў месце 22 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 200 злотых.

**ТКАЦКІ ЦЭХ** — першапачаткова «артыкулы цэхавага парадку» былі зацверджаны 23 лістапада 1662 г. войтам слуцкім К. Вінклерам, а пасля яго «тот ліст до далейшай волі і зацвярджэння ткацкага цэху самім князям, яго міласццю» прамежкава (9 жніўня 1663 г.) камісарам слуцкага княства К. Клакоцкім. Амаль праз 2 гады пасля першага надання цэхавы статут быў падпісаны кн. Багуславам Радзівілам 7 лістапада 1664 г. У ім было 34 артыкулы. Паводле статута агульнацэхавыя сходкі абавязкова мусілі адбывацца кожныя 2 тыдні. Майстрам дазвалялася мець толькі тры варштаты. Адначасова забаранялася пад страхам кары ў камень воску і пажыццёвай страты рамяства прымушаць сваіх хлопцаў працаваць адразу на трох варштатах. Хлопец мог рабіць толькі на адным, а пры двух астатніх мусілі працаваць яго майстар-настаўнік і падмайстар-таварыш. Другі раз статут быў пацверджаны камісарамі Слуцкага княства — Янам Хвалкоўскім і Яна Реерам 13 мая 1685 г. Гэты камісарскі дакумент быў зацверджаны Людавікай Каралінай Радзівіл «у годзе 1699 месяцы ліпені 23 дня». Цікавы ардананс быў выдадзены «ў годзе 1716 месяцы снежні 15 дня». У гэтай пастанове камісараў было падкрэслена, што братчыкам забараняецца ўсялякі гандаль ткацкімі вырабамі ў дні талок. У пачатку 18 ст. цэх даволі паспяхова працягваў сваё існаванне. Як выцякае са скаргі, што была пададзена ў мясцовы магістрат у чэрвені 1760 г. ад рамеснікаў, якіх накіравалі на скарбавыя работы са Слуцка ў Старчыцы, і калі яны вярнуліся дамоў праз 3 (!) гады, то «убачылі дамы апаўшыя жонкі і дзеткі (іх — А. Ц. ) дайшлі да убоства». Сутнасць прэтэнзій рамеснікаў была ў тым, што ім не была выплачана дагаварованая сума грошай за выкананую працу. «У годзе 1670 месяцы ліпені 23 дня» у гродскі суд трапіла скарга ад цэхавага пісара Яна Кухарэвіча на тагачаснага старшага цэха Фёдара Шуменка, які «...збунтаваў у цэху некаторых сафьянікаў і выгнаў з пісарства Я. Кухарэвіча», не заплаціўшы заробленых ім грошай і абразіўшы яго перад войтам. Заўважым, што пацярпелы прапрацаваў на гэтай пасадзе «чатыры поўных і яшчэ чверць року». Акрамя таго, цэхавыя браты, якімі верхаводзіў той жа Шумянок, напалі на дом актора-істца, што на вул. Усцінаўскай, «паграбілі цыну ангéльскую (коштам — А. Ц. ) на 18 злотых польскіх, а нарабаваныя рэчы «або да карчмы або да жыда Рудога на Спаскай вул. (прадалі — А.Ц.)». «Або з таго грабёжу, або з цэхавай скрынкі напілі 10 гарнцаў мёду».

На жаль, далейшыя дакументы па гэтай справе не знойдзены, таму не вядома, чым яна скончылася.

Цэх згадваецца ў 1715 г. як дзеючы. Значнай эканамічнай сталасці цэх дасягнуў у 70-я гг. 18 ст., аб чым ускосна сведчыць памер штомесячнага падатку, як плацілі цэхі слуцкаму скарбу на працягу 1777 г. У выніку ткачы заплацілі аж 300 злотых. Такую ж вялікую суму сярод слуцкіх цэхаў здолелі выплаціць толькі шаўцы «белага рамества». Рамеснікі цэха валодалі ў месте 38 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 250 злотых, а таксама апекваліся над двума ўдоўімі дамамі.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ («БЕЛАЙ РАБОТЫ»)** — з канца 17 — пачатку 18 ст. «шаўцы белай» або «жоўтай» работы вылучыліся з саф'яніцкага цэха. Ва ўсялякім выпадку абодва названыя цэхі плацілі падаткі паасобку. Цэх шаўцоў белай работы згадваецца ў 1777 г. як дзеючы. Рамеснікі гэтага цэха валодалі ў месте 40 дамамі і штогадова ўносілі ў княжацкую скарбонку падатак у 300 злотых. Трэба адзначыць, што ў гэты перыяд па колькасці рамеснікаў цэх знаходзіўся на 3-м месцы сярод астатніх слуцкіх цэхаў і на першым па сваёй эканамічнай сталасці.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ («ЧОРНАГА РАМЯСТВА»)** — інвентарнае апісанне «местаў Слуцкіх» зафіксавала наяўнасць гэтага аб'яднання яшчэ ў 1647 г. Статут быў нададзены



Шавецкі варштат.
*Медзярыт Яна Лейкена. 1698 г.*

цэху «у годзе 1662 месяцы студзені 1 дня». На нашу думку, дакумент не толькі ўпарадкаваў функцыянаванне рамеснага аб'яднання, але і зафіксаваў пісьмова тыя адносіны, што ўжо даўно склаліся. Адпаведна з даўняй традыцыяй братчыкі мусілі штогадова пастаўляць 20 пар ботаў слуцкім замкавым уладам «на чэлядзь». Адзначым, што ў тыя часы кошт пары «чорных ботаў» у 1654 г. у Слуцку складаў 50 грошай. Такім чынам, гадавы падатак гэтага цэха ў замкавую скарбонку быў крыху большым за 15 коп грошай літоўскіх. Каб падкрэсліць княжацкую ласку да братчыкаў, ім было дазволена двойчы на год безмытна сыціць па шэсць вёдраў мёду — на Вялікдзень і на

Пакравы «паводле старага каляндару». Гэтым мёдам не дазваляліся шынкаваць, а братчыкі мусілі самі выпіць яго на працягу 4 дзён. Каб пазбегнуць магчымых спрэчак паміж «шаўцамі белай і чорнай работы», у цэхавым статуце было пазначана, што да таго моманту, пакуль шаўцы «нямецкай і валоскай работы» не атрымаюць асабістага цэха, яны належаць да гэтага аб'яднання і выконваюць абавязкі на яго карысць. У інвентары 1683 г. места Слуцкага згадваюцца «шаўцы чорнага убрання», якія плацілі ў скарб на дзень Св. Міхаіла 20 злотых або здавалі замкавым уладам 20 пар «ботаў чорных, добрага рэзання». Цэх працягваў сваё даволі паспяховае існаванне і ў 18 ст. Праўда, звестак аб асобным брацтве ў Слуцку шаўцоў, якое б рабіла нямецкі ці валоскі абутак, не знойдзена. Цэх згадваецца ў 1777 г. як дзеючы. Рамеснікі валодалі ў месте 46 дамамі і плацілі штогадовы падатак у княжацкую скарбонку ў 250 злотых.



# ШКЛОЎ

**АЛЕЙНІЦКІ ЦЭХ** — найбольш дакладныя звесткі аб існаванні гэтага цэха захавалі дакументы 18 ст. Мяркуючы па памерах падаткаў, што плаціў цэх за перыяд з 1724 па 1768 гг., рамеснікі-алейнікі не займалі вядучых пазіцый у эканоміцы места. Сярэднегадавы «чынш» вагаўся каля лічбы ў 6 злотых.

**ГАРБАРСКІ ЦЭХ** — у першай чвэрці 18 ст. гэта рамесная ўстанова не вельмі вылучалася ў эканамічным жыцці места.

Як сведчаць дакументы, у гэты час гадавы «зямельны падатак», што плацілі браты за свае лаўкі, якія былі размешчаны на гарадской зямлі, раўняўся 5—6 злотым.

**КАВАЛЬСКІ ЦЭХ** — аб існаванні гэтага аб'яднання маюцца вельмі цьмяныя звесткі. Так, у дакументах 1772 г. фігуруе шклоўскі абывацель і кавальскі цэхмістр Іван Саўкін.

**ПЕКАРСКА-ХЛЕБНЫ ЦЭХ** — дакументальныя матэрыялы, якія тычацца цэха, захаваліся за перыяд 1715—1768 гг. Трэба адзначыць і той факт, што ў 20-х гг. 18 ст. у дакументах гэта аб'яднанне называлася «хлебны цэх», а ў 60 гг. таго ж стагоддзя — «пекарскі». Цэх аб'ядноўваў у сабе братчыкаў як хрысціян, так і іудзеяў. У 1715 г. у месте налічвалася 36 хлебных лавак, за якія ў мескую скарбонку трапляла зямельнага падатку 57 злотых і 20 грошай. Па дадзеных на 1720 г. у Шклове было 36 хрысціянскіх «хлебных лавак» і 21 «жыдоўская». Тагачасным цэхмістрам быў Максім Глама. У 60-я гг. 18 ст. цэх даволі паспяхова працягваў сваё існаванне.

**РЫБАЦКІ ЦЭХ** — паводле фрагментарных дакументальных дадзеных за 1764—1768 гг., што захаваліся да нашага часу, можна зрабіць высновы аб існаванні такой цэхавай установы ў месте. Як сведчаць лічбы ўплаты штогадовага падатку (інтраты чыншовай), рыбацкі цэх места Шклоўскага плаціў найбольшую суму ў параўнанні з іншымі мясцовымі цэхамі. Кожны год адзначанага перыяду мясцовыя рыбакі плацілі падатак па 100 тынфаў. Для параўнання скажам, што адзін з найбольш багатых тамашніх цэхаў — хлебна-пекарскі плаціў тады ў сярэднім па 25 тынфаў на год.

**РЭЗНІЦКІ ЦЭХ** — найбольш ранняя згадка, што зберагласл ў дакументальных крыніцах, адносіцца да 1693 г. У 1720 г. цэх узначальваў рэзніцкі цэхмістр Радыён Налівайка. На той час у месте вакол ратушы размяшчалася 10 хрысціянскіх рэзніцкіх лавак і 4 жыдоўскіх. У 60-я гг. 18 ст. цэх плаціў падатак у гарадскі скарб каля 60 злотых. Гэта другі па сваіх памерах зямельны чынш пасля мясцовых рыбакоў. Такое становішча дазваляе сцвярджаць аб даволі значнай эканамічнай сталасці братоў цэха. У 1771—1772 гг. рамеснікі-рэзнікі ў сувязі з пераходам на новае места Шклова аднымі з першых пабудавалі на Новым Месце яткі з 12 каморамі.

**ШАВЕЦКІ ЦЭХ** — знойдзеныя звесткі, што тычацца рамеснікаў гэтай спецыяльнасці, галоўным чынам адносяцца да перыяду 1715—1724 гг. Гэтыя крыніцы адзначаюць невялікую эканамічную сталасць рамеснага аб'яднання: «у сувязі з тым, што цэх малы (рамеснікі — А. Ц.) займаюцца продажам «чорнага абутка». У якасці зямельнага падатку за «грунты», на якіх былі размешчаны іх гандлёвыя кропкі, братчыкі штогадова ўносілі ў мескі скарб па 15—20 злотых.




Літніцкі варштат.
*Дрэварыт Ёста Амана.*
*Другая палова 16 ст.*

# ПРЫСЯГА СЛУЦКАГА ЦЭХМІСТРА[28]

Я цэхмістр цэху прысягаю Пану Богу усё могучаму і адзінай Святой Троіцы у тым, што верна і справедліва справы цэхавыя за цэхмістроўства сваё, без пакрыўджання братоў і цэхавай скрынкі, выконваць буду. Абы ўселякаму ўраду добраму, за цэхмістроўства маё [работы выконваліся — А. Ц.], што да нашага рамества будзе належалі адпаведна артыкулаў цэхавых апісанага, цэху нашага. Абы аніякая перашкода не стала у тых правах і добрых звычаях а асабліва ад людзей, што пьянствам і гультайствам бавятся.

Віны уселякія і даходы, што належаць цэху без агляд кі на родзічаў і суседзяў і іншых людзей, [без — А. Ц.] ненавісці альбо гневу выконваць буду і належныя віны Найяснейшай Княжне Маркграфіне Бранденбурскай Пані нашай міласцівай, якой ва усім, так і у гэтым вернасць трымаці буду.

Падпарадкаванасць тутэйшаму месту, а менавіта Яго Міласці Пану Губернатару справедліва, без уселякага патурання не крывячы [сумленнем— А. Ц.], распавядаць, а еслі, барані Божа, штонебудзь праціўнае супраць Іх Міласцяў на каго тое будзе паказваць, шчыра Яе Міласць альбо войта перасцярэгчы.

Цэхавыя даходы нікуды накіроўваць нябуду без ведання і дазволу Братоў і ўсе реестры Прыходаў і Расходаў пры здачы цэхмітроўства свайго чэсна разрахоўваць са ўсяго. Пры гэтым здаваць [рахункі— А. Ц.] паводле наданых цэху Іх Міласцямі князямі правоў забавязуюсь.

На тым як праўдзіва і шчыра я прысегаю, так [і — А. Ц.] мне Пан Бог дапаможа.

---

[28] Тэкст прысягі, хутчэй за усё, з'яўляўся стандартным для цэхаў усёй краіны і быў складзены ўжо ў 16 ст. Для кожнага места і цэха маглі ўключацца пэўныя адметныя моманты. У нашым выпадку гэта згадка пра ўладальнікаў князёў і больш позняя (80 х гг. 17 ст. ) пра князёўну Людавіку Караліну Радзівіл.

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ АСНОЎНЫХ РАМЕСНЫХ ПРАФЕСІЙ
## (як яны называліся ў даўнія часы)

**АЛЕЙНІК** — купец, які спецыялізаваўся на гандлі «алеяў» (маслам сланечніка), «алівай» (аліўкавым маслам) і інш. відамі раслінных алеяў, радзей рамеснік, які займаўся вырабам гэтых прадуктаў.

**БАЛТУШНІК** — назва рамеснікаў-гарбароў, якія займаліся вузка спецыяліза-ванай аперацыяй: вымачывалі — боўталі скуры пры дапамозе вялізных кіёў у чанах, што былі напоўнены вадкасцю з дубільнымі рэчывамі альбо наварам попелу.

**БЕЛАСКУРНІК** — назва рамеснікаў-гарбароў, асноўнай спецыялізацыяй якіх быў выраб асоба дэлікатных гатункаў скуры — саф'яну, пергаміну.

**БОНДАР** — рамеснік, які рабіў бочкі, дзежкі і інш. ёмкасці з драўляных клёпак.

**ВІНАКУР** — рамеснік, які займаўся вырабам спіртных напояў («гарачае віно») шляхам перагонкі.

**ВОСКАБОЙНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам і гандлем воскам.

**ВЯРОВАЧНІК** — гл. ЛІНІЯР.

**ГАНЧАР** — рамеснік, які рабіў з гліны посуд — гаршкі, глякі, рынкі, кафлю і г. д.

**ГАРБАР** — агульная назва рамеснікаў, якія займаліся апрацоўкай скур як свойскіх, так і дзікіх жывел.

**ГАФТАР** — рамеснік, які займаўся залатым шыццём.

**ДУБАТОЎКА** — назва рамеснікаў-гарбароў, якія займаліся вымачываннем скур у вялізных бочках, якія былі напоўнены вадкасцю з дубільнымі рэчывамі.

**ЖАБРАК** — асоба, якая знаходзілася на ніжэйшай прыступцы сацыяльнай лесвіцы, а крыніцай яе існавання з-за фізічных ці душэўных хвароб, ці неспрыяльных навакольных абставін было прафесійнае жабрацтва.

**ЗАМШАНІК** — назва рамеснікаў-гарбароў, якія займаліся вырабам асобнага гатунку скуры — замшы.

**ЗБРОЙНІК** — агульная назва рамеснікаў, якія займаліся вырабам узбраення. У залежнасці ад асноўнай спецыялізацыі мог мець розныя назвы.

**ЗЛОТНІК** — рамеснік, які займаўся апрацоўкай каштоўных металаў, камянёў. У залежнасці ад асноўнай спецыялізацыі мог называцца — ювілер, лапідэр, срэбранік, злотнік, гравёр, рытоўнік і інш.

**КАВАЛЬ** — рамеснік, які займаўся апра-цоўкай металу пры дапамозе агню і молата.

**КАЛЕСНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам колаў.

**КАНВІСАР** — рамеснік, які займаўся вырабам прадметаў побыту з літога волава.

**КАТЛЯР** — рамеснік, які займаўся вырабам катлоў і інш. побытавых прадметаў з медзі.

**КОЛАДЗЕЙ** — гл. КАЛЕСНІК.

**КРАВЕЦ** — рамеснік, які займаўся пашывам адзення.

**КРАХМАЛЬНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам і гандлем крахмалам.

**КРАШАНІННІК** — рамеснік, які займаўся афарбоўкай тканін. У розных мясцовасях мог называцца па-іншаму.

**КРУПНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам і гандлем круп розных гатункаў.

**КУЗНІК** — прафесія, роднасная кавалю, вырабляў больш тонкія і делікатныя рэчы.

**КУПЕЦ** — асоба, якая займалася гандлем рознымі таварамі без вузкай спецыялізацыі і буйнымі партыямі.

**КУШНЕР** — агульная назва рамеснікаў, якія займаліся апрацоўкай футра і пашывам адзення, некаторых мадэляў шапак з яго.

**ЛАЗЕБНІК** — асоба, якая працавала ў лазні і часта спрабавала стварыць канкурэнцыю цырылікам у аказанні простых медычных паслуг насельніцтву.

**ЛІНІЯР (ЛІННІК)** — рамеснік, які займаўся вырабам вяровак, канатаў, ліней і інш. У розных мясцовасях мог называцца па-іншаму.

**МАГЕРНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам галаўных убораў — шапак: магерак, капялюшоў, аблавухаў і інш. У розных мясцовасцях мог называцца па-іншаму.

**МАЛЯР** — рамеснік-мастак, які займаўся роспісам храмаў, свецкіх будынкаў, маляваннем карцін, сцягаў, абразоў і г. д.

**МЕЧНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам «белай зброі» — мячоў, кордаў, шабляў і г. д.

**МЯДЗЯНІК** — гл. КАТЛЯР.

**МУЗЫКА** — асоба, якая іграла на розных грамадскіх альбо прыватных цырымоніях і ўрачыстасцях.

**МУЛЯР** — рамеснік, галоўнай спецыялізацыяй якога было будаўніцтва з каменю альбо цэглы.

**МЫДЛЯР** — рамеснік, які займаўся вырабам мыючых сродкаў для бялізны, адзення і асабістай гігіены.

**НАЖЭЎНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам «белай зброі» —нажоў.

**ПАБРАІЧ** — рамеснік, які займаўся вырабам конскай збруі — цугляў, астрогаў, страмёнаў.

**ПАЛОТНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам палатна тканін, другая назва — ТКАЧ.

**ПАНЧОШНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам і гандлем панчохамі і шкарпэткамі.

**ПАСТРЫГАЧ** — (суч. стрыгаль) рамеснік, які займаўся стрыжэннем авечак.

**ПЕКАР** — рамеснік, які займаўся выпяканнем і рэалізацыяй хлебна- булачных вырабаў.

**ПЕРАКУП** — асоба, якая спецыялізавалася на перапродажы харчоў і тавараў паўсядзённага попыту.

**ПІВАВАР** — рамеснік, які варыў піва.

**ПЛАТНЕР** — назва рамеснікаў-збройнікаў, якія мелі вышэйшую кваліфікацыю і часта працавалі толькі па індывідуальнай дамове; займаліся вырабам металічных даспехаў не толькі для рыцара, але і для яго каня.

**ПЛОТНІК** — гл. ЦЯСЛЯР.

**ПРАСОЛ** — асоба, якая спецыялізавалася на гандлі дробнымі партыямі тавараў альбо таварамі паўсядзённага попыту ў розніцу.

**ПУШКАР** — рамеснік, які займаўся вырабам «чорнай зброі», што дзейнічала пры выкарыстанні парахавога набою — гармат, пазней мушкетаў і г. д.

**РЫБАК** — асоба, галоўнай спецыялізацыяй якой была лоўля рознай рыбы, а часта і першасная апрацоўка, і гандаль прадуктам сваёй працы.

**РЫБНІК** — асоба, якая спецыялізавалася на гандлі рознымі гатункамі рыбы — свежай, сушанай, венжанай, салёнай (даволі буйнымі партыямі).

**РЫМАР** — зборная назва рамеснікаў, якія займаліся вырабам конскай збруі, розных вазкоў, карэт, калясак, дрожкаў, калёс і інш.

**РЭЗНІК** — рамеснік, які займаўся забоем быдла і інш. свойскіх і дзікіх звяроў, выконваў функцыі сучаснага санітарна-эпідэміялагічнага нагляду і гандляваў мясам.

**РЭЗЧЫК** — рамеснік, які займаўся разьбой па дрэву.

**САЛАДОЎНІК** — рамеснік, які займаўся прыгатаваннем соладу для варкі піва, часта так называлі і піваваралў.

**САФ'ЯНІК** — рамеснік, асноўнай спецыялізацыяй якога быў выраб з казловай або авечай скуры — саф'яну, што вылучаўся яркай афарбоўкай, высокай якасцю апрацоўкі і сваім высокім коштам.

**СВЕЧНІК** — рамеснік, які спецыялізаваўся на вырабе свечак, што, дарэчы, не патрабавала высокага ўзроўню прафесійнай кваліфікацыі.

**СІТНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам і гандлем рознымі гатункамі мукі.

**СЛЕСАР** — рамеснік, які займаўся галоўным чынам механічнай апрацоўкай металу.

**СНІЦАР** — рамеснік, які займаўся разьбой па дрэве, працаваў галоўным чынам у культавых установах, дамах заможных заказчыкаў; рабіў драўляныя скульптуры, алтары, афармляў памяшканні свецкага прызначэння, дамы заможных заказчыкаў і г.д.

**СТАЛЯР** — рамеснік, які займаўся вырабам мэблі, аконных пераплётаў і інш. побытовых рэчаў.

**СТРЫХАР** — рамеснік, асноўнай спецыялізацыяй якога быў выраб цэглы.

**СТЭЛЬМАХ** — рамеснік, які займаўся вырабам карэт, вазкоў, лёгкіх павозак.

**СЯДЛЯР** — рамеснік, асноўнай спецыялізацыяй якога быў выраб конскіх сёдлаў.

**ТКАЧ** — рамеснік, які займаўся вырабам палатна тканін, другая назва — ПАЛОТНІК.

**ФАРБЕР, ФАРБОЎШЧЫК** — гл. КРАШАНІННІК.

**ХЛЕБНІК** — гэта купец, які спецыялізаваўся на гандлі вялікімі партыямі збожжа.

**ЦЫРУЛЬНІК** — рамеснік, які займаўся лячэннем хворых. Дакладней яго называць «цырылік». Адна са спецыялізацый гэтых рамеснікаў — аказанне хірургічнай дапамогі насельніцтву.

**ЦЯСЛЯР** — рамеснік, які займаўся апрацоўкай драўніны — вырабам бярвенняў, бруса, дошак і будаўніцтвам з іх дамоў, перекрыццяў і г. д. У розных мясцовасях мог называцца па-іншаму.

**ЧАПНІК** — рамеснік, які займаўся вырабам галаўных убораў — шапак: магерак, капялюшаў, аблавухаў і інш. У розных мясцовася мог называцца па-іншаму.

**ШАВЕЦ** — рамеснік, які займаўся пашывам абутку. У адпаведнасці са сваёй спецыялізацыяй падзяляліся на тых, хто выробляў больш дарагі і лёгкі абутак (яны лічыліся «шаўцамі белай работы») і хто спецыялізаваўся на больш масавай прадукцыі — ботах, нескладаных пантофлях і г. д. («шаўцы чорнага рамества»).

**ШАПАВАЛ** — рамеснік, сыравінай для якога была воўна і які займаўся валяльнай (шапавальнай) вытворчасцю.

# КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Акты, издаваемые комиссиею, высочайше утверждённою для разбора древних актов в Вильне.

Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа.

Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилёвской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске.

Полоцкая ревизия 1552 года.

Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам.

* * *

Alexandrowicz St. Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemyslowy w miasteczkach Bialrusi b Litwy XVI do polowy XVII w. // Zeszyty Naukowie uniwersitetu im. Adama Mickewicza w Poznaniu. Historia. Nr. 6. Poznań, 1964. S. 23—54.

Alexandrowicz St. Ordynacja miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1647 r. // Rocznik Bialostocki. T. III. Bialystock, 1963. S. 439—447.

Hedeman O. Druja magdeburskie miasto. Odbitka z pracy «Dzisna i Druja magdeburskie miasta». Wilno, 1934. S. 40—46).

Horn M. Zydowskie bractwa rzemiesnicze na zemiach polskich, litewskich, bialoruskich i ukrainskich w latach 1613— 1850. Warszawa, 1998.

Jodkowski J. Cechi Grodzieńskie w wiekach dawnich. Grodno, 1926.

Miniatury z kodexsu Baltazara Behema. Kraków, 2000.

Topolska M. B. Szklow i jego rola w gospodarce Bialorusi wschodniej w XVII—XVIII w. / Roczniki dziejow… . T. XXX. Poznań, 1969.

Wurlitzer. Bernd. Historische Werstaten. Berlin, 1989.




Адащик Ф.И. Экономическое развитие белорусского города в 17 — первой половине 19 в. Автореферат. Минск, 1969.

Грицкевич А. П. Социальная борьба горожан Белорусии (XVI—XVIII вв .). Минск, 1979.

Грицкевич А.П. Социально-кономическое развитие частновладельческого города Белоруссии в 16—18 вв . (по материалам Слуцка). Автореферат. Минск, 1963.

Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XV—XV вв . Минск, 1975.

Даўгяла З. Магілёўскае «Брацтва прасолаў» // Гісторыка-археалагічны зборнік. 1927. С. 121—129.

Забела Т. Места Берасцейскае ў 16 сталецці // Працы клясы гісторыі. 1927. Т. 3. С. 81—126.

Игнатенко А.П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв . Минск, 1963.

Клименко Ф.В. Западнорусские цехи в 16—18 вв . Киев, 1914.

Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие города Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1975.

Копысский З.Ю. О ремесленном производстве в городах Белоруссии в 16 — первой половине 17 вв . // История СССР. 1959. № 3. С. 118—129.

Краснянскі Ул. Г. Кнігі прывілеяў месту Віцебску // Віцебшчына. 1925. Т. 1. С. 148—150.

Ластоўскі В. Гісторыя беларускай «крыўскай» кнігі. Коўна, 1926. С. 327—329.

Марзалюк І.А. Магілёў у XII —XVIII стст. Мінск, 1998.

Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн.1978.

Цітоў А. Менск — места майстроў. Мінск, 2002.

Цітоў А. Цэхавая геральдыка Беларусі // Мастацтва Беларусі. 1987. № 6. С. 65—67.

# ЗМЕСТ

Навукова-папулярнае выданне

**Цітоў** Анатоль Кірылавіч

# КРАІНА МАЙСТРОЎ

Рамесныя цэхі Беларусі: 16 – канец 18 ст.

Рэдактар В.В. Фядзьковіч
Камп'ютарная вёрстка, дызайн: П.В. Баранаў
Карэктар В.А. Кульбіцкая

Падпісана да друку 11.01.2013.
Фармат 50×100 1/8. Гарнітура Garamond Premier Pro.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 18,4. Ул.-выд. арк. 9,6.
Тыраж 1 100 экз. Заказ 22.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 ад 11.03.2009
Вул. Каржанеўскага, 20,
220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.







В 2012 году в издательстве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» увидит свет уникальное издание — публикация исторических документов «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.», подготовленное сотрудниками Национального исторического архива Беларуси в серии «Беларусь у актавых кнігах XVI—XVIII стст.».

Книга включает завещания представителей магнатских родов, таких как Гарабурды, Воловичи, Гедройцы, Кишки, Мелешки, Нарбуты, Полубинские, Свирские, Тышкевичи, Юндзиллы и др., а также шляхты, мещан Беларуси, содержание которых наглядно раскрывает имущественные, финансовые, общественные отношения шляхты и мещан на территории Беларуси более 400 лет назад.

Публикация имеет большое общественное, историческое, образовательное, научное значение и будет полезной для историков, юристов, лингвистов, преподавателей, студентов высших учебных заведений, а также для всех тех, кто интересуется историей Беларуси.

